МІНІСТЭРСТВА ВЫШЭЙШАЙ І СЯРЭДНЯЙ СПЕЦЫЯЛЬНАЙ АДУКАЦЫІ БССР

ГОМЕЛЬСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА І МОВАЗНАЎСТВА

Міжвузаўскі зборнік

*ВЫПУСК IV*

Мінск
Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна
1976

Б 43 **Беларуская** мова і мовазнаўства. Міжвуз. зборнік. Вып. IV. Мн., Выд-ва БДУ, 1976.
276 с.
(М-ва выш. і сярэд. спец. адукацыі БССР. Гомел. дзярж. ун-т)

У навуковых артыкулах зборніка даследуюцца пытанні лексікі, граматыкі, агульнага мовазнаўства, дыялекталогіі і інш. Аўтары ставяць і дастаткова пераканаўча вырашаюць многія пытанні беларускага і параўнальнага мовазнаўства. Матэрыялы да дыялектнага слоўніка Гомельшчыны, змешчаныя ў зборніку, пададзены ў выглядзе слоўніка. Вартасць іх у тым, што гэта малавядомыя або зусім невядомыя масаваму чытачу лексічныя багацці Гомельшчыны.— Літ. у падрад. заўвагах.

Б $\frac{70103-036}{М317-76}$ 70—76 4 Бел

# II. ЛЕКСІКАГРАФІЯ

## МАТЭРЫЯЛЫ ДЛЯ ДЫЯЛЕКТНАГА СЛОЎНІКА ГОМЕЛЬШЧЫНЫ*

### Е

Е′ *дап. дз.* ёсць. У нас е́ карова (Ліхаўня, Нар.+Стаўбун, Ветк.). *Параўн.* е́сека, е́сьцяка, ёсьцяка.

Е′ДКІ I *прым.* востры. Каса ў мяне е́дкая такая (Баравікі, Светл.).

Е′ДКІ II *прым.* ядомы *(пра сена).* Такога е́дкага сена накасіла (Піркі, Браг.).

ЕЖАНЁ′ *н.* дзіцянё вожыка. Пабегла ежанё́. Якая ў яго прыгожанькая муска (Харчовае, Хойн.). *Параўн.* ежанё́нак, ежаня́, ежаня́тка.

ЕЖАНЁ′НАК *м., тое, што* ежанё. Зразу ежанё́нак не калючы (Хізы, Ветк.+Марозавічы, Б.-Каш.). *Параўн.* ежанё́, ежаня́, ежаня́тка.

ЕЖАНЯ′ *н., тое, што* ежанё. Ежаня́ піло толькі малако. Аднойчы яжыху з вельмі маленькім ежанё́м бачылі (Баравікі, Светл.). *Параўн.* ежанё, ежанёнак, ежаня́тка.

ЕЖАНЯ′ТКА *н., памянш.* да ежанё. А наша ежаня́тка ўжэ малако п'е (Піркі, Браг.).

ЕЖА′ЧКА *ж.* самка вожыка. У нас і вожыкаў, і ежа́чак, і ежанят багата тут е (Ручаёўка, Лоеўск.).

Е′ЛЬЦЫ *толькі мн., абрад.* пучок, сноп канопляў ці букет кветак. Як забіраюць маладую ў камору, е́льцы закідаюць на стрэху (Рагі, Гом.).

ЕЛЯНЕ′Ц *м.* ядловец. У нас еляне́ц не расце, але я знаю, што такая расліна е (Баравікі, Светл.).

ЕЛКАТА′ *ж.* ёлкасць. Была бы смачна, да ялчыць, елката́ (Баравікі, Светл.).

ЕМЯЛА′ *ж.* трава. Емяла́ ў пушчы расце, сена з яе добрае (Гармавічы, Жлоб.).

---

* Матэрыялы для слоўніка падрыхтавалі: В. І. Мядзведзева, Л. В. Цэхановіч (літары Е — Ж), В. А. Горленка, Д. А. Лявончанка (З — І), У. В. Анічэнка, А. П. Бадалей (К).

Е́НЬНІ *займ.* той. О, бач, як жукі ў хлараквосту: е́ньні жывы, е́ньні падох (Грушаўка, Нар.).

Е́СЕКА *тое, што* е. Е́сека ў мяне крыху сала (Камаровічы, Петр.); Добрая жытка настала, е́сека ўсёго, чого душа бажае (Бярэзнікі, Жытк.). *Параўн.* е́, е́сьцяка, ёсьцяка.

Е́СТЫ *займ.* гэты. З ѐстага я пашыю зіятку (Васільеўка, Гом.); Без ѐстага нельзя (Холмеч, Рэч.); Так намучыліся з е́стым дамерам (Стаўбун, Ветк.+Кабанаўка, Жлоб.). *Параўн.* ѐты.

Е́СЬЦЯКА *тое, што* е. Калі е́сьцяка запас, дак жыць можна, так я скажу (Горвань, Рэч.). *Параўн.* е́сека, ёсьцяка.

Е́ТТАКА (ѐттэка) *прысл.* тут. Пастаўце, кумка, ѐттака. Е́ттэка добрае пшэніца расце (Перароў, Жытк.).

Е́ТЫ *займ., тое, што* есты. Е́ты катух якраз яму (Стаўбун, Ветк.); Той мой мужык быў ні такі, а е́ты скупота нейкі (Перадавая, Раг.); Ужо е́тыя дзеці носяцца як угарэлыя (Б.-Люшава, Добр.+Антонаўка, Пракопаўка, Добр.; Кабанаўка, Жлоб.; Холмеч, Рэч.; Літвінавічы, Карм.; Ухоў, Ветк.; Холмеч, Рэч.).

## Ё

Ё́ДАСЦЬ *ж. толькі адз.* пранізлівая сырасць, холад *(пра паветра).* Ой, ё́дасць такая на дварэ (Быч, Карм.).

Ё́ДКІ *прым.* пранізліва халодны. Вада такая ё́дкая, нельзя памыцца (Стаўбун, Ветк.).

Ё́ЖЫК *м.* 1. вожык. Быў у мяне ё́жык (Бабовічы, Гом.); Ё́жыкі ў нас водзяцца (Засінцы, Ельск.+Дзямянкі, Добр.; Забалоцце, Патапаўка, Б.-Каш.; Піркі, Браг.; Халочча, Чач.; Холмеч, Рэч.); 2. *перан.* прычоска *(мужчынская).* Стары, а падстрыгся пад ёжык (Заспа, Рэч.+Багданавічы, Карм.; Залессе, Рэч.; Кавака, Рафалаў, Браг.; Касцюкоўка, Гом.; Лучын, Раг.; Ручаёўка, Лоеўск.).

Ё́ЖЫКАВЫ *прым.* вожыкавы. У глому ё́жыкавые берлогі (Засінцы, Ельск.). *Параўн.* ёжычы.

Ё́ЖЫЧЫ *прым., тое, што* ё́жыкавы. Ё́жычыя іголкі вельмі колкія (Карчовае, Хойн.).

Ё́ЛАЧКА *ж.* хвошч *(палявы).* Штоб мне далі другіе соткі, дзе нема ёлачкі, а то з ёю от картоплі аднэ бадыл-

ле остаецца (Падворак, Лельч.); Палявы хвошч ёлачкай завуць (Марозавічы, Б.-Каш.).

Ё́ЛЦА *абрад. н.* кветка, якой убіраецца хата маладой у дзень вяселля. Гарнае ёлца мы ёй зрабілі (Піркі, Браг.).

Ё́МАЧНІК (ёмашнік) *м.* чапяльнік. Ё́мачнік караткі, каб трохі хаця даўжэйшы, дак можа б і дастала скавараду (Іванаўка, Хойн.); Вось прыдзеш позна, дак ёмашнікам па спіне працягну (Марозавічы, Б.-Каш.+ Бабовічы, Гом.; Іванаўка, Хойн.; Любань, Б.-Каш.).

Ё́МКА I *прысл.* заўзята. А я ёмка гуляла, пакамест ногі не забалелі (Заходы, Рэч.).

Ё́МКА II *ж.* чапяла. Хапаеш скавараду рукамі, а ёмка наша дзе? (Крыўск, Б.-Каш.); Што, няма ёмкі, што ты скавараду рукамі бярэш? (Перароў, Жытк.); Ё́мку ў камешніку паставіла (Славань, Светл.); Вуймала сённі блінец ёмкай (Навінкі, Калінк.+Амелькаўшчына, Карчовае, Тульгавічы, Хвойнае, Хойн.; Антонаў, Ельск.; Апанасаўка, Маркавічы, Целяшы, Гом.; Астрагляды, Піркі, Браг.; Багунічы, Заходы, Лельч.; Баравікі, Светл.; Вазон, Сяўкі, Р.-Бурыцкая, Лоеўск.; Галоўчыцы, Будкі, Вуглы, Нар.; Горваль, Заспа, Краснае, Рэч.; Грабаўка, Грушаўка, Гом.; Жгунь, Насовічы, Добр.; Забалоцце, Раг.; Запясочнае, Злодзін, Махновічы, Маз.; Камаровічы, Макарычы, Навасёлкі, Петр.; Кароткавічы, Мормаль, Жлоб.; К.-Балсуны, Ухоў, Ветк.; Н.-Дуброўка, Акц.; Пясчанкі, Жытк.; Салтанаўка, Уваравічы, Б.-Каш.).

Ё́МКІ *прым.* спрытны, удалы, здаровы, моцны. Ё́мкі хлопец нашоўся *(жаніх)* (Харошаўка, Добр.); Унук наш хлопец ёмкі (Быч, Карм.); Вілашнік ёмкі (Васільеўка, Гом.); То ж ёмкая дзеўка была (Палессе, Чач.); Я ў маладосці дужа любіла ёмкага хлопца (Крыўск., Б.-Каш.); Майму ёмкаму сыну пашанцавала жаніцца на ўмелай дзяўчыні (Мормаль, Жлоб.).

Ё́Р'Я *н., толькі адз., зборн.* лахманы. Вазьмі тоя ёр'я і аддай каравашніку (Быч, Карм.).

Ё́СЦЯКА *тое, што* е. А ў гародзе маём ёсцяка і бульба і капуста (Стаўбун, Ветк.); Ё́сцяка што з'есці (Холмеч, Рэч.; Грушаўка, Церах.; Кабанаўка, Жлоб.; Крыўск, Б.-Каш.; Стаўбун, Ветк.; Сяўкі, Лоеўск.; Хальч, Гом.; Холмеч, Рэч.). *Парайн.* есека, есцяка.

Ё́ЎЧЫК *м.* сініца. На галіну яблані сеў ёўчык (Ліпляны, Лельч.).

# Ж

ЖА'БЕЧЫ *прым.* жабіны. Жа́бечая ікра пад вадам як рыб'я, а етая чорненькая, як з канаплянага семені, лентамі (Холмеч, Рэч.).

ЖА'БІЦЦА *незак.* карабаціцца. І чуць не ўсе новыя дошчачкі жа́бяцца (Халочча, Чач.).

ЖА'БНІЦА *ж., бат.* трава *(лекавая)*. Вып'еш настойку жа́бніцы і хваробу як рукой зняло (Быч, Карм.).

ЖАВА'КА *ж.* жвачка. Карову летась прырэзалі: захварэла, нешта жава́кі не жавала (Шарын, Ельск.); Карова жуе жава́ку (Ст. Дуброва, Акц.). *Парайн.* жава́чка, жавя́ка, жва́ка, жва́нка, жвя́ка, жу́йка, жуя́ка.

ЖАВА'ЧКА *ж., тое, што* жавака. Бывае бальная (карова), паганэ з'есць, тады не жуе жава́чку (Засінцы, Ельск.). *Парайн.* жава́ка, жавя́ка, жва́ка, жва́нка, жвя́ка, жуя́ка.

ЖАВІ'НА *ж., бат.* ажына. Вот варэння з жаві́ны добрая (Стаўбун, Ветк.); У нас пра жаві́ну мала хто ведае (Бабовічы, Гом.+Неглюбка, Ветк.).

ЖАВІ'ННІК *м., зборн., бат.* ажыннік. Жаві́ннік пасох (Стаўбун, Ветк.).

ЖАВЯ'КА *ж., тое, што* жавака. Карова жуе жавя́ку (Лядцы, Светл.). *Парайн.* жава́чка, жавя́ка, жва́ка, жва́нка, жвя́ка, жу́йка, жуя́ка.

ЖА'ГА *ж.* пякотка. Як жа́га печэ, то трэба сказаць тры разы: «Ой, ты, жа́га, не печы, спеку цебе ў печы» (Бярэзнікі, Жытк.). *Парайн.* жо́га.

ЖА'ГАЎКА (жа́галка) *ж.* 1. шчупак *(невялікі)*. Чаго ты круцішся, як жа́гаўка? (Углы, Ельск.). *Парайн.* жаглак. 2. *перан.* непаседа. От, ета жа́галка бегая тут (Грушаўка, Добр.).

ЖАГЛА'К *м., тое, што* жагаўка 1. Выцегнуў жаглака́ малога і рад (Бабовічы, Гом.).

ЖА'ГЛЯЎКА *ж.* мурашка. Улезла ў рукаў жа́гляўка і кусае (Пясчанікі, Жытк.).

ЖАДО'БІЦЦА *незак.* карцець. Жадо́біцца цябе здзелаць гэта (Баравікі, Светл.).

ЖАДО'БНІЧАЦЬ *незак.* шкадаваць. Чаго ты ўсё жадо́бнічаеш, нада такім не быць (Крыўка, Раг.).

ЖА'К *м., рыб.* нерат. Жа́к імея пяць абручоў (Хізы, Ветк.); Пастаў жа́к на рыбу (Грушаўка, Нар.); Поўны жа́к рыбы налезло (Ліхаўня, Нар.+Антонаў, Ельск.; Ба-

бовічы, Гом.; Баравікі, Светл.; В. Нямкі, Ветк.; Піркі, Браг.; Ручаёўка, Рэч.; Хвойнае, Хойн.).

ЖАЛЕ́ЗЗЕ *н.* пастка. Жале́ззе на воўка паставілі, а карова нагу ўправіла і прастаяла два дні (Прудок, Калінк.).

ЖА́ЛЕЦЬ *незак.* тлець. Запалілі ў грубі і пайшлі, а дзверцаў не закрылі. Прыходжу, а падлога жа́ляе (Пясчанікі, Жытк.).

ЖАЛКАВА́ЦЬ 1. *незак.* журыцца. Яна вельмі жалкава́ла па сыну (Белы Параезд, Петр.); 2. крыўдзіцца. Будзя жалкава́ць сама на сябе (Піркі, Браг.).

ЖАЛУБА́ЦЬ *незак.* 1. есці *(дрэнна)*. Бульбу жалуба́е як ні сваім ротам (Шарпілаўка, Гом.); 2. лускаць. Жалуба́й гарбузчыкі (Славань, Светл.).

ЖАЛУ́ДДЗЯ *н., зборн.* жалуды. Адзін год жалу́ддзя было спасеннем у нас (Халочча, Чач.+Неглюбка, Ветк.).

ЖАЛЯЗНЯ́К *м.* рыдлёўка. Зламаўся новы жалязня́к (Камаровічы, Петр.); Падай-ка мне жалязня́к, аткапаць нада трохі (Быч, Карм.); А я ўскапала свой гарод жалязняко́м (Іванкаўшчына, Маз.+Забелле, Петр.; Замо́сце, Калінк.; Кароткавічы, Жлоб.; Махловічы, Маз.; Навасёлкі, Петр.; Перароў, Жытк.; Хвойнае, Хойн.).

ЖАМЕ́РЫ *толькі мн.* жамерыны. Жаме́ры — ета насенне з канапель, патоўчаная з соллю (Палессе, Чач.)

ЖА́МКА *ж.* пячэнне, пернік. На ёлкі адны жа́мкі віселі (Шырокае, Б.-Каш.); Дзе ж не будзе худы, нічога не есць, акрамя жа́мак (Займішча, Добр.+Жгун, Буда, Добр.; Сяўкі, Лоеўск.).

ЖАРАЛО́ *н.* 1. лаз *(у склеп)*. Мы жарало́ з камня зрабілі (Кароткавічы, Жлоб.); 2. уваход *(у склеп)*. У жарало́ можна лазіць і без лесніцы (Халочча, Чач.); У нас у пограбе няма жарала́, у нас пограб з лазам (Забалоцце, Раг.+Бабовічы, Гом.; Бывалькі, Холмеч, Рэч.; Неглюбка, Ветк.; Піркі, Браг.); 3. запечча. Палажы дровы ў жарало́ (Харомцы, Акц.); 4. душнік *(у лазні)*. Ты адкрый жарало́, а то дымна ў бані (Сівенка, Ветк.).

ЖА́РАНКА *ж.* 1. бульба *(смажаная)*. Дробную жа́ранку сённі згатавала (В.-Люшава, Дуброўка, Добр.); 2. бульба *(тушаная)*. Жа́ранка ў печы з рання стаіць (Апанасаўка, Гом.+Бабовічы, Гом.; Займішча, Карма, Добр.; Залессе, Чач.; Зялёныя Лукі, Гом.; Крыўск, Б.-Каш.; Маркавічы, Гом.; Сівенка, Ветк.). *Параўн.* жа́ранікі.

ЖА'РАНІКІ *толькі мн.* бульба *(смажаная).* Паелі боршч, а патом жáранікі (Хутча, Браг.).

ЖАРО'НКА *ж.* грыбы *(смажаныя).* Лісічкі жарацъ і сыраежкі. Жарóнка добрая, калі падсмажаная (Баравікі, Светл.).

ЖА'РВАНАК *ж.* жаўранак. Ужо жáрванкі даўно прыляцелі к нам (Навінкі, Калінк.); Жáрванкі вясной прылятаюць (Навінкі, Калінк.). *Параўн.* жáўранка, жáўронак.

ЖАРНАЎШЧЫ'К *м., устар.* наладчык *(жорнаў).* Жорны рэдка вастрыў жарнаўшчы́к (Кароткавічы, Жлоб.+Неглюбка, Ветк.; Холмеч, Рэч.).

ЖАРНАЦЁ'РКА *ж., устар.* млын *(ручны).* Жарнацёрка была ў нас раней свая (Бабовічы, Гом.). *Параўн.* жóрван, жóрваны, жóрнавы.

ЖА'РНІК *м.* касцёр. Вось разгарыцца жáрнік, добра сагрэемся (Каранёўка, Гом.).

ЖАРТУ'Н *м.* жартаўнік. Ён быў вялікі жартýн (Запясочча, Жытк.).

ЖА'РЫ *прым.* рыжы, аранжавы. Плацце нейкае жáрае, як ліса (Мормаль, Жлоб.); Руды ў жáрага спрасіў: «Чым ты бараду красіў?» «Я на солнышке лежаў, угору бороду держаў» (Піркі, Браг.); Во якую я скацерку жáрую купіла (Піркі, Браг.); Ці такія жáрыя валасы растуць, мо зрабіла? (Піркі, Браг.).

ЖАЎКЛЯ'ВЫ *прым.* жаўтлявы. Гуркі ўсе ўжэ жаўкля́выя сталі (Баравое, Лельч.).

ЖАЎЛА'ЦЬ *незак.* крычаць. Ну, чаго яна ў цябе ўсё жаўлáе і жаўлáе (Хальч, Гом.).

ЖАЎНА' *ж., заал.* 1. жаўна. Жаўнá есь пчолы (Лядцы, Светл.+Навінкі, Калінк.; Углы, Ельск.); 2. *перан.* дзіця *(крыклівае).* Вось ужо жаўнá, толькі сплюшчыла вочы і зноў крычыць (Хальч, Гом.).

ЖА'ЎРАНКА *ж., тое, што* жáрванак. Асобінна ўранні жáўранка так пяе (Патапаўка, Б.-Каш.). *Параўн.* жáрванак, жаўрóнак.

ЖАЎРО'НАК *м., тое, што* жарванак. Жаўрóнак уецца к небу (Дзяржынск, Лельч.). *Параўн.* жарвáнак, жаўрáнка, жаўрóнак.

ЖАЎТАБРУ'ШКА *ж.* птушка. Пабач, сколькі жаўтабрýшак каля калхознага гумна кружыцца (Аравічы, Хойн.).

ЖАЎТАПЁ'САК *м., толькі адз.* глеба *(пясчаная).* Ета

калі ў глебе многа пяску, то і будзя жаўтапёсак (В. Стаўбун, Ветк.); Сёлята будзім сеяць на жаўтапёску (Бабовічы, Гом.); На тым жаўтапёску нічога не родзіць з роду (Чырвоная Паляна, Б.-Каш.). *Параўн.* жаўцяк 2.

ЖАЎТА′ЧКА *ж., мед.* жаўтуха. Кажуць, што ў яго жаўтачка (Ломыш, Хойн.); Мая Волька балела жаўтачкай (Буйнавічы, Лельч.+Піркі, Браг.).

ЖАЎТЛЯ′К (жаўкляк) *м.* гурок *(жоўты)*. Хай гэтыя жаўтлякі на семяно ляжаць (Сямёнаўка, Рэч.+Бабовічы, Гом.; Даманавічы, Калінк.; Казялужжа, Хойн.; Харомцы, Акц.; Холмеч, Рэч.); Жаўкляк — гэта гурок пераспелы. Калі жаўклякі краснеюць, з іх вымаюць насенне (Піркі, Браг.); На насенне жаўкляка застаўляюць (Марозавічы, Б.-Каш.+Баравікі, Светл.; Гарлавічы, Жлоб.; Забалоцце, Раг.; Пярэдзелка, Лоеўск.). *Параўн.* жаўцяк.

ЖАЎТУ′ХА *ж., бат.* зялёнка. Сяголета многа жаўтух нарасло (Майскае, Жлоб.).

ЖАЎТУ′ШКА *ж., заал.* амялушка. Жаўтушкі ніколі не пяюць, яны толькі свішчуць (Піркі, Браг.). *Параўн.* жаўтыр.

ЖАЎТЫ′Р *м., тое, што* жаўтушка. Жаўтыр нясе яечкі ў ламаччы (Лядцы, Светл.).

ЖАЎЦЯ′К *м.* 1. *тое, што* жаўтляк. Сабрала жаўцякоў, жоўтых насенняў, у рэчку панясла (Залессе, Чач.); 2. пясок *(жоўты)*. Ня нада іці да жаўцяка, а то зямля рушыцца (Быч, Карм.). *Параўн.* жаўтапёсак.

ЖА′ЧКА *ж.* жняя. Даўней цяжка було жачкам рукамі жаць (Калініна, Б.-Каш.). *Параўн.* жнечка, жняярка.

ЖВА′КА *ж., тое, што* жавака. Карова лежыць і жваку жуе, калі не жуе жвакі, то ена бальная (Ручаёўка, Лоеўск.). *Параўн.* жавака, жавачка, жавяка, жванка, жавяка, жуйка, жуяка.

ЖВА′НКА *ж., тое, што* жавака. Карова лежыць і жванку жуе (Ручаёўка, Лоеўск.). *Параўн.* жавака, жавачка, жавяка, жванка, жвяка, жуйка, жуяка.

ЖВЭ′НЬКАЦЬ *незак., зневаж.* гаварыць *(дакучліва)*. Вечна ты жвэнькаіш, што табе мала ўсіго (Амельна, Раг.).

ЖВЯ′КА *ж., тое, што* жавака. Карова жуе жвяку (Углы, Браг.+Баравікі, Светл.). *Параўн.* жуйка.

ЖЛУ′КТА *н.* (жлукта *ж.*) кадушка *(для выпарвання*

*бялізны)*. У нас жлу́кта было дзеравянае (Касцюкоўка, Гом.); Дай мне свайго жлу́кта плаццяпазаліць (Азяраны, Раг.+Антонаў, Багуцічы, Ельск.; Асінаўка, Чач.; Барталамееўка, Ветк.; Буда, Сафіеўка, Буйнавічы, Маз.; Гноеў, Хойн.; Горваль, Заспа, Рэч.; Грушаўка, Углы, Нар.; Жгунь, Добр.; Кавака, Браг.; Навасёлкі, Петр.; Пракопаўка, Добр.; Сівенка, Ветк.; Шырокае, Б.-Каш.); Жлу́кта — гэта ў нас дзежка без дна (Піркі, Браг.); Дзе наша жлу́кта стаіць (Быч, Карм.); Жлу́кту выдаўбавалі з ліпы (Холмеч, Рэч.); Вынуў з жлу́кты (Неглюбка, Ветк.); Калісь палатняныя сарочкі залілі ў жлу́кце (Марозавічы, Б.-Каш.+Бабовічы, Гом.; Багданавічы, Карм.; Баравікі, Светл.; Запясочнае, Маз.; Кароткавічы, Жлоб.; Лужын, Раг.; Прыбыткі, Гом.; Холмеч, Рэч.; Ч.-Буда, Добр.).

ЖМА'К *м.* жмут. Іван, прынясі жма́к сена (Углы, Ельск.).

ЖМІ'НДА *аг.* чалавек *(скупы, сквапны)*. Баба мая такая жмі́нда (Забалоцце, Раг.); Ты ўсяроўна жмі́ндам і памрэш (Востраў, Раг.); *Параўн.* жмо́т.

ЖМО'Т *м., тое, што* жмінда. Ну, і жмо́т ты, слоў больш нямашака (Багданавічы, Карм.).

ЖМЫ'КА *ж.* макуха. Жмы́ку аддаюць карове на корм (Башыца, Чач.). *Параўн.* жмы́х, жмыха́, жмы́чка, жо́м.

ЖМЫ'Х *м., тое, што* жмыка. Масла выціскаюць, а жмы́х выкідваюць (Кароткавічы, Жлоб.). *Параўн.* жмыха́, жмы́чка, жо́м.

ЖМЫХА' (жмуха) *ж., тое, што* жмыка. Сёння ў мяне многа жмыхі́. Жмыху́ можна есьці (Забалоцце, Раг.); Жмуху́, ад екоі вужмуццэ олей, оддавалі товару (Заходы, Лельч.+Залессе, Чач.). *Параўн.* жмы́х, жмы́чка, жо́м.

ЖМЫ'ЧКА *ж., тое, што* жмыка. Вельмі багата асталося жмы́чкі ў цябе (Навінкі, Калінк.).

ЖНЕ'ЎНІК *м.* ржышча. Жне́ўнік застаецца на полі, калі сажнуць жыта (Барталамееўка, Б. Нямкі, Ветк.). *Параўн.* жніўнік.

ЖНЕ'ЧКА *ж., тое, што* жачка. Нямашака цяпера жне́чак (Насовічы, Добр.). *Параўн.* жа́чка, жняя́рка.

ЖНІВА', жніво. Давай, кума, аддышам, а то ў жніву́ не аддышаш (Астрагляды, Браг.); Скора ўжэ і жніва́ наступяць (Калінін, Хойн.); Началіся жні́ва (Верасніца,

Жытк.); У нашым калгасе пачалося жніва (Ломыш, Хойн.).

ЖНІ'ЎНІК *м., тое, што* жнеўнік. Пасля жніва́ на жні́ўнік пускаюць скаціну (Дземяхі, Рэч.); Каровы пасвіліся на жні́ўніку (Белы Пераезд, Петр.+Астрагляды, Браг.; Пагоннае, Хойн.).

ЖНЯЯ'РКА *ж., тое, што* жачка. Адных тут тулькі жняя́рак не хватае (Пучын, Браг.).

ЖО'ГА *ж., тое, што* жага. Як з'ем кіселя, так і жо́га мучыць (Холмеч, Рэч.).

ЖО'ДНЫ *прым.* адзіны. Жо́дная мая дачка (Неглюбка, Ветк.).

ЖО'К *м.* трава *(лугавая)*. Жо́ку багата ля канавы, можна ўжэ жаць (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.).

ЖО'М *м., тое, што* жмыка. Выграбі жо́м (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.*, жмы́х, жмы́ха, жмы́чка.

ЖО'РВАН *м.* жорны. Жо́рван саўсім разваліўся (Багуцічы, Ельск.); Ці будзе каваліха́ малоць на сваім жо́рване (Уваравічы, Б.-Каш.). *Параўн.* жарнацё́рка, жо́рваны, жо́рнавы.

ЖО'РВАНЫ *тое, што* жорван. Раней жо́рваны былі (Піркі, Браг.); Бывала, із жо́рванаў каржа сыпячэш (Піркі, Браг.); Трэ жыто жо́рванамі ізмалоць (Грабаў, Петр.+Амелькаўшчына, Хойн.; Антонаў, Ельск.; Багуцічы, Ельск.; Галоўчыцы, Нар.; Заходы, Лельч.; Камаровічы, Петр.; Ляскавічы, Петр.). *Параўн.* жарнацё́рка, жо́рнавы.

ЖО'РНАВЫ *тое, што* жорван. Раней муку малолі ў жо́рнавах (Піркі, Браг.). *Параўн.* жарнацё́рка, жо́рван, жо́рваны.

ЖО'РАСЦЬ *ж. 1.* жэрдка. Жо́расці такія доўгія. Крыць хату трэба, ды жорасцяў няма (Кабанаўка, Жлоб.); 2. *зборн.* жэрдзе. Заўтра нарад на жо́расць выпішу (Іскра, Чач.).

ЖУ'ЖМА *ж.* 1. стос *(паперы)*. На стале ляжала жу́жма паперы (Бярозкі, Браг.); 2. мноства. Жу́жма жукоў усюды (Неглюбка, Ветк.).

ЖУ'ЙКА *ж., тое, што* жавака. Не жуе мая карова жу́йкі (Забалоцце, Раг.). *Параўн.* жава́ка, жава́чка, жавя́ка, жва́нка, жвя́ка, жу́йка, жуя́ка.

ЖУЛА'Н *м., заал.* саракуш. Жула́н — вельмі старожкая птушка. Калі падыдзеш да кубла, дык і ў галаву дзяўбе (Баравікі, Светл.).

ЖУ′ЛІК I *м.* прайдзісвет, абманшчык. Жу́лікі абманулі мяне, а я паверыла іх брахні (Халочча, Чач.+Багданавічы, Карм.; Іскра, Чач.; Кароткавічы, Жлоб.).

ЖУ′ЛІК II *перан.* бутэлька (0,25 л). Бабуля сустрэла сваю ўнучку і паслала ў лаўку за жу́лікам, бо да іх прыехалі госці (Антонаў, Ельск.).

ЖУ′ПІЦЬ *незак.* гутарыць. ГануЛя як пачне жу́піць, то ні канца, ні краю няма ў яе гутарцы (Буйнавічы, Маз.); А гэты дзядок усё жу́піць і жу́піць (Іванкаўшчына, Маз.); Ен ужэ жупіць нешта (Запясочнае, Маз.).

ЖУ′Р *м., толькі адз.* кісель *(аўсяны).* Аўсяную муку рашчыняюць, тады на рэшата і варацъ — ета жу́р (Холмеч, Рэч.); Жу́ру наварыць нада (Мормаль, Жлоб.); Жу́р учыняюць з аўсяных хлоп'яў, цёплай вады і дражджэй (Марозавічы, Б.-Каш.+Азяраны, Раг.; Багуцічы, Ельск.; Галоўчыцы, Раг.; Дзяржынск, Нар.; Кароткавічы, Жлоб.; Меркулавічы, Чач.; Навасёлкі, Петр.; Неглюбка, Ветк.; Тульгавічы, Хойн.; Холмеч, Рэч.).

ЖУРАВЕ′ЛЬ *м., перан.* бутэлька *(3 літры).* Жураве́ль з гарэлкай паставілі ў каморку (Н. Гута, Гом.); На вяселлі ў Ціта мо дзесяць жураўлёў гарэлкі пашло (Шырокі, Б.-Каш.). *Параўн.* жура́ў II.

ЖУРАЛО′ *н.* ручай. Як пройдзе дождж, дык у нас цераз вуліцу жураль́о бяжыць (Заспа, Рэч.).

ЖУРА′Ў I *м., заал.* жураве́ль. Жура́ў нясе сытаўку ў вырай (Лядцы, Светл.); Жура́вы ўжэ па балоту ходзяць (Навінкі, Калінк.+Углы, Браг.). *Параўн.* жура́ўка.

ЖУРА′Ў II. *м., перан., тое, што* журавель. У вугле стаяў жура́ў настойкі (Забалоцце, Раг.).

ЖУРА′ЎКА *м., заал., тое, што* жураў I. Жура́ўка нізка леціць (Дзямянкі, Добр.).

ЖУРАЎКІ′ *толькі мн., перан.* кольца на навоі. У нашом вороцілі вельмі вусокіе жураўкі́ (Тонеж, Лельч.); На жураўка́х падвешаны ніты (Будкі, Нар.).

ЖУРЫ′ЦЦА *незак.* 1. смуткаваць, хваляваЦца. Ды што ты журы́сся (В. Нямкі, Ветк.); 2. клапаціцца. А з сенам трэба журы́цца, бо карову карміць нада (Піркі, Браг.).

ЖУШЧЭ′РЫЦЬ *незак.* 1. жаваць *(пра чалавека).* Ты што ўсё жушчэ́рыш? (Харошаўка, Добр.); 2. жаваць *(пра жывёлу).* Карова жушчэ́рыць цэлую ноч сена (Насовічы, Добр.).

ЖУЯ́КА *ж., тое, што* жавяка. Кажуць, як жуе карова жуя́ку, дак добра (Аравічы, Хойн.). *Парайн.* жава́ка, жавя́ка, жва́нка, жва́чка, жу́йка, жуя́ка.

ЖЫ́ВА *прысл.* хутка. Жы́ва ідзі дамоў! (Гадзілавічы, Раг.).

ЖЫВАДЗЁ́Р *м.* снасць *(рыбалоўная)*. Жывадзёр сабе змайстраваў (Каранёўка, Гом.).

ЖЫВАЛУ́П *м.* гарэза. Жывалу́п, не набрацца табе нічога (Амельна, Раг.).

ЖЫВАСО́Л *м.* 1. сукравіца. Жывасо́л нада выліць зусім (Перарост, Добр.); 2. лёк. Сялёдку прадалі, застаўся адзін жывасо́л (Бабовічы, Гом.).

ЖЫВАТА́ЦЬ *незак.* крычаць. Другі раз ужэ ні жывата́й (Остров, Раг.).

ЖЫВЕ́Ц *м.* крыніца. Жывѐц усю зіму не замярзае (Хізы, Ветк.).

ЖЫВО́ТНІК *м., бат., толькі адз.* трава *(лекавая)*. Ніколі ты не нарвеш жыво́тніку, хай бу буў, мо і трэба колі будзе (Падворак, Лельч.).

ЖЫВУ́ЧКА *ж., бат.* гарлянка (Багданавічы, Карм.).

ЖЫГА́ЦЬ *незак.* джгаць. О, крапіва харашэ жыга́е, а вжэ ж (Стаўбун, Ветк.).

ЖЫ́Д *м., перан.* верабей. Жыды́ паляцелі, увесь авёс паелі (Неглюбка, Ветк.).

ЖЫДЗЁ́НКА *ж.* суп *(бульбяны)*. Паставіла ў печ чыгуна, ды зварыла жыдзёнкі (Крупец, Добр.+Жгунь, Добр.). *Парайн.* жыдзёха, жыдзю́ха, жыду́ха, жыду́шка.

ЖЫДЗЁ́ХА *ж., тое, што* жыдзёнка. У жыдзёху акрамя бульбы кладом і мяса, і цыбулю (Марозавічы, Б.-Каш.). *Парайн.* жыдзю́ха, жыду́ха, жыду́шка.

ЖЫДЗЮ́К *м., заал., перан., тое, што* жыд. Санька страляў з рагаткі па жыдзюка́м (Кароткавічы, Жлоб.).

ЖЫДЗЮ́ХА *ж., тое, што* жыдзёнка. Баба, навары мне сёння жыдзю́хі (Марозавічы, Б.-Каш.). *Парайн.* жыдзёнка, жыдзёха, жыду́ха, жыду́шка.

ЖЫДО́К *м., заал., перан., тое, што* жулан. Ек настане лета, так жыдо́к і параседзіць ў каноплях, у просі да ў санешніку (Ліпляны, Лельч.).

ЖЫДО́ЎКІ *толькі мн., бат., перан.* грыбы-паганкі. Ты ж глядзі добра, а то жыдо́вак набярэш (Дуброва, Акц.).

ЖЫДУ́ХА *ж., тое, што* жыдзёнка. Пастаў жыду́ху ля агню, каб хутчэй зварылася (Казацкія Балсуны,

Ветк.+Б.-Люшава, Добр.). *Парайн.* жыдзёнка, жыдзюка, жыду́шка.

ЖЫДУ'ШКА *н., тое, што* жыдзёнка. Калі накрышыш картоплі дай зварыш жыдкай, дак ета жыду́шка (Барталамееўка, Ветк.). *Парайн.* жыдзёнка, жыдзёха, жыдзюха, жыду́шка.

ЖЫ'ЖА *ж., толькі адз.* 1. *дзіцяч.* агонь. Не чапай, дзетачка, ета жы́жа, ручку спячэш (Неглюбка, Ветк.); Глянь сыночак, якая там жы́жа (Неглюбка, Ветк.); 2. што-небудзь гарачае. Не бяры, сыночак, скавараду, жы́жа (Запясочча, Жытк.); Ой, жы́жа, мама (Н. Гута, Гом.+Бабовічы, Гом.; Зарэчча, Жлоб.; Холмеч, Рэч.).

ЖЫ'ЖКА I *ж., толькі адз., бат.* крапіва. Жы́жка вельмі крепка жаліцца, ена ні цвіце (Ручаёўка, Лоеўск.+Баравікі, Светл., Холмеч, Рэч.); Жы́жкай сякуць ногі, калі яны баляць (Грушаўка, Нар.). *Парайн.* жы́чка II.

ЖЫ'ЖКА II *ж., кулін., толькі адз.* 1. жыжка *(у страве).* Жы́жка — ета вада ў жыдкай бульбе ці ў куляшы (Асінаўка, Чач.+Залессе, Чач.); 2. сала *(растопленае).* Вазьмі жыжку са скаварады злі (М. Нямкі, Ветк.).

ЖЫ'ЖКА III *ж.* стужка. Андаракі паабшываны жы́жкамі (Жлобін). *Парайн.* жы́чка I.

ЖЫ'ЖКІ *прым., перан.* запальчывы, злосны. У яе сэстра вельмы жы́жка (Грушаўка, Нар.).

ЖЫ'ЖЛІК *м., зневаж.* гарэза. Ішчэ еты жы́жлік пасяліўся ў нашым домі (Шылавічы, Б.-Каш.).

ЖЫ'ЗНЯ (жы́жня) *ж.* жыццё. Ох і жы́зня настала (Бабовічы, Гом.); Няма мне жы́зні (Неглюбка, Ветк.); Нада ж было мірыцца з такой жы́зней (Стаўбун, Ветк.); У кузні работаў усю жы́жню (Баравікі, Светл.). *Парайн.* жы́тка.

ЖЫ'ЛКА I *ж., рыб.* лёска. Такая здаровая рыба папалась, аж ледзь жы́лку не абарвала (Ручаёўка, Лоеўск.+Баравікі, Светл.; Засінцы, Ельск.; Ломыш, Хойн.; Хізы, Ветк.); На кожную рыбу свая жы́лка: на малую тонкая, на крупную таўсцейшая (Кароткавічы, Жлоб.).

ЖЫ'ЛКА II *ж.,* палоска. Магазіншчыца, падай мне чулкі ў жы́лку (Хальч, Гом.).

ЖЫ'ЛКА III *ж., бат.* карэньчык. З зельлям і жы́лкі морквы павырывала (Забалоцце, Раг.).

ЖЫЛЯЦЦА *незак.* напружвацца. Ні жы́ляйся напрасна, усіроўна адзін ні паднімеш (Карма, Добр.).

ЖЫ́МЯРА *ж.* кастрыца. З етага лёну жы́мяры штось многа (Быч, Карм.).

ЖЫРНУ́ЦЬ *зак.* стукнуць, ударыць. Січас як жырну́ табе, што пабіжыш за дзверы (Амельна, Раг.).

ЖЫРО́ЎКА *ж.* 1. месца жыравання рыбы. Жыро́ўкі ў рэчцы невялікія (Піркі, Браг.); От, кажуць, на возеры жыро́ўкі бачыў (Засінцы, Ельск.+Ломыш, Хойн.); 2. месца жыравання звяроў. А вот на етум месці жыро́ўка звера була (Ручаёўка, Лоеўск.); Беляка сустрэлі на жыро́ўцы (Літвінавічы, Карм.+Баравікі, Светл.). *Парайн.* жыро́ўня.

ЖЫРО́ЎНЯ *ж., тое, што* жыроўка. Рыбы сабраліся ў жыро́ўні (Старатоўцы, Жытк.).

ЖЫ́ТКА *ж., тое, што* жызня. Хіба даўней жы́тка була? Мучыліся толькі, дай усё (Пясчанікі, Жытк.); Хіба ж ёй з такім драчуном жы́тка? (Пераpоў, Жытк.); Цепер не та жытка, што раней була, цепер лепшая (Перароў, Жытк.+Ломыш, Тульгавічы, Хвойнае, Хойн.).

ЖЫ́ТНІК I *м., толькі адз.* каласо́ўнік. Усё поле жы́тнікам пазарастала (Піркі, Браг.). *Парайн.* жыце́ц, жы́цік.

ЖЫ́ТНІК II *м.* гатунак (*яблыкаў*), які паспявае летам. Жы́тнікі добра бяруць на базары (Марозавічы, Б.-Каш.+Грушаўка, Нар.). *Парайн.* жы́тніца, жыце́ц, жы́цік.

ЖЫ́ТНІЦА *ж., тое, што* жытнік II (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.).

ЖЫ́ТНІЧКА *ж., заал.* мыш-палёўка. Жытнічкаў гэтых развялося — не злічыш (Альбінск, Акц.).

ЖЫЦЕ́Ц *м., тое, што жытнік* I. Жыце́ц толькі ў жыце ёсць (Пярэдзелка, Лоеўск.); Жыце́ц расце по жыту, вон вельмо жыто робіць нечыстым (Падворак, Лельч.); Жыце́ц расцець у ляну (Марозавічы, Б.-Каш.+Баравікі, Светл.; Гармавічы, Жлоб.; Забалоцце, Раг.; Халочча, Чач.). *Парайн.* жыцік.

ЖЫ́ЦІК *м., тое, што* жытнік I. Етого жы́ціка не можна звесці з жыта (Падварак, Лельч.).

ЖЫ́ХНУЦЬ *зак.* успыхнуць. Калісь запаліў дровы, яны так і жы́хнулі (Піркі, Браг.).

ЖЫ́ЧКА I *ж., тое, што* жыжка II. Жы́чкі куплялі ў лаўцы. Жы́чкі збіралі ў кветачкі (Заходы, Рэч.).

ЖЫ́ЧКА II *ж., бат., тое, што* жыжка I. Жы́чка во ў нас пад заборам расцець (Піркі, Браг.).

ЖЭ'РАБ *м.* жарабец. Такі жэ́раб бальшы ў нашым саўхозі ё (Патапаўка, Б.-Каш.).

## З

ЗААСЁ'ТАК *м.* месца за ёўняй. У заасётак складалі палову ці што другое (Бывалькі, Рэч.).

ЗА'БАЛАЦЬ *ж.* мулінэ. Не хваціла за́балаці, не вышыла аднаго цвета (Асінаўка, Палессе, Чач.). *Парайн.* за́блаць, за́блач, за́палач.

ЗАБАЛМАТА'ЦЬ *зак.* забалбатаць. Як забалмо́ча, дак не поймеш, Будзіха тая (Быч, Карм.).

ЗА'БАРКІ *толькі мн.* зборкі. За́баркі рабілі ў вопрадцы даўнейшага пакрою (Неглюбка, Ветк.).

ЗАБАРСА'ЦЬ *зак.* зашнураваць. Забарса́еш новы лапаць, носіш і не плачаш (Багданавічы, Карм.+Баравікі, Светл.; Камунар, Б.-Каш.; Кароткавічы, Жлоб.; Нісімкавічы, Чач.; Р. Марымонава, Лоеўск.). *Парайн.* заварса́ць.

ЗА'БАРСКА *ж.* забарсня. Разарвалася за́барска, наёмка зараз (Майскае, Жлоб.); У вушкі адзяюць абору і дзелаюць за́барску, каб не спадаў лапаць (Марозавічы, Б.-Каш.); Намачыўся па самыя за́барскі (Баравікі, Светл.+Кароткавічы, Жлоб.; Тульгавічы, Хойн.; Шарын, Ельск.). *Парайн.* за́барстка.

ЗА'БАРСТКА *ж., тое, што* за́барска. Вады ў рацэ па за́барсткі (Багданавічы, Карм.).

ЗАБАРЫ'ЦЦА *зак.* затрымацца. Ганіце мяне, а то я забары́ўся ў вас (Быч, Карм.+Стаўбун, Ветк.; Холмеч, Рэч.).

ЗАБАЎТА'ЦЬ *зак.* замяшаць. Надворным свінням забаўта́еш ды выльеш, каб толькі не галасілі (Марозавічы, Б.-Каш.+Асінаўка, Чач.; Забалацце, Раг.).

ЗАБЕ'НЬКА *ж.* кошык *(сплецены з тонкіх яловых планак)*. Пайшла па ягады, то кажу, бяры забе́ньку, лепш жа несці, то не, узяла вядро (Мілашэвічы, Лельч.).

ЗАБІВА'ЦЦА *незак.* стамляцца. Які ж рашчот забіва́цца, ноч сядзіш, гарбееш, а ніякага толку (Быч, Карм.).

ЗАБІ'ТЫ *прым.* забыты, глухі. На забі́тым шляху Манька качанят сваіх знайшла (Марозавічы, Б.-Каш.).

ЗАБІ'ЦЦА *зак.* ударыцца. Забі́ўся галавой аб сценку (Быч, Карм.).

ЗАБІ́ЦЬ *зак.* дакурыць. Дай бычка забіць (Шэрахаў, Б.-Каш.).

ЗАБІЯ́КА *аг.* задзіра. Той, хто любіць біцца, о, кажуць, ён забіяка (Марозавічы, Б.-Каш.); Певень наш забіяка, трэба забіяку забіць (Забалацце, Раг.).

ЗА́БЛАЦЬ *ж., тое, што* забалаць. Купіла заблаці, вышыла набожнік (Капань, Рэч.); Заблаць у мяне розная ёсць, якая табе трэба, прыдзі паглядзі (Слабада, Ветк.). *Параўн.* заблач, запалач.

ЗА́БЛАЧ *ж., тое, што* заблаць. Заблач з вялікага клубка трэба разматаць і прасушыць, бо зусім адсырэла (Буйнавічы, Лельч.); Я з заблачы саткала такую добрую посцілку (Мялешкавічы, Маз.). *Параўн.* запалач.

ЗАБО́ЙКА I *ж.* бочка *(закрытая з двух бакоў)*. Іван, завязі маю забойку да апарата (Грушаўка, Ельск.).

ЗАБО́ЙКА II *ж.* франтон. Забойка ў хаце з вялікімі шчэлкамі (Янава, Ветк.). *Параўн.* закота ў I знач., запер.

ЗАБО́ЙНЫ *прым.* моцны *(вецер з дажджом)*. Ой, непагадзь якая, дошч назалівау усё, а вецер жа забойны (Піркі, Браг.).

ЗАБО́РСКА *ж.* шнурок. Дзе пападзеліся мае чорныя заборскі, адну заборску нейкую знайшла, ды не тую (Зарэчча, Жлоб.).

ЗАБО́РЫ I *толькі мн.* маршчыны. Заборы, як у старога дзеда (Залессе, Чач.).

ЗАБО́РЫ II *толькі мн., крав.* рушы. То маладыя носяць у заборы (Багданавічы, Карм.+Кірава, Браг.).

ЗА́БРАЎКА *ж.* праём *(у вушаку)*. Забраўка — ета паз такі. На етыя забраўкі насаджваецца вушняк (Раманавічы, Гом.+Рудня, Чач.).

ЗАБРО́ХАЦЦА *зак.* забрудзіцца, запэцкацца. Дзе ты так заброхкаўся? (Кабанаўка, Жлоб.).

ЗАБРЫТА́ЦЬ *зак.* забратаць *(каня)*. Пойдзеш на калгасны двор, забрытаеш каня сабе (Бабовічы, Гом.+Забалацце, Раг.; Насовічы, Добр.; Неглюбка, Ветк.; Марозавічы, Б.-Каш.; Норкаўшчына, Карм.; Халочча, Чач.; Холмеч, Рэч.). *Параўн.* загламаздаць, замуздаць, зануздаць.

ЗАБУЛБАТА́ЦЬ *зак.* зашумець. Вада ў рацэ як забулбоча (Піркі, Браг.).

ЗАБУРЫ́ЦЦА I *зак.* 1. разваліцца. Раз была школа

забуры́лася (Быч, Карм.); 2. упасці. Ляксей, ета ж тэй, што забурыўся, як йшоў на мосціку (Быч, Карм.).

ЗАБУРЫ'ЦЦА II *зак.* захварэць. Я забуры́лася страшэнна і во ляжу (Быч, Карм.). *Парайн.* занягóжацць, занядýжацць, занякво́ліцца, заплаша́ць, засла́бці, захіндры́чыцца.

ЗАБУРЫ'ЦЬ *зак.* паваліць. Ты сагніся, дак я цябе забурý (Быч, Карм.).

ЗАБЫ'ЦЦА *зак.* 1. выпасці з памяці. Памяці няма ўжо, дак забы́ўся (Шарпілаўка, Гóм.); 2. заснуць. Я так намаялася за дзень ды й ноч, думала, што за сталом забýдуся (Быч, Карм.).

ЗАБЯГА'ЙЛАЎКА I *ж.* закусачная. Бяжы ў забяга́йлаўку, а то хутка зачыніцца (Камаровічы, Петр.); Мой у забяга́йлайку пабег (Востраў, Раг.).

ЗАБЯГА'ЙЛАЎКА II *ж. перан.* пляткарка. Ну і нявестка ў цябе, за ранак аббегае ўсе хаты, екась забяга́йлаўка. Да не хадзі ты да яе, яна ж забяга́йлаўка (Грушаўка, Ветк.).

ЗАБЯЛЯ'ЦЬ *незак.* світаць. Ужэ на дзень забяля́е (Аравічы, Хойн.).

ЗАВАДЗІ'ЛА *толькі адз.* зачыншчык. Завадзілай у нас была старая Алена (Марозавічы, Б.-Каш.).

ЗАВА'ДЗІЦЬ *зак.* зашкодзіць. Майму Пятру ад яблык зава́дзіла (Хільчыцы, Жытк.+Дзвіжкі, Ельск.).

ЗАВА'Л *м.* закрýгленне *(ляза пры няправільным тачэнні)*. Не ўсякая сякера мае зава́л, другому майстру аддасі натачыць, дык ён заваліць, а як завал у сякеры — нічога не перасячэш (Баравікі, Светл.+Хракавічы, Браг.).

ЗАВАЛАКА'ЦЬ *незак.* зацягваць *(нітку)*. Не бачу ўжо, важко завалака́ць нітку ў іголку (Аравічы, Хойн.).

ЗАВАЛАЧЫ'ЦЬ *зак.* забаранаваць. Пятро, трэба завалачы́ць жыто (Аголічы, Петр.+Ручаёўка, Лоеўск.).

ЗАВА'ЛІНА *ж. 1.* падруба, фундамент. Івану ўжо зава́ліны паклалі; калі так будуць рабіць—хутка адпрахаюць хату (Баравікі, Светл.); 2. прызба. Зава́ліна засыпаецца пірсой (раней кастрой з лёну), а тады доскамі аббіваюць, і ў хаце цёпла, а сонца прыпячэ, дык пасядзець на зава́ліне можна (Косаль, Карм.). *Парайн.* загава́ліна, зуга́ліна, зугва́ліна.

ЗАВАЛЮ'ШЧЫ *прым.* абы-які, нягодны. Нейдзе завалю́шчы пранік буў (Прудок, Калінк.+Задуб'е, Раг.).

ЗА′ВАНЬ *ж.* вада *(стаячая)*. У нас на стаячую ваду ў такіх сажалках, што атходзяць убок, ат рэчкі, гаворуць — за́вань (Палессе, Чач.).

ЗАВА′РАМ *прысл.* запар. Зава́рам два гады ездзіла лячыцца — і ніякага толку, баліць усё роўна (Лучыцы, Петр.).

ЗА′ВАРАТ *м.* заварот. От калі разварочваецца араты с плугам у канцы загона — ета за́варат (Бабовічы, Гом.). *Парайн.* за́варацце.

ЗА′ВАРАЦЦЕ *н., тое, што* заварат. Даедзь да за́варацця і стой, покуль мы бульбу пакідаем (Неглюбка, Ветк.).

ЗАВА′РНІК *м.* чайнік *(для заваркі чаю)*. Як ты зава́рнік пабіла? Варта голову зняць (Заходы, Лельч.).

ЗАВАРСА′ЦЬ *зак., тое, што* забарсаць. Заварса́ю лапці, пайду грэпці сено (Харомцы, Акц.).

ЗАВАРО′ТНІЦА *ж.* падваротня. Закладзі заваро́тніцу, каб куры не вылазілі з хлява (Засінцы, Ельск.).

ЗАВЕ′ДУВАЦЬ *незак.* рабіць. Усякую работу заве́дуй сам (Аравічы, Хойн.).

ЗАВЕРАДАВА′ЦЬ *зак.* закапрызнічаць. Жыла ў пасынка, а потым заверадава́ла (Нямкі, Ветк.).

ЗА′ВЕРТА *ж.* вяроўка *(для прымацоўвання аглоблі да саней)*. За́верта парвалася, бо слабая була (Холмеч, Рэч.); Цяпер няма за́вертаў, а ёсць жалезныя душкі (Забалацце, Раг.+Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* за́вертня, за́верцень, заве́рта.

ЗА′ВЕРТНЯ *ж., тое, што* за́верта. Раншэ за́вертня з вяроўкі была, а сейчас крукі спецыяльныя дзелаюць (Хізы, Ветк.). *Парайн.* за́верцень, заве́рта.

ЗА′ВЕРЦЕНЬ *м., тое, што* за́верта. Прынясі за́верцень, трэба добра аглоблю прывязаць (Бабовічы, Гом.). *Парайн.* заве́рта.

ЗАВЕ′СІЦЬ *зак.* павесіць. Яны таго хлопца ў лесе і заве́сілі на вешалку (Аравічы, Хойн.).

ЗАВЁ′РТА *ж., тое, што* за́верта. Завё́рта называюць, кроме завё́рты ніяк не назавеш (Насовічы, Добр.). *Парайн.* за́вертня, за́верцень.

ЗАВІВА′ЛНА *ж.* стужка *(саматканая)*. Завіва́лна была даўжынёю тры метры. Завіва́лны ткалі на палатне (Заходы, Рэч.).

ЗАВІВЕ′НІКІ *толькі мн., кулін.* варэнікі. Ела сёння вельмі добрыя, смачныя завіве́нікі (Запясочнае, Лельч.).

ЗАВІ'ДЛІВЫ І *прым.* зайздрослівы. Заві́длівы, што поп (Неглюбка, Ветк.).

ЗАВІ'ДЛІВЫ ІІ *прым.* прыгожы. Заві́длівая будзеш, бач, вочы блакітныя, броўкі чорненькія, уся ў матку (Холмеч, Рэч.).

ЗА'ВІДНА *прысл.* зайздросна. Што ты глядзіш так, табе за́відна? (Зялёныя Лукі, Гом.+Махновічы, Маз.).

ЗАВІ'ДНІК *м.* зайздроснік. Заві́днік скрозь завідуе на ўсіх (Каравацічы, Рэч.+Баравікі, Светл.; Кароткавічы, Жлоб.; Марозавічы, Б.-Каш.).

ЗАВІ'ДНЫ *прым.* гучны. Заві́дны ў Наталі бібліятэкаркі голас. (Забалацце, Раг.+Піркі, Браг.).

ЗАВІ'ТАК *м., міф.* залом. Мы калісь верылі, што еты заві́так на чыюсь жысць, дык баяліся. Як вырвеш, так табе штось зробіцца (Баравікі, Светл.); Аўдоцця, кажуць, раней рабіла заві́ткі ў жыце, вядзьмарыла (Заспа. Рэч.+Мардзвін, Петр.; Прудок, Калінк.). *Парайн.* за́вітка, заві́ў, за́віць, саво́й, закру́та, закру́тка І, зало́мка.

ЗА'ВІ'ТКА *ж., тое, што* завітак. За́вітка завіваецца ведзьмаром (Азяраны, Жытк.); Мая бабуля зрэзала сярпом заві́тку на полі, і ў яе адразочку вока пачало балець (Буйнавічы, Лельч.+Бераснякі, Петр.; Гармавічы, Жлоб.; Ломыш, Хойн.). *Парайн.* заві́ў, за́віць, заво́й, закру́та, закру́тка І, зало́мка.

ЗАВІ'Ў *м., тое, што* заві́так. Вунь хтось завязаў заві́ў у маім жыце, ета скручуюць каласы (Ліпнякі, Лоеўск.). *Парайн.,* за́віць, заво́й, закру́та, закру́тка І, зало́мка.

ЗАВІХА'ЦЦА *незак.* старацца. Хмара находзіць, дак я завіха́цца, завіха́цца й знесла сена (Гарадзец, Раг.+Заспа, Рэч.; Прудок, Калінк.; Пясчанікі, Жытк.).

ЗАВІ'ЦА *ж.* залвіца. У мяне адна заві́ца і тая ўелася (Краўцоўка, Гом.); Сягонні яшчэ як та трэба да заві́цы схадзіць (Тульгавічы, Хойн.+Велін, Рэч.; Вышалаў, Петр.; Грушаўка, Нар.; Кавака, Браг.; Крупейкі, Лоеўск.; Узнаж, Светл.; Чырвоная Буда, Добр.).

ЗА'ВІЦЬ *ж., тое, што* завітак. За́віць робяць нядобрыя людзі, каб зрабіць людзям гора якое (Холмеч, Рэч.). *Парайн.* заво́й, закру́та, закру́тка І, зало́мка.

ЗАВІШАВА'ЦЬ *зак.* зазімаваць. Сёлета ні завішу́е й на пракос: бач, стараюцца (Вышалаў, Петр.); Рана восенню пайшлі дажджы, і ўся сенажаць завішава́ла (Заспа, Рэч.+Пясчанікі, Жытк.).

ЗАВО'ДЗІЛА *аг.* запявала. Ой, завóдзіла, як добра спявае (Хізы, Ветк.).

ЗАВО'ДЗІЦЬ *зак.* запяваць. Ету песню завóдзіла заўсёды Наталля Кірпач (Стаўбун, Ветк.).

ЗАВО'ЗНА *прысл.* многа, шмат. Завóзна сёння — прыедзь ноччы ці заўтра (Хізы, Ветк.). У тым мліне завóзна (Холмеч, Рэч.).

ЗАВО'ЗЧЫК *м.* завознік. Завóжчык чагось спазніўся. (Бабовічы, Гом.); Раньшэ завóжчык прывозіў і адвозіў муку ў млын (Неглюбка, Ветк.+Аравічы, Хойн.).

ЗАВО'Й *м., тое, што* завітак. Не трэба чапаць завóй (Зенькавіна, Карм.); Во ў нас чуць не памерла адна цётка, як завóй жжала. Пяць гадоў ляжала ў бальніцы, потым бабкі атшапталі ад завóя (Хізы, Ветк.+Палессе, Чач.). *Парайн.* закрýта, закрýтка I, залóмка.

ЗАВО'ЙНЫ *прым., спец.* вострый (*жывот*). Колысь дядько Антося ўзяў завóйны жывот, і ён кончыўся якраз на полі (Грушаўка, Нар.).

ЗАВО'РКІ *толькі мн.* вароты (*з жэрдак*). Зачыні завóркі, а то шчэ шо уберэццэ (Мілашэвічы, Лельч).

ЗАВУГА'ЦЬ *зак.* залыгаць. Памажы завугáць карову (Навасёлкі, Петр.).

ЗАВУ'ШНІЦА *ж.* завушніца. Ноч цэлую не спала, мулела міне завýшніца (Бабовічы, Гом.); Трэба й сабе завýшніцы купіць (Кавака, Браг.+М. Аўцюкі, Калінк.).

ЗАДЗЕВАВА'ЦЬ *зак.* застацца (*ў дзеўках*). Задзявýе твая Надзя: 30 гадоў, а яна не замужам (Крыўск, Б.-Каш.).

ЗАВЯДЗЁ'НКА *ж.* звычай. У нас такая завядзёнка (Улукаўе, Гом.).

ЗАВЯЗА'ЦЬ *зак.* скончыць. Ну што, завя́жым етыя дзела? Хопіць! (Быч, Карм.).

ЗАГАВА'ЛІНА (загавáльня) *ж., тое, што* заваліна *ў 2 знач.* Загавáліна ж у цібе шырокая дужа (Хізы, Ветк.); Зрабіў бы загавáліну, а то зіма на носе (Восаў, Светл.); Шчэ загаваліны не абрываныя (Палессе, Чач.+Багданавічы, Карм.; Ухоў, Ветк.). *Парайн.* зугáліна, зугвáліна.

ЗАГАДЗЕ'Й *прысл.* загадзя. Трэба было гаварыць загадзéй, а цяпер ужо позна (Хальч, Гом.). *Парайн.* задалягóдзь.

ЗАГА'НА *ж.* ганьба. Яна папахварэла дзеўкаю, дак ёй і загáна ўжо (Палессе, Чач.).

ЗАГА'ПІЦЬ *зак.* зацыраваць. Трэба загáпіць рукаў

(Багданавічы, Карм.). *Парайн.* закрапіць, залапаць, залапіць, заплотваць.

ЗА'ГАРАДА *ж.* 1. загарода. Вабшчэ ў кажнага хазяіна харошага загарада для ската е (Суткоў, Лоеўск.); Я ужэ вугнала карову з хлева ў загараду (Ручаёўка, Лоеўск.+Бабовічы, Гом.; Бывалькі, Рэч.; Грышы, Ельск.: Халочча, Чач.; Хізы, Ветк.). *Парайн.* загон, заграда; 2. хлеў. Тавар у нас зімуе і летуе ў загарадзе (Навасёлкі, Петр.); 3. кветнік. Куры чыста выграблі ў загарадзе насенне, цяпер якія ж там цвяты будуць (Грушаўка, Добр.+Дзям'янкі, Добр.). *Парайн.* загон, заграда.

ЗАГА'РАК *м.* гадзіннік. Завядзі загарак на сем гадзін (Палессе, Чач.).

ЗАГА'РАНКА *ж.* прыгарка. Я вельмі люблю загаранкі і век збіраю з верху бульбы (Ляскавічы, Петр.).

ЗАГАРНУ'ЦЬ *зак.* закапаць. Загарнула б яму, а то шчэ хтось ногі паломе (Грушаўка, Нар.).

ЗАГАРУ'СТА *ж.* беспарадак. Ото хату бяліла, то така загаруста, што не ўлезці (Мілашэвічы, Лельч.).

ЗАГА'ШНІК *м.* кашалёк. О, купіла ў лаўцы загашнік сабе (Шылавічы, Б.-Каш.).

ЗАГЛАМА'ЗДАЦЬ *зак., тое, што* забрытаць. Ужэ ты не загламаздаеш, таму што нічога не засталося і вожак няма (Тульгавічы, Хойн.). *Парайн.* заляйцаць.

ЗАГНЕ'СЦІ *зак.* забіць *(парася)*. Якія там харчы, парасёнка загнялі, дык такое і сала (Быч, Карм.).

ЗАГНЕ'Т *м.* загнетак. Загнет дзелаецца плоскі і роўны (Хізы, Ветк.); Вазьмі боршч, ён стаіць на загнеці (Сівенна, Ветк.). *Парайн.* загнетніца.

ЗАГНЕ'ТНІЦА *ж., тое, што* загнет. Гарлачы сушым на загнетніцы (Асінаўка, Чач.).

ЗАГО'Н *м.* 1. *тое, што* загарада *ў І знач.* У нас як яшчур хадзіў, то зрабілі загон у полі і трымалі ў ім кароў, ажно пакуль каранцін не адмянілі (Сялец, Акц.); 2. участак *(зямлі)*. Загоны розныя бываюць, у каго колькі сотак (Грычынавічы, Жытк.). *Парайн.* заграда.

ЗАГО'НШЧЫК *м., спец.* памагаты. Загоншчыкі без ружжаў ходзяць, заганяюць звера, дзічыну і ўсё (Хізы, Ветк.).

ЗАГРАБА'ЦЬ *зак.* засыпаць. Заграбалі лункі ўчора ўсёй сям'ёю (Стара-Высокае, Ельск.+Капараўка, Рэч.).

ЗАГРА'ДА *ж., тое, што* загарада *ў І знач.* Загані карову ў заграду (Палессе, Чач.). *Парайн.* загон.

ЗАГРА'ЗЕНКА *ж.* мурза. Вымый шыю, вечна ты ходзіш загра́зенкай (Антонаўка, Добр.).

ЗАГРАЗЯ'НСКІ *прым.* запэцканы. І чаму ты ходзіш такая загразя́нская (Івашкавічы, Петр.). *Парайн.* замазу́рысты, замы́зганы.

ЗАГРО'Б *м.* вір. Загро́б называюць таму, што ён круціць і заграбае, трэба добры плавец, штоб вуплуў (Аравічы, Хойн.); Дзевачка Юліна папала ў загро́б (Шарпілаўка, Гом.).

ЗАГРО'БКА *ж.* засыпанне. Пасеяла на градзе гуркі, зрабіла загро́бку радоў (Халочча, Чач.+Баравікі, Светл.).

ЗАГРУ'БКА *ж.* месца *(за грубкай)*. У загру́бку мы кладом дровы, трэскі (Асінаўка, Чач.).

ЗАГРЭ'БКА *ж.* капец. Ты ўсё прыбядняешся, а ў самой поўная загрэ́бка з бульбай (Балсуны, Ветк.).

ЗАГРЭ'ХА *ж.* агрэх. Загрэ́ха — ета нядобра, загрэ́хі застаюцца як плуг плоха паша, ці не можа чалавек пахаць (Баравікі, Светл.).

ЗАГУБІ'ЦЬ *зак.* згубіць. Загубіла грошы ўчора, дак от галасіла (Перароў, Жытк.); Загубілі карову, то пайшлі гуртам шукаць (Пясчанікі, Жытк.).

ЗАГУГУ'ЛЯ *ж., кул.* бабка *(з бульбы)*. Загугу́ля — бабка бульбяная, што ў печы варыцца (Касцюкоўка, Гом.).

ЗАДА'БРА *ж., кул.* прыправа *(да стравы)*. Дак ета ж і мяса, і сала, і ліст лаўровы,— усё ў месці зада́бра (Хізы, Ветк.). *Парайн.* зажа́рка, засква́рка, за́таўка.

ЗАДАБРЫ'ЦЬ *зак., кул.* заправіць. Варам усё абліла, да ў чугунок, да задабры́ла і смачна так (Палессе, Чач.).

ЗАДАВА'КА *аг.* ганарлівец. Не гарадзі-ка ты лішняга тут, усе знаюць, што ты задава́ка первай маркі (Асінаўка, Чач.); Гэнты Акінчыц такі задава́ка, што смех сказаць, як ён не ў нас радзіўся (Багданавічы, Карм.+Баравікі, Светл.; Кароткавічы, Жлоб.; Марозавічы, Б.-Каш.; Халочча, Чач.; Холмеч, Рэч.).

ЗАДАВА'СТЫ *прым.* ганарлівы. Ох і задава́сты ў суседа хлопец меншы (Каравацічы, Рэч.).

ЗАДАВІ'ЦЦА *зак.* павесіцца. Во Даша, зямля ёй пухам, на хату палезла, вожкі зачапіла за шыю і задавілася (Хізы, Ветк.).

ЗАДАЛЕГО'ДЗЬ *прысл., тое, што* загадзей. Яна цяпер задалего́дзь выбрала картоплі (Перароў, Жытк.).

ЗА́ДАРГА *ж.* край *(чаго-небудзь)*. Глядзі, а то ўпадзе ўцюг, стаіць на за́дарзе (Хвойнае, Хойн.).

ЗА́ДАЎЖ *м.* душнік. За́даўж на ноч адкрываюць, каб паветра пчолам даць (Холмеч, Рэч.).

ЗАДРАТАВА́ЦЬ *зак.* уцягнуць *(дрот у лыч)*. Задрато́ўваецца парася, якое рые. Уцягнуць у лыч дроцік, кальцо, яно і не рые (Завайць, Нар.); Трэба хіба пазваць суседа, каб задратава́ў парася (Дзвіжкі, Ельск.).

ЗАДЖУБА́СІЦЬ *зак.* зашыць. Ну і заджуба́сіла! (Палессе, Чач.).

ЗАДЗЕ́ЛАЦЬ *зак.* запэцкаць. Дзе ты так кэпці задзе́лаў? (Баравікі, Светл.).

ЗАДЗІ́РА *аг.* чалавек *(за́дзірлівы)*. Задзі́ра, пабіцца яму дай, хлебам не кармі (Халочча, Чач.+Баравікі, Светл.; Марозавічы, Б.-Каш.; Піркі, Браг.; Холмеч, Рэч.). *Парайн.* задзіра́ва, задзіра́ка.

ЗАДЗІРА́ВА *аг., тое, што* задзіра. Ну і задзіра́ва еты Іван: ідзець і нікога не прапусціць (Хізы, Ветк.). *Парайн.* задзіра́ка.

ЗАДЗІРА́КА *аг., тое, што* задзіра. Такога задзіра́ку ўсе баяцца (Церахоўка, Добр.).

ЗА́ДРАЖКА (за́дрыжка) *ж.* аканіца. За́дражку вецер сарваў, нада паставіць на месца (Маркавічы, Гом.); Зачыні за́дрыжкі на ноч, а то вецер прама ў вокны, холадна будзе спаць( Шарпілаўка, Гом.+Заспа, Рэч.; Неглюбка, Ветк.).

ЗАДУ́ШНЫ *прым.* прагны. Такі заду́шны, што прыкра робіцца (Крыўск, Б.-Каш.).

ЗАЖА́ЛЕЦЬ *зак.* смаліць. Каля агню грэліся, дык і не прыкмеціў, як зажа́лела целагрэйка збоку (Заспа, Рэч.+Задуб'е, Раг.; Шарпілаўка, Гом.);

ЗАЖА́РКА *ж., тое, што* задабра. Мяса, наверна, пажалела, зажа́рка рэдкая сёння (Ст. Рудня, Жлоб.); Без зажа́ркі суп нясмачны (Церахоўка, Добр.). *Парайн.* засква́рка, за́таўка.

ЗАЖА́РАНЫ *дзеепрым., кул.* запраўлены. Есьце, дзеўкі, суп у мяне смачны, зажа́раны (Аравічы, Хойн.).

ЗАЖА́ТАК *м.* сноп *(першы зжаты)*. Зажа́так прынесла і паставіла на прызьбе: «Няхай, кажа, усе бачаць, што жаць пачалі!» (Бабовічы, Гом.). *Парайн.* зажы́нак.

ЗАЖМЕ́НІЦЬ *зак.* намазоліць, натрудзіць. Зажме́ніш, бывала, рукі за дзень, баляць, ды яшчэ і мазолі (Хізы, Ветк.+Грушаўка, Нар.).

ЗАЖО'Н *м.* сезонная праца. Я тры леты хадзіла ў зажо́н на Украіну (Дубраўка, Добр.).

ЗАЖО'НКІ *толькі мн.* зажынкі. А во ўжэ усюды пачаліся зажо́нкі (Зенькавіна, Карм.).

ЗАЖО'Р *м.* лужына. Зажо́ры ўвесну на шляху, а на шашы іх няма (Кароткавічы, Жлоб.); Вясною растае сьнег, вада стаіць па дарозе, дак і кажуць — зажо́ры (Ручаёўка, Лоеўск.).

ЗАЖЫ'НАК *м., тое, што* зажатак. Я сягодні зажы́нак такі вялікі здзелала, чуць падняла (Бабовічы, Гом.+Неглюбка, Ветк.).

ЗАЖЫ'ЦЬ *зак.* нажыць. Яны зажылі́ сабе багацця, як аднекуль прыехалі (Быч, Карм.).

ЗАЗЁМНЫ *прым.* апошні *(вяно́к зруба)*. Як заземны вянок зрабілі, дак і крохвы робяць (Неглюбка, Ветк.+Косаль, Карм.).

ЗА'ЗІ'МАК *м.* снег *(першы)*. Як ляжа за́зімак, дык скора зіма прыдзя (Палессе, Чач.); Добрага зайца падстрэліў па першаму зазі́мку (Багданавічы, Карм.+Баравікі, Светл.; Броніца, Б.-Каш.; Забалацце, Раг.; Лучын. Раг.; Марозавічы, Б.-Каш.; Насовічы, Добр.; Шарпілаўка, Гом.; Янава, Ветк.).

ЗАЗІМКАВА'ТЫ *прым.* хударлявы. Зазімкава́тая ў цябе карова (Рубча, Петр.); Зазімкава́тае каровы не купляй (Салтанаўка, Б.-Каш.).

ЗАЗНО'БА *ж.* жанчына *(худая)*. А такая зазно́ба толькі гуляе і ніяк не атыйдзе (Дубраўка, Добр.).

ЗАЙГРА'ЦЬ *зак.* бегаць *(пра карову)*. Наша цёлка зайгра́ла, дак павялі сёння (Аравічы, Хойн.); Зайгра́е свіння, вядуць к кныру (Баравікі, Светл.+Піркі, Браг.).

ЗАЙМА'ЦЬ *зак.* праганяць, заганяць *(карову)*. Пашла Дарка займа́ць кароў (Піркі, Браг.).

ЗА'ЙЦАЎ *прым.* заячы. За́йцаў хлеб бралі ў дарогу з дому і прывозілі назад, а для дзяцей які ж ён смачны! (Дубраўка, Добр.); За́йцаў след і па пяску відно (Засінцы, Ельск.+Забалацце, Б.-Каш.; Пярэдзелка, Лоеўск.).

ЗАЙЧАНЁ'НАК *м.* зайчанё. Замучылі дзеці таго зайчанёнка (Бабовічы, Гом.+Марозавічы, Б-Каш.). *Параўн.* зайчано́к, зайчаня́тка.

ЗАЙЧАНО'К *м., тое, што* зайча́нёнак. Зайчыха, брат, бяжыць і аглядваецца, каб зайчано́к не адстаў (Аравічы, Хойн.+Хізы, Ветк.). *Параўн.* зайчаня́тка.

ЗАЙЧАНЯ'ТКА *н., тое, што* зайчанёнак. Зайчаня́тка

паймалі ў жыце, дак доўга жыло (Засінцы, Ельск.). *Парайн.* зайчанок.

ЗАЙЧЫ'ХА *ж.* самка *(зайца).* Зайчыха толькі адзін раз кормя зайчонка, як народзіць (Патапаўка, Б.-Каш.). Зайчыху трудна паймаць (Шарпілаўка, Гом.).

ЗАКАБО'ІНА *ж.* умяціна. Іван, на-тка во етую закабоіну выгні, а то мяшае (Быч, Карм.).

ЗАКАБУ'НІКІ *толькі мн.* кпіны. Падкіне ўсякіх закабунікаў (Быч, Карм.).

ЗАКАДУ'ШНА *прысл.* старанна. І рабіць закадушна рабіла (Палессе, Чач.).

ЗАКА'Л *м.* загар. Увесь ад закалу чорны, як галка (Астрагляды, Браг.).

ЗАКАЛЁ'НЫ *прым.* люты. Гэтую ноч такі закалёны мароз быў, мо градусаў 40 (Перароў, Жытк.).

ЗАКАМЕ'ЛІСТЫ *прым.* з тоўстым камлём. О, еты ствол закамелісты (Баравікі, Светл.); А ў нас закамелісты кажуць на ствол з тоўстым камлём (Канатоп, Нар.).

ЗАКА'Т *м.* скляпенне *(у печы).* Як хочаш спекці хлеб, дак натапі печ так, каб закат накаліўся (Любань, Б.-Каш.). *Парайн.* закот.

ЗАКА'ЎРАТА *ж.* манжэта. І вышываныя былі закаўраты (Р. Марымонава, Гом.). *Парайн.* закаўратак.

ЗАКА'ЎРАТАК *м., тое, што* закаўрата. Закаўратак у цябе маленькі еты выйшаў, ты ж роўныя рабі (Харомцы, Акц.); І вышываныя былі закаўраткі (Р. Марымонава, Гом.).

ЗАКАЦІ'ЦЦА I *зак.* заходзіць *(пра сонца).* За горку ўжо закацілася, можна і дадому іці (Насовічы, Добр.).

ЗАКАЦІ'ЦЦА II *зак.* рассмяяцца. Мы і закаціліся ад смеху (Пракопаўка, Добр.).

ЗАКАЦІ'ЦЬ *зак.* закасаць. Закаці калошы, а то замочышся (Піркі, Браг.).

ЗАКІ'ДАНЫ *дзеепрым.* недагледжаны. У яе заўсёды тое дзіцё закіданае (Тульгавічы, Хойн.).

ЗАКІ'ДАЦЬ *зак.* ускапаць. Ужэ пара закідаць грады, бо пацяплела (Даманавічы, Калінк.); Увесь дзень грады закідала, дык спіна баліць (Халочча, Чач.+Баравікі, Светл.; Гармавічы, Жлоб.; Забалацце, Раг.; Капараўка, Рэч.; Марозавічы, Б.-Каш.).

ЗАКІДУ'ШКА *ж.* прылада *(рыбалоўная).* Закідушка з кручкоў робіцца (Піркі, Браг.); На закідушку добра ловіцца рыба (Багданавічы, Карм.+Каранёўка, Гом.).

ЗАКІ́РХАЦЬ *зак.* закашляць. Пабегаў голы і закірхаў (Палессе, Чач.).

ЗА́КЛА *н.* месца *(у вуглу плота).* За́кла ўсэ зарасло крапівой, навот плота не відно (Грушаўка, Нар.).

ЗАКЛАДА́НКА *ж.* посцілка. Ох, калісь ткалі красівыя заклада́нкі, у мяне няма ні адной, а то б я вам паказала (Забалацце, Раг.).

ЗАКЛА́ДКА *ж.* складка. Чаго ты зрабіла такую закла́дку вялікую (Харомцы, Акц.).

ЗАКЛА́ДЗІНЫ *толькі мн.* пачастунак *(цесляроў).* Учора закла́дзіны зрабілі (Халочча, Чач.); У нас на трэцім вянку п'юць закла́дзіны і грошы ў вугал кладуць (Стаўбун, Ветк. + Дзёрнавічы, Нар.; Кароткавічы, Жлоб.).

ЗАКЛА́СЦІ *зак.* 1. аснаваць. Закла́лі подруб, а цяпер работа весялей пойдзе (Халочча, Чач.); 2. залажыць. Як залажы́ла ў горле, дык нечым было дыхаць (Піркі, Браг.).

ЗАКЛЮГА́ЦЬ *зак.* закульгаць. Ты глядзі, як яна заклюга́ла (Харошаўка, Добр.).

ЗАКЛЯ́КНУЦЬ *зак.* 1. здранцвець. Без подушкі закля́кне голова, зацячэ і зробіцца прутам (Грушаўка, Нар.); 2. замёрзнуць. Так холадна ў хаце, шо вада закля́кла ў вядрэ (Шарпілаўка, Гом.).

ЗАКМЕ́ЦІЦЬ *зак.* заўважыць. Я й не закме́ціла, як каровы ў двор зайшлі (Будкі, Нар.).

ЗАКО́БАЦЬ *зак.* захаваць. Усё зако́бала на печку, што не знайшла і сваёй хусткі (Заспа, Нар.).

ЗАКО́ВАНКА *ж. дзіцяч.* гульня-хованка. У нас у ету зако́ванку й век гуляюць. Той, хто знайшоў — закоўвае, стукае па лаўцы і крычыць: «Кую-кую!» (Пясчанікі, Жытк.). *Параўн.* засту́кала.

ЗАКО́МІН *м.* прамежак *(паміж комінам і сцяной).* У зако́мін лучыну ўсё клалі раней (Бабовічы, Гом.). *Параўн.* зако́мінак.

ЗАКО́МІНАК *м., тое, што* зако́мін. На зако́мінак ладыжкі кладом (Марозавічы, Б.-Каш.).

ЗАКО́МКА *ж.* замок. За хату ты ня бойся: я зако́мку павесіла (Буйнавічы, Маз.); Я павесіла зако́мку на лямку, а хтосьці вышмыргнуў (Крупка, Маз.).

ЗАКО́Т *м., тое, што* закат. У маёй печы добры зако́т (Уваравічы, Б.-Каш.).

ЗАКО́ТА *ж.* 1. *тое, што* забойка II. Зако́та і ў хаце і

ў хляве, разніцы няма. І з абапалкаў і з саломы робяць закóты (Хізы, Ветк.+Крынкі, Рэч.); 2. запруда. На рэчцы як дзе закóта, дык тамака і стрымніца вялікая (Аравічы, Хойн.); 3. паркан. Калі сцяну на гарод з бярвенняў здзелаюць, дак кажуць, закóту паставілі (Барталамееўка, Ветк.).

ЗАКО'ТНІНА *ж.* брус *(пад страпіламі)*. На закóтніну вада не пападае, дак яна жыве даўжэй за хату (Янава, Ветк.).

ЗАКО'ЧВАЦЬ *зак.* зарастаць. Сапсаванае дрэва пачало ўжо закóчваць (Тульгавічы, Хойн.).

ЗАКРАПІ'ЦЬ *зак., тое, што* загапіць. Нявестка мая не закрапляе старую вопратку, а выкідае (Піркі, Браг.); Хоць бы дзірку ў плацці закрапіла (Ручаёўка, Лоеўск.). *Параўн.* залáпаць, залáпіць, заплóтваць.

ЗАКРУ'ТА *ж., тое, што* завітак. Зрабіла закрýту і пабегла дадому (Халочча, Чач.). *Параўн.* закрýтка.

ЗАКРУ'ТКА I *ж.* 1. *тое, што* завітак. Каб урадзіла добра, я сам закрýтку зрабіў (Гарывада, Рэч.). *Параўн.* заломка; 2. вузел. Ніяк не развяжу етую закрýтку (Лугавая Вірня, Жлоб.); Як пойдзе рабіць закруткі і выкруткі (Баравікі, Светл.).

ЗАКРУ'ТКА II *ж.,* зашчапка. Закрýтка паржавела ўжо ўся (Холмеч., Рэч.+Баравікі, Светл.; В. Нямкі, Ветк.); Вазьмі дзверы на закрýтку (Камаровічы, Петр.).

ЗАКРУЦІ'ЦЬ *зак.* зарэзаць. Заўтра вам, дзеўкі, куру закручý (Аравічы, Хойн.).

ЗАКРЫВА'ННЕ *н.* баранаванне. Пасля высеву гародніны мы робім закрывáнне (Забалацце, Раг.). *Параўн.* закрыццё.

ЗАКРЫ'ЛЛЕ *н.* месца *(бакавое ў гумне)*. Ідзі ў закрылле снапы пабяры (Бабовічы, Гом.) *Параўн.* застарóнак II.

ЗАКРЫЦЦЁ' *н., тое, што* закрыванне. А мы перад вясной робім закрыццё ўзаранага на зіму поля (Піркі, Браг.).

ЗАКУ'БРАВАЦЬ *незак.* закрываць пасуду. Бала (бывала) закубруеш добра кадушку мёду і сядзіш год (Быч. Карм.). *Параўн.* закубрóўваць, закýбрываць.

ЗАКУБРО'ЎВАЦЬ *незак., тое, што* закýбраваць. Агурцы закубрóўваюць у банкі (Піркі, Браг.). *Параўн.* закубрываць.

ЗАКУ'БРЫВАЦЬ *незак., тое, што* закубраваць. У нас гуркі маленькія зялёненькія закубрываюць (Пакалюбічы, Гом.). *Парайн.* закубро́ўваць.

ЗАКУКАРЭ'ЧВАЦЬ *незак.* завіваць. Ты воласа свайго не закукарэ́чвала? (Быч., Карм.).

ЗАКУ'МКАЦЬ *зак.* закрумкаць. Стала цёпла, і жабы заку́мкалі (Запясочча, Жытк.). Жабы на дожч, мусіць, ку́мкаюць (Тульгавічы, Хойн.).

ЗАКУПІ'ЦЬ *зак.* падкупіць. Што ж ты яго не закупіў, ён жа любіць хабар, дак мякчэйшы быў бы (Быч., Карм.).

ЗА'КУСКА *ж.* заку́ска. А хто выпівае, давала за́куску (Холмеч, Рэч.).

ЗАКУ'ТАЦЬ *зак.* 1. захутаць. Заку́тай добра галаву, а то бач які мароз! (Палессе, Чач.); 2. уцяпліць. Трэба як мага лепей заку́таць хату на зіму (Асінаўка, Чач.); 3. абгарадзіць. Наш хоць заку́таў двор, дак цяпер спакойна (Капань, Рэч.+Славань, Светл.); 4. зачыніць *(дзверы, акно, юшку)*. Заку́тай шчыльней дзверы, каб холад не йшоў (Стаўбун, Ветк.); Насця, заку́тай юшку (Жгунькая Буда, Добр.); Заку́тай печку́, бо холадна ў хаці (Асінаўка, Чач.); 5. загнаць. Заку́тай свіней у пуню (Асінаўка, Чач.); Ідзі заку́тай у хлеў курэй; чыста гуркі выграблі (Шарпілаўка, Гом.).

ЗАЛА'ПАЦЬ *зак., тое, што* загапіць. За вечар усю кохту зала́пала (Навасёлкі, Петр.). *Парайн.* зала́піць, заплётваць.

ЗАЛА'ПЛЕНЫ *дзеепрым.* зацыраваны. Зала́пленае месца зразу адрозніваецца (Нісімкавічы, Чач.).

ЗАЛА'ПІЦЬ *зак., тое, што* загапіць. Зала́піла я ўжо кабата, можаш браць (Старажоўцы, Жытк.+Багданавічы, Карм.; Баравікі, Светл.; Марозавічы, Б.-Каш.; Неглюбка, Ветк.; Нісімкавічы, Чач.). *Парайн.* запло́тваць.

ЗАЛАТАТЫ'СЯЧНІК *м., бат.* цвінтарэй. Залататы́сячнік па полю расце, галючачкі такія, а па іх розавые, светлые цветочкі, колісь венкі з іх плелі (Ручаёўка, Лоеўск.).

ЗАЛАТНІ'К I *м., анат.* хвароба *(маткі)*. Разам са мной ляжала ў бальніцы адна жэншчына, дак ёй падшывалі залатнік (Бабовічы, Гом.); Ат залатніка́ жывот пухне (Баравікі, Светл.+Забалацце, Раг.; Буйнавічы, Лельч.; Марозавічы, Б.-Каш.; Пярэдзелка, Лоеўск.; Хізы, Ветк.).

ЗАЛАТНІ́К II *м., бат.* буквіца. Трава ета залатнік, па зямле расцілаіцца, доўгая такая, ад жалудка яна (Хізы, Ветк.); У залатніка лісце небальшое, карэнчыкі-бублікі такія, ад жывата дзецям даём (Забалацце, Раг.).

ЗАЛАТНІ́К III *м., устар.* мера вагі. Купім, бувала, залатнік сахару ў горадзе, дык беражэш яго лепш, чым золата (Аравічы, Хойн.+Івакі, Добр.; Марозавічы, Б.-Каш.; Норкаўшчына, Карм.).

ЗАЛАТУ́ХА *ж., бат.* фіялка. Ой, вілася залатуха здорава, жалі сярпамі (Хізы, Ветк.).

ЗА́ЛЕЖ *м.* аблога. На етай залежы нічога не вырасце (Бывалькі, Рэч.); У нас цяпер німа заліжу, усё пашуць (Ліцвінавічы, Чач.).

ЗАЛЕ́ЗНІК *м.* чыгун. У мяне асталося картопляў толькі на адзін залезнік (Бярэзнікі, Жытк.).

ЗАЛЕ́ПУХА *ж.* завея. Такой залепухі даўно не было, от зіма! (Неглюбка, Ветк.).

ЗАЛЕ́ТКАВЫ *прым.* мінулагодні. А ў мяне яшчэ есць залеткавае варэнне (Перароў, Жытк.); Я шчэ залеткавы лён не патрапала (Вышалаў, Петр.).

ЗАЛІВА́ЦЦА *незак.* тлусцець. Прыбілі і кабанчыка, бо заліваўся ўжэ (Піркі, Браг.).

ЗАЛІ́ВЕНЬ *м.* дождж *(праліўны)*. Залівень як пайшоў, што й зярно пазношваў (Быч, Карм.).

ЗАЛІЎНЫ́ *прым.* 1. праліўны. Заліўны дожч -- усё затопіць (Марозавічы, Б.-Каш.); 2. затоплены. На заліўным лузе скрозь добрая трава (Ст. Буда, Б.-Каш.).

ЗАЛІХВА́ЦКІ *прым.* удалы. А жаніх заліхвацкі! (Дубраўка, Добр.).

ЗАЛО́ЗА *ж.* стрэмка. Загнаў залозу на ўвесь палец, дак ён цяпер пухне (Холмеч, Рэч.).

ЗАЛО́МКА *ж., тое, што* завітак. У жыце нехта заломку зрабіў (Багданавічы, Карм.). *Параўн.* завітка, завіў, завіць, завой, закрута, закрутка I.

ЗАЛО́ТА *ж.* непагадзь. Халодна вельмі, залота такая (Зялёныя Лукі, Гом.).

ЗАЛЫ́БІЦЦА *зак.* заўсміхацца. Анюта сварылася з Нінай, а мужык ішоў, залыбіўся і пашоў у хату (Шылавічы, Б.-Каш.).

ЗАЛЯ́ЗКА *ж.* рыдлёўка. Капала бульбу і паламала залязку (Шырокае, Б.-Каш.). *Параўн.* залязняк, заступ, зелязоўка, зелязняк.

ЗАЛЯЗНЯ́К *м., тое, што* залязка. Мой сусед узяў

залязня́к, а прынесці і ні думая (Даманавічы, Калінк.). *Парайн.* за́ступ, зелязня́к, зелязбу́ка.

ЗАЛЯЙЦА́ЦЬ *зак.* надзець лейцы. Заляйца́ць каня я ўмею, заляйца́ць не цяжка (Марозавічы, Б.-Каш.). *Парайн.* замуздаць, зануздаць.

ЗАМАЗУ́РЫСТЫ *прым., тое, што* загразянскі. Які ты замазу́рысты! Табе што, вады няма? (Дубраўка, Добр.). *Парайн.* замы́зганы.

ЗАМАНЕ́ЦЦА *незак.* хочацца. Ад сына мне замане́цца пісьмо атрымаць (Піркі, Браг.).

ЗАМАРДЫ́ЧАНЫ *прым.* замардаваны. Ета нейкае цяля вон замарды́чана, яно мне не трэба (Быч, Карм.).

ЗАМАРО́КА *ж.* запінка. У мяне толькі й будзя замаро́ка, што з юшкамі (Быч, Карм.).

ЗА́МАТКА *ж.* хустка *(цёплая, вялікая)*. У мяне е за́матка, Вася шчэ даўно прывёз (Мілашэвічы, Лельч.).

ЗАМАХНУ́ЦЬ *зак.* замесці. Во шчас кончу, тады трохі замахну́ць нада хату (Быч, Карм.).

ЗАМАЦЯРЭ́ЦЬ *зак.* падрасці. Гончая ўжо замацярэ́ла, можна ўжо з ею выходзіць (Баравікі, Светл.).

ЗАМАЧЫ́ЦЬ *зак., перан.* адзначыць *(выпіўкай)*. Во дзелаем як-небудзь ды й замочым, каб не рассохлася (Быч, Карм.).

ЗАМЕ́ТАВАЦЬ *незак.* замятаць, заносіць. Часта зімоў дарогу заме́тавае — аўтобус не ідэ (Грушаўка, Нар.).

ЗАМЕ́ШКА *ж.* сечка *(з бульбай ці буракамі)*. Сячэш сена ці салому, бульбай абліваеш — ета заме́шка будзе (Баравікі, Светл.).

ЗАМЁ́Т *м.* плот *(з бярвенняў)*. Раней замёт быў толькі ў мяне добры, а цяпер у кожнага (Славань, Светл.); Ты замёт ўжэ паставіў? (Бывалькі, Рэч.+Грушаўка, Добр.; Грышы, Ельск.; Неглюбка, Ветк.; Палессе, Чач.).

ЗАМІРКІТА́ЦЬ *зак.* забегаць *(пра авечку)*. У Аксінні авечка заміркіта́ла, дык Зіна яе павіла (Забалацце, Б.-Каш.).

ЗА́МІСЬ *прысл.* замест. Схадзі на работу за́місь мяне (Дзвіжкі, Ельск.).

ЗАМО́К *цясл.* від вугла. Робіцца замо́к — выемка ў канцы бервяна, у якую кладзецца другое бервяно ў вуглу. У замо́к цяжэй сашчапіць палена, лягчэй унакладку (Суткоў, Лоеўск.+Амельна, Раг.; Бывалькі, Рэч.; Багданавічы, Карм.; Кароткавічы, Жлоб.; М. Аўцюкі, Калінк.; Піркі, Браг.).

ЗАМО'РАЧКА *перан.* ягада *(дробная)*. Няма сёлета дажджу, дык ягыды адны замо́рачкі, возьмеш такую замо́рачку ў руку, дык і не відна. Хіба такіх замо́рачкаў багата набярэш? (Хізы, Ветк.).

ЗАМУДЫ'КТАЦЦА *зак.* стаміцца. Ты сённі ні заму́дыкталась з ёй? (Крыўка, Раг.).

ЗАМУЗДА'ЦЬ *зак., тое, што* забрытаць. Нада добра замузда́ць яго, а то бывая папудзіцца, во гора будзе (Іскра, Чач.); Замузда́й каня, паедзем у лес (Кароткавічы, Жлоб.+Марозавічы, Б.-Каш.). *Параўн.* зануздаць.

ЗАМУРАЖЭ'ЦЬ *зак.* зазелянець. Ускапала траву, а яна зноў замуражэ́ла (Неглюбка, Ветк.).

ЗАМУРЗЫ'КАЦЬ *зак.* запэцкаць. Замурзы́кае плацце за мінуту (Пракопаўка, Добр.). *Параўн.* замусо́ліць.

ЗАМУСО'ЛІЦЬ *зак., тое, што* замурзыкаць. Плацце замусо́ліла, нада памыць (Шарпілаўка, Гом.+Багданавічы, Карм.; Лучыцы, Петр.; Піркі, Браг.; Ручаёўка, Лоеўск.).

ЗАМЫ'ЗГАНЫ *прым., тое, што* загразянскі. Кроніна жонка такая ходзя замы́зганая, глядзець агідна (Буйнавічы, Маз.). *Параўн.* замазу́рысты.

ЗАМЯ'С *м.* раствор. Цэменту шчэ хопіць замя́сы на два, а пяску няма (Быч, Карм.).

ЗАМЯ'ТАК *м.* жменя *(лёну)*. Адзін замя́так канапель і засталося, было чатыры замяткі лёну, дак я зрасходавала (Баравікі, Светл.).

ЗА'НАВЕСА *ж.* завеса. На за́навесах ходзяць дзверы, дай і трымаюцца на іх (Піркі, Браг.).

ЗАНАГЦІ'ЦА *ж.* нарыў *(пад ногцем)*. Уродзі быў маленькі прышчык, а цяпер занагці́ца якая стала (Бабовічы, Гом.). *Параўн.* зано́гціца.

ЗА'НІЗКІ *толькі мн.* пацеркі. Прыбяруцца да шчэ і за́нізкі павесяць (Аравічы, Хойн.); За́нізак навешала поўную шыю і думае добра (Нісімкавічы, Чач.+Асінаўка, Чач.; Багданавічы, Карм.; Баравікі, Светл.; Барталамееўка, Ветк.; Марозавічы, Б.-Каш.; Рафалаў, Браг.; Раманавічы, Гом.; Смальгаў, Нар.; Вуглы, Ельск.; Хвойнае, Хойн.).

ЗАНІМА'ЦЬ *незак.* перашкаджаць. Не заніма́й мне, я спяшаюся (Буйнавічы, Маз.).

ЗАНО'ГЦІЦА *ж., тое, што* занагціца. Ох, балючая зано́гціца! Зано́гціцу загнала, дак аж серца зашчымела (Забалацце, Раг.).

ЗАНО'ЗА I *ж.* прут *(у ярме).* Зано́за згубілася — і валы сталі (Холмеч, Рэч.+Грушаўка, Добр.).

ЗАНО'ЗА II *ж., перан.* прыдзіра. Ой, зано́за, ты мая! Што ты хочаш ад мяне? (Салтанаўка, Б.-Каш.).

ЗАНУ'ДА *аг.* чалавек *(нудны, надаедлівы).* Цярпець не магу етую зану́ду (Узнаж, Светл.).

ЗАНУ'ЖАЛЫ *прым.* худы. Зану́жалы твой цялёнак (Салтанаўка, Б.-Каш.).

ЗАНУ'ЖАЦЦА *зак.* засумаваць. Сходзіць, дзеўкі, у кіно, а то зану́жаецесь зусім (Грушаўка, Нар.).

ЗАНУЗДА'ЦЬ *зак., тое, што* забрытаць. Трэба занузда́ць каня да з'ездзіць (Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* заглама́здаць, заму́здаць.

ЗАНЯГО'ДЗІЦЦА *зак.* непагодзіцца. Зноў надоўга занятго́дзілася (Беразнякі, Жытк.).

ЗАНЯГО'ЖАЦЬ *зак., тое, што* забурыцца *ў 2 знач.* Нешта мой сынок занягожаў (Беразнякі, Жытк.). *Парайн.* занядужаць, занякво́ліцца. заплаша́ць, засла́бці, захіндры́чыцца.

ЗАНЯДУ'ЖАЦЬ *зак., тое, што* забурыцца *ў 2 знач.* Мая ўнучка, на выбары я саўсім чуць не памерла, так занядужала, наверна, старасць мая ўжо (Іскра, Чач.); Нешта заніду́жыў стары Нічыпар, ні ўстае (Марозавічы, Б.-Каш.+Багданавічы, Карм.; Баравікі, Светл.; Дубраўка, Добр.; Заспа, Рэч.; Ломыш, Тульгавічы, Хойн.; Пераро́ў, Жытк.; Піркі, Браг.; Прудок, Калінк.; Ручаёўка, Лоеўск.; Халочча, Чач.). *Парайн.* занякво́ліцца, заплаша́ць, засла́бці, захіндры́чыцца.

ЗАНЯКВО'ЛІЦЦА *зак., тое, што* забурыцца *ў 2 знач.* Тато, папрасі коней адвезці матку ў бальніцу, штось яна занякво́лілась (Антонаў, Ельск.+Антонаўка, Добр.; Задуб'е, Крыўка, Раг.; Крупка, Маз.; Лучыцы, Навасёлкі, Петр.; Салтанаўка, Шылавічы, Б.-Каш.). *Парайн.* заплаша́ць, засла́бці, захіндры́чыцца.

ЗАНЯ'ТШЧЫК *м.* служачы. Тады заня́тшчыкам было цяжэй, па дванаццаць часоў сядзелі (Быч, Карм.).

ЗАНЯХА'ЕНЫ *прым.* запушчаны. А гэта вёска такая заняха́еная, а вы прыехалі (Аравічы, Хойн.).

ЗАПАСЯДЗЕ'ЛЬНІЦЬ *зак.* надзець церассядзёлак. Каня запасядзе́льніў туга (Стаўбун, Ветк.).

ЗАПА'ДЗІНА *ж.* упадзіна. А там, дзе моя картопля, там запа́дзіна (Аравічы, Хойн.).

ЗА'ПАЛАЧ *ж., тое, што* забалаць. Вышыла за́палач-

чу, дак так красіва (Шарпілаўка, Гом.). *Парайн.* за́блаць, за́блач.

ЗА'ПАЛЛЕ *н.* задворкі. Я сённі ішоў па за́паллю, дак бачыў цябе ў гародзі (Палессе, Чач.).

ЗАПАЛІ'ЦЦА *зак.* загарэць *(на сонцы).* Адзін раз мой младшы як запалі́ўся, дык і кожа мехам аблезла (Касцюкоўка, Гом.+Быч, Карм.). *Парайн.* запе́кчыся.

ЗАПАМАГЧЫ'СЯ *зак.* забагацець. Чужым цяжко запамагчы́ся (Вышалаў, Петр.).

ЗА'ПАН *м.* фартух. Вы ні бачылі, куды я свой за́пан палажыла? (Жгуна-Буда, Добр.+Антонаўка, Добр.; Злодзін, Маз.; Раманавічы, Гом.; Р.-Бурыцкая, Лоеўск.). *Парайн.* запі́нка, запо́н, запо́нка.

ЗАПАРВА'ЦЬ I *зак. перан.* зарабіць. Як запарву́ які рубель, дык не ведаю, куды яго пусціць (Заспа, Рэч.).

ЗАПАРВА'ЦЬ II *зак.* 1. спаткаць. Міхась каго ні запарве́ на вуліцы, усё расказвае пра сваю бяду (Навасёлкі, Петр.); 2. застаць. Запарву́ ў садзе, то так высеку, што больш не захочэш (Перароў, Жытк.); 3. здабыць. Аўсу дай, ек жменю дзе запарве́ш (Аравічы, Хойн.).

ЗАПАРКАВА'ЦЬ *зак.* набіць *(туга).* Галя, што ты так валіску запоркова̀ла (Грабава, Жытк.).

ЗАПАРО'ЦЦА *зак., перан.* з'ехаць. Запаро́ўся я ў канаву (Салтанаўка, Б.-Каш.).

ЗАПАРО'ЧАНЫ *прым.* 1. падазроны. Нейкі дзядзька запаро́чаны ходыць пад вокнамі (Грушаўка, Нар.); 2. судзімы. О тый Стась запаро́чаны буў (Грушаўка, Нар.).

ЗАПАРУ'ХА *ж., кул.* зацірка. Дзед мой любіў запару́ху — яго любімая страва (Бабовічы, Гом.). *Парайн.* заціру́ха.

ЗАПА'РЫЦЬ *зак.* заліць *(варам).* Паложы плацце ў чагун, потым я яго запа́ру (Вуглы, Нар.) Вазьмі запа́р дзежку, а то яна цячэ (Аравічы, Хойн.)

ЗАПАСО'ЧНІЦА *ж.* вянец зруба *(апошні).* Засталося ў зрубе зрабіць толькі запасо́чніцу (Засінцы, Ельск.). *Парайн.* запясо́чніца.

ЗАПАТЫ'ЛАК *ж.* патыліца. Іван запаты́лак разбіў (Камаровічы, Петр.).

ЗАПАШЫ'СТЫ *прым.* пахучы. Лаўровы ліст свежы такі запашы́сты (Ручаёўка, Лоеўск.).

ЗА'ПЕК *м.* запе́чак. Во гэта лавачка і завецца за́пек. На яе можна і пакласць што-небудзь і самому сесць

(Асінаўка, Чач.); Здзелаў запек, так добра будзя лазіць на печ (Быч, Карм.). *Парайн.* запечак I, запечча.

ЗАПЕ'КЧЫСЯ *зак., тое, што* запаліцца. Толькі сонца прыгрэла, а ліцо ўжэ запеклася (Камунар, Б.-Каш.); Ці трэба ж було табе так запекціся (Кавака, Браг.).

ЗАПЕ'Р *м., тое, што* забойка II. Зімой у запер снегу намяло (Кароткавічы, Жлоб.). *Парайн.* закота.

ЗА'ПЕ'ЧАК *м. 1. тое, што* запек. Раней станеш на запечак і лезеш на печ, а цяпер запечкаў не робяць (Меркулавічы, Чач.+Багданавічы, Карм.; Запясочнае, Маз.; Запясочча, Жытк.; Любань, Б.-Каш.; Маркавічы, Гом.; Мормаль, Жлоб.; Сівенна, Ветк.); 2. прамежак *(між сцяной і печчу)*. Во каму люба, ляжыць дзень на запечку (Быч, Карм.); Ты сядзі там, у запечку ды маўчы (Крыўск, Б.-Каш.+Балсуны, Ветк.; Башыца, Чач.; Вазок, Лоеўск.; Грабаў, Петр.; Н. Гута, Гом.; Заспа, Рэч.; Запясочнае, Лельч.; Злодзін, Маз.; Дзяржынск, Нар.; Р.-Бурыцкая, Лоеўск.; Калінічы, Нар.; Насовічы, Добр.; Кароткавічы, Жлоб.). *Парайн.* запечча *ў 1 знач.* 3. фундамент печы. Спачатку трэба зрабіць запечак, потым ужо класці печ (Уць, Добр.+Асінаўка, Добр.). *Парайн.* запечча *ў 2 знач.*

ЗАПЕ'ЧЧА *н.* 1. *тое, што* запек. Я палажыла кухвайку ў запечча, устала рано, а іх няма, і куды яны дзеліісь (Вуглы, Нар.); 2. *тое, што* запечак *у 3 знач.* Спірва я пабяліла запечча, а потым усю печ (Шырокі, Б.-Каш.).

ЗА'ПІНКА *ж.* фіранка. На вокнах ужо пажоўклі запінкі, трэба адну павесіць на печ (Хвойнае, Хойн.+Бабовічы, Калінк.).

ЗАПІ'НКА *ж., тое, што* запан. Адзень запінку, а то вымажысся (Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* запон, запонка.

ЗАПІ'САНЫ *дзеепрым.* зарэгістраваны. Ужо другі тыдзень як я запісаны з Анютай (Ломыш, Хойн.+Баравое, Лельч.; Беразнякі, Жытк.; Халочча, Чач.).

ЗАПІСА'ЦЦА *зак.* зарэгістравацца. Ты чула, Тайка, Полькіна дачка, запісалася з лектрыкам (Ломыш, Хойн.+Аравічы, Хойн.; Быч, Карм.; Гарывада, Рэч.; Перароў, Жытк.; Прудок, Калінк.).

ЗАПЛАША'ЦЬ *зак., тое, што* забурыцца *ў 2 знач.* Мой Мікіта штосьці заплашаў (Сідаравічы, Б.-Каш.). *Парайн.* заслабці, захіндрычыцца.

ЗАПЛЕ'СКВАЦЬ *незак.* рабіць *(пра грады)*. Я яшчэ грады не заплесквала (Аравічы, Хойн.).

ЗАПЛЁТ *м.* дубец *(апошні пры пляценні кошыка)*. Пастухі прыгатовілі дубцоў для заплёта (Баравікі, Светл.); Во шчэ еты заплёт задзелаю і пойдзем (Шарпілаўка, Гом.).

ЗАПЛІКНУ'ЦЬ *зак.* зашпіліць. Заплікáй не заплікáй тобе кузікі, серадно грудзіна голая (Беразнякі, Жытк.+Барталамееўка, Ветк.; Заходы, Рэч.; Прудок, Калінк.; Рудня, Чач.; Р. Марымонава, Гом.; Мормаль, Жлоб.; Паганцы, Светл.; Пясчанікі, Жытк.; Холмеч, Рэч.).

ЗАПЛО'ТВАЦЬ *незак., тое, што* загапіць. Мікола, здзень сведэр, я заплóтаю (Грабава, Жытк.). *Парайн.* закрапіць, залапаць, залапіць.

ЗАПЛЫВА'ЦЬ *незак.* зарастаць. Берагі заплылí калючкамі, лазой (Быч, Карм.).

ЗАПЛЮ'СНУЦЬ *зак.* зажмурыць. Заплю́сні вочы, я схаваюся (Забалацце, Раг.); Заплю́снула вочы дай пабегла (Холмеч, Карм.).

ЗАПО'ІНЫ *толькі мн.* заручыны. Каго ты будзеш зваць на запóіны? (Азяраны, Жытк.); Запóіны ў нас булі якраз на тройцу (Баравое, Лельч.+Беразнякі, Петр.; Быч, Карм.; Запясочча, Жытк.; Кіцін, Жлоб.; Харашоўка, Добр.: Халочча, Чач.). *Парайн.* заручáнне.

ЗАПО'Н *м., тое, што* запан. Застанецца кусок ад капота, дак запóн сшый мне (Рудня Каменева, Лоеўск+Чырвоная Буда, Добр.). *Парайн.* запóнка.

ЗАПО'НКА *ж., тое, што* зáпан. Цяпер запóнка не кажуць (Рафалаў, Браг.+Марозавічы, Б.-Каш.; Насовічы, Добр.; Шарпілаўка, Гом.). *Парайн.* запінка, запóн.

ЗАПРАТО'РЫЦЦА *зак.* схавацца. Бувало, Петро ек запратóрыцца куды-небудзь, то і цяжко найці (Макарычы, Петр.).

ЗАПРО'С *м.* пытанне. А як што нада запытáць, дак ставіш запрóс (Хізы, Ветк.).

ЗАПРО'ШЛЫ (год) *прым.* Два гады назад. Запрóшлы год у нас столькі грыбоў было, што хоць ты бяры іх мяшком (Палессе, Чач.).

ЗАПРУ'ЖЖА *н.* балота *(зарослае травой)*. Сёлета ў запрýжжы многа асакі (Казацкія Балсýны, Ветк.).

ЗАПРЭ'ГАЧ *м.* прут *(у навоі)*. Як вуцегну запрэ́гача, то ж я табе дам (Тонеж, Лельч.).

ЗАПРЭ'ГЧЫ *зак., кул.* засквapыць. Крышані я запрэ́гла салам з цыбуляю (Навінкі, Калінк.). *Парайн.* засмáчыць.

ЗАПУСКА'ЦЬ *незак.* заканчваць. Будзем ужо запускàць рукавіцу (Івакі, Добр.).

ЗАПЯСО'ЧНІЦА *ж., тое, што* запасочніца. Ето палено хай на запясóчніцу (Вуглы, Нар.); Сёдні паклалі запясóчнікі, а заўтра кроквы (Бывалькі, Рэч.).

ЗАПЯ'ЦЦА *незак.* 1. упірацца. Ён быў запя́ўся, ды яго ніхто не слухаў (Быч, Карм.); 2. запінацца. Што ты запя́ўся, круцішся, як уюн на скаварадзе (Быч, Карм.).

ЗАПЯ'ЦЬ *зак.* завесіць. Вокны запя́ла, а то сонца свеця (Баравікі, Светл.).

ЗА'РА (зарэ) *прысл.* зараз. За́ра іду (Грушаўка, Нар.); За́рэ прыду і да цябе, падажджы трошкі (Будкі, Нар.).

ЗАРАДЗІ'ЦЬ *зак.* урадзіць. Як зарадзíла ў мяне жыта, так дзяваць некуды было (Быч, Карм.).

ЗАРАНІ'ЦА *ж.* раніца. Як старку ўбіралі, цёплыя былі заранíцы (Палессе, Чач.).

ЗАРА'НКА I *ж., заал.* птушка. Зара́нка жыве ў садзе, пяе зары, яшчэ сонейка не ўзыйдзе (Баравікі, Светл.+Аравічы, Хойн.; Вялікае Поле, Петр.).

ЗАРА'НКА II *ж.* зараніца. Калі зара́нку бачно, пачыналі кароў даіць (Дзякавічы, Жытк.); Зара́нка ў нас кажуць на зорку, што ўзыходзіць уранку перад узыходам сонца (Баравікі, Светл.+Марозавічы, Б.-Каш.).

ЗАРА'ЦЬ *незак.* світаць. Ужо зара́е, скора дзень будзе (Палессе, Чач.). *Параўн.* зарэ́ць.

ЗАРАШЫ'ЦЬ *зак.* забіць. Я так спужалася, думала ён мяне зарэ́шыць (Злодзін, Маз.). *Параўн.* зарэ́шыць.

ЗАРАШЭ'ЦІЦЬ *зак.* загарадзіць. Нада забор зара́шэ́ціць (Насовічы, Добр.+Мялешкавічы, Маз.).

ЗАРВА'ЦЬ *зак.* сціхнуць. Ты скора зарве́ш у міне, ужэ галава трашчыць? (Вітлін, Раг.).

ЗАРДЗЕ'ЦЦА *зак.* пачырванець. Так за́йдзецца, аж зардзе́ецца (Крыўск, Б.-Каш.).

ЗАРНІ'ЦА I *ж.* зорка. Мо зарнíца ўжэ ўзышла? Не, няма, рана шчэ ўзыходзіць ёй (Хізы, Ветк.).

ЗАРНІ'ЦА II *ж.* маланка. Як зіхне зарнíца, дак яны і пападалі (Холмеч, Рэч.).

ЗАРНІ'ЦА III *ж.* вядзьмарка. Як шаптаць, калдаваць умее, то зарнíца (Холмеч, Рэч.).

ЗАРО'ЖАК *м.* затока. Хадзем на заро́жак купацца, там хаця мелка, дак не так страшка (Шарпілаўка, Гом.).

ЗАРУ'БІНА *ж.* круг *(на розе каровы)*. Можа быць і адна зарубіна; па зарубінах бачаць, сколькі цялят у каровы було (Холмеч, Рэч.).

ЗАРУЧА'ННЕ *н., тое, што* запоіны. Пасля заручання дараць падаркі (Нямкі, Ветк.).

ЗАРЫ'НДЗАВАЛАСЯ *незак.* пакрыўдзіцца. І чаго зарындзавалася, не трэба было і віду паказваць (Перарароў, Жытк.).

ЗАРЭ'ЗАЦЬ *зак.* закусаць. Ну й было, чуць не зарэзалі пчолы каля домікаў (Быч, Карм.).

ЗАРЭ'ЦЬ *незак., тое, што* зараць. Калі зарэе, зорка ўзыходзіць (Баравікі, Светл.).

ЗАРЭ'ШЫЦЬ *зак., тое, што* зарашыць. Як ён яе біў, замалым не зарэшыў (Злодзін, Маз.).

ЗА'САВЕНЬ (засаў) *м.* засаўка. Як верніцеся, зачыніцеся на засавень (Пракопаўка, Добр.); А ці ў горадзе няма засаўняў? (Карма, Добр.+Грушаўка, Добр.); На ноч дзверы засоўваюцца на засаў (Піркі, Браг.).

ЗА'САЎКА *ж.* юшка. Зобула купіць засоўку ў Коленковічах (М. Аўцюкі, Калінк.).

ЗАСАХАРЫ'ЦЦА *зак.*ператварыцца ў сахар. Калі мёд пастаіць доўга, ён засахарыцца (М. Аўцюкі, Калінк.).

ЗА'СЕК *м.* 1. засек. Насыпалі поўны засек збожжа, да і ў вас засекі поўныя (Бабовічы, Гом.+Багданавічы, Карм.; Забалацце, Раг.; Завайць, Нар.; Марозавічы, Б.-Каш.; Халочча, Чач.); 2. посуд *(драўляны, у які раней ссыпалі збожжа)*. У нас рабілі раней такі посуд, мяшкоў сем лезла туды, ну і сыпалі збожжа — ета засек (Холмеч, Рэч.+Неглюбка, Ветк.); 3. запечак. Пашукай у засеку тапор (Казацкія Балсуны, Ветк.). *Параўн.* засека *ў 1 знач.* і засень *у 3 знач.*

ЗА'СЕ'КА *ж.* 1. *тое, што* засек *у 1 знач.* З поля звозяць збожжа ў засеку (Піркі, Браг.); Бувала, як насыплюць зерна, дак поўныя засекі (Бывалькі, Рэч.); 2. яслі *(адгароджанае месца ў хляве, куды кладуць сена карове)*. Сена карова не паела, щэ багато лежыць у засецы. (Вуглы, Нар.).

ЗАСЁ'ТАК *м.* загародка *(па абодва бакі ёўні)*. Ставілі снапы ў засёткі (Баравікі, Светл.); Усюды поўна снапоў і ў засётках і на цапніках (Амельна, Раг.).

ЗА'СЕНЬ *ж. 1.* сенцы. Цяпер жа сенцы кажуць, а мы казалі — засень (Косаль, Карм.); 2. будынак *(за сенца-*

*мі)*. У за́сені хаваюць дровы ў нас ад дажджу і снегу (Крынкі, Рэч.).

ЗА′СЕЎНІ *толькі мн.* пачатак сяўбы. Трошкі яшчэ пацяплее, дай за́сеўні пачнуцца (Ломыш, Хойн.).

ЗАСІ′ДКА *ж.* засада. Зрабіў засі́дку, думаў, што-небудзь уб'ю, дык дзе там! (Баравікі, Светл.); О, ета добрая засі́дка: дзень сядзець (Стаўбун, Ветк.).

ЗАСІ′ЛІЦЬ *зак.* 1. зачарэпаць. Засі́ль ба там у боцы квасу (Асінаўка, Чач.); Вазьму каромысел і пайду ваду засі́лю (Палессе, Чач.); 2. закінуць. Ты б засі́ліў за плечы і прынёс (Шылавічы, Б.-Каш.).

ЗАСКА′БІЦЬ *зак.* застраміць. Ламала лазу і заска́біла палец, цяпер ена стала нарываць (Бабовічы, Гом.); Заска́біць нагу нядоўга, а вось папробуй выцягнуць скабку (Марозавічы, Б.-Каш.+Піркі, Браг.; Пярэдзелка, Лоеўск.).

ЗАСКА′ЛЕНЫ *дзеепрым.* прыжмураны. Чаго стаў і глядзіш заска́лены, ідзі працуй! (Запясочча, Жытк.).

ЗАСКА′ЛІЦЬ *зак.* прыжмурыць. Заска̀ліць вока і стаіць (Запясочча, Жытк.).

ЗАСКАРО′ДЗІЦЬ *зак., перан.* выручыць. Сотні тры — чатыры заскаро́дзіць у карман не пашкодзіла б (Палессе, Чач.).

ЗАСКВА′РКА *ж., тое, што* задабра. Як няма мяса, дак засква́рку робяць з сала (Холмеч, Рэч.). *Параўн.* за́таўка.

ЗАСЛА′БЦІ *зак., тое, што* забурыцца *ў 2 знач.* Набрэша, што засла́бла, а сама здорова, як кабіла (Грушаўка, Нар.). *Параўн.* захіндрычыцца.

ЗАСЛО′МКА (засло́нка) *ж.* за́сланка (*у печы*). Засло́нка ўпала, па назе ўдарыла (Багданавічы, Карм.); Возьмі, донька, да пабелі засло́мку (Вуглы, Нар.).

ЗАСЛЯПІ′ЦЦА *зак.* зажмурыцца. Ето як зажму́рыўся, то ў нас кажуць засляпі́ўся (Аравічы, Хойн.).

ЗАСЛЯПІ′ЦЬ *зак.* абдурыць. Ці яна каго засляпіць хоча? (Палессе, Чач.).

ЗАСМА′ЧЫЦЬ *зак., кул., тое, што* запрэгчы. Сала трохі було, дак засма́чыла тоўчанку. А як мяса німа, дак салам засма́чу (Шарпілаўка, Гом.).

ЗАСНАВА′ЦЬ *зак.* 1. *цясл.* аснаваць. Учора ўжо заснава́лі Антону новую хату (Дзвіжкі, Ельск.); 2. *ткац.* пачаць снаваць. Учора засна́ва́лі тры губкі толькі (Зарэчча, Жлоб.).

ЗАСНО'ВІНЫ *толькі мн.* падруба, фундамент. Раман зрабіў заснóвіны хаты (Шуты, Ельск.).

ЗАСТА'ВА *ж.* 1. грэбля. Здзелаюць перагародку, застáву такую, тады пераплаўляюць плыт (Кароткавічы, Жлоб.); 2. дошчачка *(для закрывання выграбнога акенца)*. Хваціць мукі, пастаў застáву (Холмеч, Рэч.). *Парайн.* зáстаўка.

ЗАСТАРО'НАК I *м.* подсціл *(пад снапы)*. На таку мы і застарóнак забралі (Майскае, Жлоб.).

ЗАСТАРО'НАК II *м., тое, што* закрылле. Па баках буў адгароджаны засек, які называлі застарóнак (Стараград, Раг.); У адным застарóнку клалі жыта, у другім — ячмень (Забалацце, Раг.); Амбары поўныя збожжа і яшчэ многа ў застарóнках засталося малаціць (Запясочча, Жытк.+Бывалькі, Рэч.; Вуглы, Нар.; Дзвіжкі, Ельск.; Дзяржынск, Лельч.; Ручаёўка, Лоеўск.; Піркі, Браг.).

ЗА'СТАЎКА *ж., тое, што* застава. Зáстаўку дзелаюць з жэсці ці шалёўкі, закрываюць акно, каб не рассыпалася збожжа (Хізы, Ветк.).

ЗАСТО'Й *м.* выступ *(у бярвеннях сцяны для вушака)*. У бірвеннях дзелаюць застóй, каторым заходзяць іны ў шпар вушнякоў (Р.-Шлягіна, Ветк.).

ЗАСТРО'МЧЫЦЬ *зак.* затрымаць. От застрóмчыло мяне тут — не выбрацца (Аравічы, Хойн.).

ЗАСТРЭ'ШНІК *м.* 1. застрэшак. З застрэ́шніка карова салому цягае (Крынкі, Рэч.); Застрэ́шнікі ў яго хаце малыя, дожч моча сцены (Янава, Ветк.+Бабовічы, Гом.; Гардуны, Добр.; Майскае, Жлоб.; Марозавічы, Б.-Каш.); 2. невялікія снапочкі абмалочанага жыта, звязаныя па два. Застрэ́шнікамі крылі крышы хат, гумнаў, пунь. Нагатовяць застрэ́шнік і крыюць (Марозавічы, Б.-Каш.); 3. дошкі *(якімі прыкрываюць грэбень саламянай страхі)*. Не забудзь паставіць застрэ́шнік (Гардуны, Добр.). *Парайн.* застрэ́шніца.

ЗАСТРЭ'ШНІЦА *ж., тое, што* застрэшнік *у 3 знач.* Застрэ́шніца прыкрывае грэбень саламянай страхі (Багданавічы, Карм.+Гарадзец, Раг.; Крынкі, Рэч.; Рудня, Чач.; Янава, Ветк.).

ЗАСТУ'ДЗІНА *ж.* халадзец. Але, Ганна, у цябе застýдзіна добрая (Белы Пераезд, Петр.); Застýдзіну ў пограб трэба паставіць (Навасёлкі, Петр.). *Парайн.* заладóд.

ЗАСТУДЗІ'ЦЦА *зак.* прастудзіцца. Панясло яго ў той паход, трэба було застудзіцца (Піркі, Браг.).

ЗАСТУ'КАЛА *тольki адз., тое, што* закованка. Любыла ў застукало гулят (Грушаўка, Нар.).

ЗА'СТУП *м., тое, што* залязка. Ета ж падумаць толькі, увесь гарод заступам ускапаць нада (Астрагляды, Браг.); Бувала, настане вясна, дак гарод капаем заступамі (Прыстанскае, Карм.+Антонаў, Ельск.; Аравічы, Хойн.; Барталамееўка, Ветк.; Грушаўка, Нар.; Камаровічы, Петр.; Мілашэвічы, Лельч.; Пучын, Браг.; Сяўкі, Лоеўск.; Ямпаль, Рэч.). *Парайн.* зелязняк, зелязоўка.

ЗАСУРЫ'ЦЬ *зак.* засыпаць *(яму)*. Выкапала яму, дак дзеці засурылі (Шарпілаўка, Гом.).

ЗА'СУШ *ж.* засуха. Засуш была ў тым гаду (Неглюбка, Ветк.).

ЗАСЦІНА'ЦЬ *незак.* зацямняць. Не засцінай мне свет (Піркі, Браг.). *Парайн.* засціць.

ЗА'СЦІЦЬ *незак., тое, што* засцінаць. Стане тут і свет засце (Багданавічы, Карм.); Атыйдзі ад вакна, а то мне засціш (Заспа, Рэч.+Баравікі, Светл.; Высокае, Раг.; Івакі, Добр.; Кароткавічы, Жлоб.; Марозавічы, Б.-Каш.; Палессе, Чач.; Прудок, Калінк.; Пясчанікі, Жытк.; Ухаў, Янава, Ветк.; Шарпілаўка, Гом.).

ЗАСЦЯ'ЖКА *ж.* засцежка. Зрабіла засцяжку ў каўняры, адрэзала вузкія матузкі і прышыла (Нісімкавічы, Чач.); Тры засцяжкі трэба мне сюды прышыць (Неглюбка, Ветк.+Р. Бурыцкая, Лоеўск.).

ЗАТАРАБА'НІЦЬ I *зак.* застукаць. Васіль так затарабаніў па вокнах, што ўсіх разбудзіў (Шырокі, Б.-Каш.).

ЗАТАРАБА'НІЦЬ II *зак.* зацягнуць. Брыгадзір загадаў затарабаніць Сівага (мёртвага каня) у лес (Чырвоная Паляна, Б.-Каш.+Зарэчча, Жлоб.).

ЗА'ТАЎКА *ж., тое, што* задабра. Я і затаўкай заправіла суп, а ты ня ясі (Р. Бурыцкая, Лоеўск.). *Парайн.* зажарка, засквaрка.

ЗАТАЎКА'НЫ *дзеепрым.* посны. Калі жыра няма, то ядзім затаўканую пішчу (Баравікі, Светл.).

ЗАТАЎШЧА'ЦЬ *зак.* зацяжарыць. Хутка штось затаўшчала Міхасёва жонка зноў (Палессе, Чач.).

ЗАТЛУМІ'ЦЦА *зак.* задыхнуцца. А ну яе к радзімцу ету паштовую машыну, у ёй затлуміцца можна (Палессе, Чач.). *Парайн.* захлупіцца, захлынуцца.

ЗАТО'РЫЧ *м.* выраз. Вазьмі рысмус да здзелай за́торыч, а то німа як дно ўстаўляць (Р. Бурыцкая, Лоеўск.).

ЗАТУ'ГА *прысл.* цяжка. А як прыдзецца зату́га, так яна і кідае ўсё (Быч, Карм.).

ЗАТУ'КАЦЬ *зак.* затузаць. Ураз яны чалавека зату́калі, глядзець не маглі (Салтанаўка, Б.-Каш.).

ЗАТУЛІ'ЦЬ *зак.* закрыць. Трэба дырку затуліць (Грушаўка, Нар.).

ЗАТУ'РКАЦЬ *зак.* запалохаць. Аплялі хлопца, зату́ркалі і прападзе ні за што (Хальч, Гом.).

ЗАТУРУ'ХАЦЦА *зак.* паспяшацца. Ну вось, затуру́халась і не ўзяла грошы (Хальч, Гом.).

ЗА'ТЫЧКА *ж.* корак. Зро́бі за́тычку, заткні пляшку, бо вульецца молоко (Дзяржынск, Лельч.).

ЗА'ЎЖА *прысл.* заўсёды. Ён за́ўжа п'яны вечарам (Востраў, Раг.). *Парайн.* заўсягды́.

ЗАЎМЕ'СНІНА *прысл.* разам. У заўме́сніну заўсягды ямчэй і за сталом і ў рабоці (Быч, Карм.).

ЗАЎСЯГДЫ' *прысл., тое, што* за́ўжа. Заўсягды́ ён наперад лезе (Лукі, Жлоб.+Быч, Карм.).

ЗАХАЛО'Д *м., тое, што* застудзіна. Мой захало́д штото не застыў (Заходы, Лельч.); Навары захало́ду на вяселле (Махновічы, Маз.).

ЗАХАЛУ'ЖЖА *н.* закутак. Захалу́жжа там такое (Быч, Карм.).

ЗАХВІСТА'ЦЬ *зак.* забараніць. Ляснік захвіста́ў жывёлу пасціць на тым балотцы (Турок, Петр.).

ЗАХВО'СЛІВЫ (захво́ставы) *прым.* тонкі. Прывёз мой сённі сасну, ды такую захво́слівую (Баравікі, Светл.); Занадта захво́ставая гэта верхавіна (Хракавічы, Браг.).

ЗАХІНДРЫ'ЧЫЦЦА *зак., тое, што* забурыцца *ў 2 знач.* Пані Іван, Вуляна там штось захіндры́чылась (Белы Пераезд, Петр.); Зноў штось захіндры́чыўся (Навасёлкі, Петр.). *Парайн.* занягóжаць, занядýжаць, занякво́ліцца, заплаша́ць, засла́бці.

ЗАХЛУПІ'ЦЦА *зак., тое, што* затлуміцца. У час пажару мой бацька чуць не захлупі́ўся ад дыму (Крыўск, Б.-Каш.). *Парайн.* захлыну́цца.

ЗАХЛУПІ'ЦЬ *зак.* заняць. Захлупіла яму дыханне, дак ён і памёр (Быч, Карм.).

ЗАХЛЫНУ'ЦЦА *зак., тое, што* затлуміцца. Як уба-

чыла яго, аж захлынулася і ні слова ня магу сказаць (Быч, Карм.). *Парайн.* захлупіцца.

ЗАХМЫ'ЛІЦЦА *зак.* усміхнуцца. Чаго ты захмыліўся? (Сідаравічы, Б.-Каш.).

ЗАХО'ДЖАЦЬ *незак.* заходзіць. Сонца захóджае — і дзень прайшоў (Палессе, Чач.).

ЗАЦІРУ'ХА *ж., тое, што* запаруха. Варылі зацірýху з мукі на вадзе і з малака (Маркавічы, Гом.+Уць, Добр.).

ЗА'ЦІШНЫ *прым.* ціхі. Зáцішны сегодня дзень і сонцо печэ, уродзі дождж будзе (Аравічы, Хойн.).

ЗАЦЮ'ПАЦЬ *зак.* пайсці. Вунь зацю́паў ужо па вуліцы да крамы (Зарэчча, Жлоб.).

ЗАЦЯГНУ'ЦЦА *зак.* гаіцца. Як зацягніцца рана, шрам астаецца (Хізы, Ветк.).

ЗАЧАРЭ'ХНУЦЬ *зак.* пакрыцца тонкім лёдам. Ноччу вада зачарэ́хла (Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* зашáрэхнуць, зашэ́рхнуць.

ЗАЧМ'УРГАЦЬ *зак.* забрудзіць. Дзе ты зноў плацце зачмýргала? (Жгунская Буда, Добр.).

ЗАЧУ'БІЦЬ І *зак.* страціць. Косцік зоўсім зачýбіў свае здароўе (Камаровічы, Петр.).

ЗАЧУ'БІЦЬ ІІ *зак.* заарканіць. Яго нада вяроўкай зачýбіць (Тульгавічы, Хойн.).

ЗАЧУ'ХА *м., зневаж.* прымак. Ён у нас зачýха, у прымы прыстаў, заведуе чужым хазяйствам (Грабаўка, Гом.).

ЗАЧУ'ХАЦЦА *зак.* замучыцца. Еслі я паеду ў Гомель, ты зачýхаешся бегаючы (Быч, Карм.).

ЗАЧЭ'РАНЫ *дзеепрым.* запоўнены. Зачэ́раная рамка ўся ў етай калодзе (Карма, Добр.).

ЗАШАРЭ'ХНУЦЬ *зак., тое, што* зачарэ́хнуць. Ноччу падмарозіла, і вада ў сажалцы зашарэ́хла (Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* зашэ́рхнуць.

ЗАШЛЫГА'ЦЬ *незак.* запрагаць. Іван Кандратаў і валоў ня можа зашлыгáць (Аравічы, Хойн.).

ЗАШМАЛЬЦО'ВАНЫ *дзеепрым.* засалены. Чаму ты такі зашмальцóваны? (Салтанаўка, Б.-Каш.).

ЗА'ШМАРГАМ *прысл.* банцікам. Сколькі ты ні будзеш завязваць, заўсёды нада зáшмаргам (Тульгавічы, Хойн.).

ЗА'ШМАРГЕНЬ *м.* няроўна спрадзеныя ніткі. Адзін харашо прадзе, другі — зáшмаргнем (Хізы, Ветк.).

ЗАШЧЭ́ПКА I *ж.* слясак. Зашчэ́пка накідвалася на кручок (Раманавічы, Гом.); Зашчапіла дзяцей у хаце на зашчэ́пку, а сама вось у магазін бягу (Кароткавічы, Жлоб.+Грушаўка, Нар.; Пянчын, Б.-Каш.).

ЗАШЧЭ́ПКА II *ж.* пятля. Зашчэ́пку абкідываюць, дык так морудно (М. Аўцюкі, Калінк.).

ЗАШЫВА́ЦЬ *незак.* вышываць. Я зашыва́ю гарна рушнік (Піркі, Браг.).

ЗАШЫ́ЦЬ *зак.* 1. забіць *(франтон).* Плотнікі зрабілі ўжэ зруб у мяне, а цяпер засталося зашы́ць франтон (Грышы, Ельск.); 2. уцяпліць. Вуллі на зіму зашыва́юць а́д севера (Быч, Карм.).

ЗАШЭ́РХНУЦЬ *зак., тое, што* зачарэ́хнуць. Не паспела рэчка зашэ́рхнуць, а яны (дзеці) ужо там (Пясчанікі, Жытк.+Задуб'е, Раг.; Пераро́ў, Жытк.; Прудок, Калінк.; Холмеч, Рэч.). *Параўн.* зашарэ́хнуць.

ЗАШЫ́ЕК *м.* частка печы *(паміж комінам і сцяной).* Ну і юла малая! Чуць-чуць — і заваліўся б ў зашы́ек (Заспа, Рэч.).

ЗАЮ́ШЫЦЦА *зак.* 1. запрацавацца. Яна мо заю́шылася ды не бачыць (Баравікі, Светл.+Быч., Карм.); 2. загуляцца. Будзе бегаць, заю́шыцца і ў хату не зацягнуць (Палессе, Чач.).

ЗАЯДА́ЦЦА *незак.* пакрыўдзіцца. Чаго ты зае́лася на мяне, я ж нічога не вінавата (Беразнякі, Жытк.).

ЗАЯ́ЛАВІНА *ж.* папар. Сёлета я астаўлю адну паласку пад зая́лавіну (Пагоннае, Хойн.).

ЗАЯЧЫ́ХА *ж.* самка зайца. Найшла заячы́ху ля забору (Неглюбка, Ветк.).

ЗБАЁ́ДАЦЬ I *зак.* сапсаваць. Саўсім збаёдаў ужо ета стула (Мормаль, Жлоб.).

ЗБАЁ́ДАЦЬ II *зак.* украсці. Збаёдаў у Макара капаніцу (Мормаль, Жлоб.). *Параўн.* збо́ндзіць.

ЗБАЙСА́ЦЬ *зак.* 1. згубіць. І куды толькі збайса́лі тэй паloднік? Збайсаць збайса́ў, а здзелаць ня здзелаў (Быч, Карм.); Збайса́ла платок, дак ціпер ніхай ходзя так (Зялёныя Лукі, Гом.); 2. аддаць. А еты цьвет я хачу даўно збайса́ць, дай жалка (Быч, Карм.); 3. знасіць. За адно лета збайса́ла туфлі (Шарпілаўка, Гом.).

ЗБАРО́ЦЬ *зак.* перамагчы. Хоць якога збо́рае ета цемпература (Быч, Карм.).

ЗБАТУ́РЫЦЬ *зак.* разбудзіць. Я спаць хацеў, а мене збату́рылі. (Палессе, Чач.).

ЗБІВА'ЦЬ *незак.* зграбаць. Пойдзем збіва́ць сена (Неглюбка, Ветк.).

ЗБІ'ЦЬ *зак.* забіць. Збі́ў я вутку на балоце (Баравікі, Светл.); Збі́ў з першага выстралу кабана (Халочча, Чач.+Піркі, Браг.).

ЗБЛАЖЭ'ЦЬ *зак.* пахудзець. Шось зблажэ́ў Міша, як перайшоў на ферму (Шарпілаўка, Гом.).

ЗБЛУДЗІ'ЦЬ *зак.* заблудзіць. Ты знаеш, зблудзі́ла ў лесе (Піркі, Браг.).

ЗБОЖАВО'ЛЕЦЬ *зак.* здурнець. Сёння ноччу збожаво́леў Алесік Рамзікавых (Віць, Хойн.).

ЗБО'ІЧЫ *толькі мн.* перакладзіны *(для змацавання).* Збо́ічы змацоўваюць ставы (Старажоўцы, Жытк.). *Параўн.* збо́йкі.

ЗБО'ЙКА *ж.* бойка. Смятаны ў збо́йку наліла (Апанасаўка, Гом.).

ЗБО'ЙКІ *толькі мн., тое, што* збоічы. Штоб не раз'ядналі ніты, слалі збо́йкі (Сівенка, Ветк.); От збіваеш збо́йкамі станок, то дзержыць крэпко (Ручаёўка, Лоеўск.).

ЗБО'НДЗІЦЬ *зак., тое, што* збаёдаць II. Хтосьці збо́ндзіў шапку (Перароў, Жытк.).

ЗБО'РНІК *ж.* чапец. Замужнія жанчыны насілі збо́рнік (Раманавічы, Гом.); Ціперака тых збо́рнікаў ніхто і адзяваць ні думая (Апанасаўка, Гом.).

ЗБО'РЫ *толькі мн.* рушы. Я ж у свіце тожа зборы рабіла (Кавака, Браг.).

ЗБРО'ДЛІВЫ *прым.* бадзяжніцкі. Ну й збро́длівая ў яго карова, кажды дзень уцякае (Забалацце, Раг.).

ЗБРЫДЧА'ЛЫ *дзеепрым.* скіслы. Малако вельмі нясмачнае, зусім збрыдча́лае, трэба яго выліць свінням (Балсуны, Ветк.).

ЗБРЫДЧА'ЦЬ I *зак.* скісаць. Малако стала збрыдча́ць (Тульгавічы, Хойн.).

ЗБРЫДЧА'ЦЬ II *зак.* стаць брыдкім. Такі чалавек быў прыгожы і такі стаў: збрыдча́ў неяк адразу (Майскае, Жлоб.).

ЗБРЫ'ЗНУЦЬ *зак.* узысці. Як сонца падымаецца, дак у нас кажуць: «Збры́знула сонцэ» (Аравічы, Хойн.).

ЗБУЦЕ'ЎШЫ *дзеепрым.* спарахнелы. Што ж ты прывёз збуцеўшую сасну (Аравічы, Хойн.).

ЗВАНА'Р *м., перан.* сякера. Вазьмі звана́р, дак хутка пасячэш (Хракавічы, Браг.).

ЗВЕДЗІ′ЯШ *м.* пляткар. Дасталося зведзіяшу за вудумкі (Валосавічы, Чач.).

ЗВЕ′РГНУЦЬ *зак.* скінуць *(пра карову, свінню).* Зноў карова звергла мёртвага, прыдзецца яе збываць (Бабовічы, Гом.); Мая свіння тры дні назад звергла (Холмеч, Рэч.+Быч, Карм.; Забалацце, Б.-Каш.; В. Крушынаўка, Раг.; Вуглы, Браг.; Халочча, Чач.; Хізы, Ветк.).

ЗВІНКО′М *прысл.* ручайком. Парэзаў нагу так моцна, аж кроў звінкóм бегла (Барталамееўка, Ветк.).

ЗВІХНУ′ЦЬ *зак.* вывіхнуць. Руку звіхнýў, так баліць (Неглюбка, Ветк.).

ЗВО′НІЦА *ж.* калакольня. Звóніца так далёка, а чутно (Аравічы, Хойн.).

ЗВЯГА′ I *ж.* цяўканне. Не баіцца воўк сабакі, ды ня любіць зьвягí (Мормаль, Жлоб.).

ЗВЯГА′ II *ж.* жанчына *(назойлівая).* Ох звягá, от і надаеда! (Мормаль, Жлоб.).

ЗВЯ′ГАЦЬ *незак.* 1. цяўкаць. Цэлую ноч звя́гае і спаць не дае (Буйнавічы, Лельч.); 2. *перан.* гаварыць *(бясконца).* Хопіць табе звя́гаць, усё стаяў ды абы-што звя́гаў (Лукі, Кабанаўка, Жлоб.); 3. хлусіць. Шчо дрэнны, то дрэнны быў Мікола, усё любіў звя́гаць (Чарняцін, Б.-Каш.).

ЗВЯГЛІ′ВАСЦЬ *ж.* злосць. Мяне такая агарнула звяглíвасць, што не ведаю, як і стрымалася (Буйнавічы, Лельч.).

ЗВЯГЛІ′ВЫ *прым., перан.* назойлівы. А той чалавек такі звяглíвы (Зладзін, Маз.); Сабака наш тожа во такі звяглíвы (Палессе, Чач.).

ЗВЯРА′ЧЫ *прым.* звярыны. Звярáчы след трудно познаць (М. Аўцюкі, Калінк.).

ЗДРО′К *м.* сляпень. Ну як напалі здракí на нашу карову, дык яна хутчэй дамоў (Грабава, Жытк.).

ЗДЗЮ′НДЗІЦЦА *зак.* згорбіцца. Такі мароз, што худоба здзю́ндзілась у тры погібелі (Вуглы, Нар.).

ЗЕБРАКІ′ *толькі мн., бат.* асот. О, дэк вам добрэ, у вас на бураках толькі зебракí, а у нас одна хвошч (Грушаўка, Нар.).

ЗЕ′ВА *ж.* зеў *(у кроснах).* Зѐва вяліка палучылась (Будкі, Нар.). *Парайн.* зявá.

З′Е′Д *м. шрам.* Рана зажыла, толькі з′éд астаўся (Клясаў, Петр.).

ЗЕ′ЛЕЙЦА *н.* фата. У Марыны было зе́лейца капронавае (Дворышча, Хойн.).

ЗЕЛЯЗНЯ′К *м., тое, што* заля́зка. Трэба іці ў лаўку да ўзяць зелязня́к, а то старога дзеці паламалі (Беразня́кі, Жытк.+Быч, Карм.; Горваль, Жлоб.; Забалацце, Раг.; Ляскавічы, Петр.; Дуброва, Светл.; Хвойнае, Хойн.). *Параўн.* зелязо́ўка.

ЗЕЛЯЗО′ЎКА *ж., тое, што* залязка. Падай ідзі мне зелязо́ўку (Пабеда, Ветк.). *Параўн.* за́ступ, зелязня́к.

ЗЕЛЯНЕ′Ц *м.* агурок *(зялёны)*. Глянь, які зеляне́цдоўжык вырас! (Капараўка, Рэч.); Гэтыя зелянцы́ такія горкія бываюць, што ні дай бог (Даманавічы, Калінк.+Забалацце, Раг.).

ЗЕЛЯНІ′ЦА *ж.* зялёнка *(грыб)*. Трэба було зеляніц прынесці, а то кінуць росці, а зеляні́ца — грыб добры (Мілашэвічы, Лельч.). *Параўн.* зелянушка.

ЗЕЛЯНКІ′ *толькі мн.* каноплі *(без семя)*. Трэба зелянкі выбіраць, штось многа іх у гэтым годзе (Забалацце, Раг.).

ЗЕЛЯНУ′ШКА I *ж.* птушка. Зеляну́шка за лета два разы выводзе птушанят (Баравікі, Светл.); Зеляну́шка, як і сініца, толькі цьвет пер'яў у яе другі (Халочча, Чач.+Насовічы, Добр.; Навінкі, Калінк.).

ЗЕЛЯНУ′ШКА II *ж., тое, што* зеляніца. Зеляну́шка — ета грыб такі, расце восенню, у нас яны перасталі расці, а раней зеляну́шак многа было (Забалацце, Раг.).

ЗЕ′НКА *ж.* зрэнка. Зенка ў цябе адна большая, другая меншая (Залессе, Чач.); На зе́нцы ў воку якая-та кропачка ў цібе (В.-Нямкі, Ветк.).

ЗЕ′ПАЦЬ *незак.* глядзець. Чаго ты зе́паеш на мяне (Харошаўка, Добр.).

ЗЖЫ́М *м.* шомпал. Зжы́м трэба для зарадкі гільзаў, залажваюць порах, дроб сціскаюць зжы́мам (Хізы, Ветк.).

ЗІ′МКА I *ж.* шапка *(зімняя)*. Чаго-та ты летам зімку надзеў? (Асінаўка, Чач.); Пастух наш усё лета ў зімцы ходзіць (Шылавічы, Чач.).

ЗІ′МКА II *ж.* азіміна. Узаралі зямлю пад зі́мку (Марозавічы, Б.-Каш.).

ЗІ′МНІК *м.* дарога *(зімняя)*. Дарога зімою ў нас завецца зі́мнік; снегу па ёй многа вельмі (Ручаёўка, Лоеўск.). *Параўн.* зімня́к.

ЗІМНЯ′К *м., тое, што* зі́мнік. Поедом гэтым зімня-

ко́м, бо той не протоптаны (Беразнякі, Жытк.); Зімняко́м мой паехаў нядаўна (Аравічы, Хойн.).

ЗІМО'ЎКА *ж.* капуста *(ранняя)*. Зімо́ўка — тая ранняя капуста — добра (Піркі, Браг.).

ЗІМО'ЎЧЫНА *ж.* тварог *(што збіраюць зімой)*. За пост зімо́ўчыны сабяром столятні, што да лета хапае (Р. Бурыцкая, Лоеўск.).

ЗІ'ХАВІЦА *ж.* маланка. Ну й зі́хавіца сённі, аж страшно (Аравічы, Хойн.).

ЗІ'ХАЦЬ *незак.* 1. зіхацець. Шо зі́хае, аж у хаці страшно седзець (Будкі, Нар.); Зі́хае і зі́хае, усю ноч зі́хала, ці будзе канец калі? (Шарпілаўка, Гом.). 2. блішчаць. Перэверны люстро, бо крэпко зі́хае (Грушаўка, Нар.). *Параўн.* зіхце́ць.

ЗІХЦЕ'ЦЬ *незак., тое, што* зіхаць *у 2 знач.* Памылі дзеўкі падлогу, аж зыхты́т (Грушаўка, Нар.).

ЗІЯ'ТКА *ж.* спадніца. Яна пашыла сабе новую зія́тку (Крупец, Добр.).

ЗЛАБАДЗЁ'БА *аг.* *скнара.* Ні будзь такім злабадзё́бам, а то памрэш і ніхто ні пажалея (Вітлін, Раг.).

ЗЛАБІ'ЦЕЛЬ *м.* злоснік. Ах ты злабі́цяль, вон адсюль сяйчас жа (Кароткавічы, Жлоб.).

ЗЛА'ГАДНА *прысл.* мірна. Сварыцца, не можа, каб зла́гадно жыць (Аравічы, Хойн.).

ЗЛАДЗЕЙ'КА *ж.* пячурка. Паглядзі ў зладзе́йку, мо там ляжыць твая патэльня (Саўгасная, Б.-Каш.).

ЗЛАДЗЮ'ГА *зневаж.* злодзей. Як зладзю́гу таку земля носіць (Піркі, Браг.+Іскра, Чач.; Шарпілаўка, Гом.).

ЗЛА'ЗІЦЬ *незак.* лушчыцца. Зла́зіць шкура, загар змываецца (Хізы, Ветк.).

ЗЛАПУ'ЗНІЦЬ *зак., зневаж.* сказаць *(абы-што)*. Ты кожны раз як злапу́зніш што-небудзь, дык нелюба слухаць (Палессе, Чач.). *Параўн.* змаро́зіць.

ЗЛЕ'ТАВАЦЬ I *зак.* пералетаваць. Калёсы на дварэ й злётавалі (Пясчанікі, Жытк.).

ЗЛЕ'ТАВАЦЬ II *зак.* падагрэць *(ледзь-ледзь)*. Злётавала вады карове (Пятровічы, Раг.); Дзеўкі, я вам вады злётавала, ідзіце ногі мыць (Прудок, Калінк.).

ЗЛЕ'ТКІ *толькі мн.* злёт *(птушак)*. У жніўні адбываюцца злёткі карэз (Літвінавічы, Карм.).

ЗЛЁК *м.* спалох. Ідзі злёк палячы (Каравацічы, Рэч.). *Параўн.* зляк.

ЗЛІКА'ЦЦА *незак.* сябраваць. Чаго ты з ім злікся, было б за што, ён табе не пара (Амельна, Раг.).

ЗЛІ'ЦЦА *незак.* свярбець. Папрэла скура паміж пальцаў, дак зліцца (Холмеч, Рэч.).

ЗЛІ'ЎНІЧАК *м.* гаршчочак. Схадзі, Нінка, у каморы вазьмі зліўнічак ды прынясі мне (Тульгавічы, Хойн.).

ЗЛІШЫ'ЦЦА *зак.* пасябраваць. Злішыліс тые хілiганы між сабою (Вўглы, Нар.). *Параўн.* зляскацца.

ЗЛОТ *м.* грош. Хвароба стоіла раней тры злоты (Харомцы, Акц.).

ЗЛЫБЕДА' *аг.* злоснік. Такі ж ужо жадны, такая злыбеда, што божа мой! (Навасёлкі, Петр.).

ЗЛЫ'ГІЧ *м.* повад *(якім звязваюць дзвюх жывёлін).* Падай злыгіч, ато паўцякаюць (Тульгавічы, Хойн.).

ЗЛЫ'ДЗЕНЬ I *м.* скнара. Ну і злыдзень, усё забярэ і мала (Ломыш, Хойн.); Першы злыдзень на сяле, зімой сьнегу не выпрасіш (Халочча, Чач.); У мяне не хапае слоў, каб расказуваць пра гэтага злыдня (Буйнавічы, Лельч.); Не дзіця, а злыдзень нейкі на галаву маю (Халочча, Чач.).

ЗЛЫ'ДЗЕНЬ II *м.* кадык. Ого, які злыдзень вырас (Марозавічы, Б.-Каш.).

ЗЛЫ'ДНІ *толькі мн.* беднасць. Злыдні могуць быць толькі тады, калі іх хто нашлець (Касцюкоўка, Гом.); Ой, няхай яго злыдні з'ядуць (Баравое, Лельч.).

ЗЛЫДЗЁ'НЫ *прым.* прагавіты. Ох, у Варкі злыдзёная карова (Дзям'янкі, Добр.).

ЗЛЮ'КА *аг.* чалавек *(злы).* Злюка ў мяне сусед. I яна злюка, разыйдзецца, дык як гадзюка шыпіць (Забалацце, Раг.).

ЗЛЯ'К *м., толькі адз., тое, што* злёк. Баба Дзянісіха, царства ёй нябеснае, лячыла зляк, а цяпер няма каму (Шарпілаўка, Гом.+Лоеў, Баравікі, Светл.).

ЗЛЯКА'ЦЦА *зак.* спалохацца. То ж трэбо так злякацца, то й слово не можа промовіць (Грушаўка, Нар.); Адзін хлопец як злякаўся, дык не гаварыў гадоў да дваццаці (Пракопаўка, Добр.+Аравічы, Хойн.; Быч, Карм.; Васільеўка, Гом.; Заходы, Рэч.; Харошаўка, Добр.; Холмеч, Рэч.).

ЗЛЯПІ'ЦЬ *зак.* збудаваць. Зляпіў сабе маленьку хацінку і буду жыць паціхеньку (Хальч, Ветк.+Амельна, Раг.).

ЗЛЯ'СКАЦЦА *зак., тое, што* злішыцца. Мой зляскаў-

ся з пляменнікам і ні шагу адзін без аднаго (Палессе, Чач.).

ЗМА'ЛКУ *прысл.* з дзяцінства. Яна ў мяне зма́лку такая сарамлівая (Васільеўка, Гом.).

ЗМАРО'ЗІЦЬ *зак., тое, што* злапу́зніць. Што ты змаро́зіў, што цябе ніхто не паняў? (Крыўск, Раг.+Горваль, Рэч.).

ЗМАТА'ЦЬ *зак., перан.* з'есці. Што ты сядзіш, я ўжо свайго змота́ла (Грушаўка, Нар.).

ЗМАХА'ЦЬ *зак.* зрабіць. Мы з ім змаха́лі багата за дзень (Вітлін, Раг.).

ЗМЕ'ЙКА *ж. пілка.* Для школы купілі многа зме́ек, дак я адну сабе ўзяў (Чырвоная Буда, Добр.).

ЗМЕ'Ш *м., толькі адз.* мука *(сумесь ячменю і грэчкі).* Раней, каб болей мукі было, рабілі зме́ш. Ета калі змяшаць ячмень і грэчку і змалоць, от табе і зме́ш (Дзям'янкі, Добр.).

ЗМЁ'ТАК *м., толькі адз.* снег *(апошні).* Калі зіма канчаецца і як змітая ўжо пасьледні сьнег — кажуць змётак ета (Палессе, Чач.).

ЗМІКІ'ЦІЦЬ *зак.* скеміць. Добро, што тая дзеўка зьмікі́ціла хуценька, у чым тут дзело (Аравічы, Хойн.); Бач, Ганна хутчэй змікі́ціла, чым Ніна (Белы Пераезд, Петр.).

ЗМУ'ЛІЦЬ *зак.* сцерці. Так зму́ліла нагу, што не магу хадзіць (М. Аўцюкі, Калінк.).

ЗМУ'СЦІЦЬ *зак.* спакусіць. Сатана зму́сьціць ясна сакала (Сямінаўка, Раг.).

ЗМЫ'ЙКІ *толькі мн.* вада *(пасля сціркі).* Пяць вядзёр змы́як вынесла (Чачэрск.). *Параўн.* змылкі, змыўкі.

ЗМЫ'ЛКІ *толькі мн., тое, што* змыйкі. Змы́лкі, калі трохі чыстыя, ня нада выліваць, мост памыям, толькі спускаць нада чыстай вадою (Касцюкоўка, Гом.); Добра будзе ў змы́лках пазаліць (Навасёлкі, Петр.). *Параўн.* змы́ўкі.

ЗМЫ'ЎКІ *мн., тое, што* змыйкі. Злей-ка гэтыя змы́ўкі, толькі не сюды, а ў гарод (Марозавічы, Б.-Каш.+Бабовічы, Гом.; Багданавічы, Карм.; Лучын, Раг.; Прыбыткі, Гом.; Хізы, Ветк.; Холмеч, Рэч.). *Параўн.* змылкі.

ЗМЫ'ЦЬ *зак., перан.* украсці. Ня ўспееш разьвесіць, як шычас змы́юць (Быч, Карм.).

ЗМЫЧО'К *толькі адз.* пара *(паляўнічых сабак).* Быў у мяне такі змычо́к (Піркі, Браг.+Баравікі, Светл.).

ЗМЯЯ′ *ж. вядзьмарка.* Змяя́ яна, калі людзей сваім знахарствам пагубіла (Хутар, Светл.).

ЗНАВА′ЦЬ *зак.* даведацца. Пастаіце ды пагаманіце, дык яна знава́е што-небудзь, запіша (Баравікі, Светл.).

ЗНАГАДЗІ′ЦЦА *зак.* спатрэбіцца. Знагадзіцца на што-небудзь, мо й дзеўцы на плацце (Палессе, Чач.). *Парайн.* знадобіцца.

ЗНАДО′БІЦЦА *зак., тое, што* знагадзіцца. Захаваў вяровачку — знадо́біцца шчэ мо (Шарпілаўка, Гом.).

ЗНАЁ′МЦЫ *толькі мн.* знаёмыя. Дык гэта вашы знаёмцы? (Баравікі, Светл.).

ЗНАЙСЦІ′СЯ *зак.* нарадзіцца. Вон у Паўлінкі ўжо чацвёртае дзіця знайшло́ся (Шылавічы, Б.-Каш.).

ЗНАКО′МАСЦЬ *ж.* знаёмства. У іх жа знако́масць усюдых (Стаўбун, Ветк.).

ЗНАЦЦЁ′ *н.* прадказанне. Каб знаццё́, што ў кума піццё, дак сам ба пашоў і дзіцей павёў (Шарпілаўка, Гом.); Каб жа знаццё́, дак не выпускувала б свінню (Палессе, Чач.).

ЗНА′ЧЫЦЬ *незак.* быць цельнай. Гей, мая карова зна́чыць (Дзядцы, Светл.).

ЗНЕ′ХТАВАЦЬ *зак.* зганьбіць. Зне́хтавалі чалавека і перавялі на другую працу (Заспа, Рэч.); Прыўёз жонку з Расейі, маладзіца хароша, здарова, нашае жызьні не знае, дак зьне́хтавалі зусім (Прудок, Калінк.). *Парайн.* зняверыць.

ЗНЕ′ЦІКІ *прысл.* знянацку. Зне́цікі можна любога пірапужаць. Ціт пірапужаў зьне́цікі малога Алены, дык і цяпер заікайіцца (Палессе, Чач.). *Парайн.* зне́цейкі.

ЗНЕ′ЦЕЙКІ *прысл., тое, што* зне́цікі. Зне́цяйкі пад вуха крыкнуў (Апанасаўка, Гом.). *Парайн.* знецікі.

ЗНЁ′САК *м.* зносак. Сёдні кура такое маленькае яечка знесла, наверна знёсак (Валахоўшчына, Браг.).

ЗНЁ′МШЧЫК *м.* фатограф. К нам з раёна прыязджаў знёмшчык (Вішанькі, Ельск.). *Парайн.* знімшчык.

ЗНІБЕ′ЦЬ *незак.* балець *(надакучліва).* Зубы ўвесь час зьнібя́ць (В. Нямкі, Ветк.).

ЗНІ′МШЧЫК *м., тое, што* знёмшчык. Колісь прыехаў к нам зьні́мшчык й зьняў нас першый раз (Батрак, Б.-Каш.+Дубраўка, Добр.; Дзвіжкі, Ельск.; Неглюбка, Ветк.; Новая Гута, Гом.).

ЗНІ′ЦІЦЦА І *зак.* прытаіцца. Зьніціўся мой хлопчык у гурках і сядзіць, а я чытаю (Грушаўка, Добр.).

ЗНІ'ЦІЦЦА II *зак.* скруціцца. Ёж, калі войдзеш, зніцііцца і сядзіць ціхенька (Баравікі, Светл.).

ЗНІ'ЦІЦЦА III *зак.* вырасці без пладоў. Бульба мая ў цяню зніцілася (Шарпілаўка, Гом.).

ЗНО'ШВАЦЬ *незак.* выпіваць. Дзет багата гарэлкі зношвае (Быч, Карм.).

ЗНУШЧА'ЦЦА *незак.* здзеквацца. Да годзіві з ёго знушчáлысь. Вон і так лэдь стоіт на ногах (Грушаўка, Нар.).

ЗНЯБЫ'ЦЦА *зак.* 1. выбіцца з сіл. Сягодні яна выбілася з сіл, зусім знябылáся (Прудок, Светл.); 2. пахудзець. Пабуў мала, а знябýўся як (Тульгавічы, Хойн.).

ЗНЯВЕ'РЫЦЬ *зак., тое, што* знехтаваць. Хоць бы яго там не знявéрылі (Тульгавічы, Хойн.).

ЗНЯЛЮ'БЕЦЬ *зак.* надакучыць. Знялю́бела ёй ужэ ўсё ета (Стаўбун, Ветк.).

ЗНЯЧЭ'ЎКУ *прысл.* нечакана. Знячэўку даў па плячу, а той ад страху прысеў (Перароў, Жытк.).

ЗНЯЧО'ГАЦЬ *зак.* аслабець. Не рабі нічога, ета знячóгала зусім, а не сядзіць на месцы (Навасёлкі, Петр.).

ЗО'ЛЬНА *прысл.* золка. Сёння ўжо зóльна на двары, як у восень (Балсуны, Ветк.).

ЗО'ЛЬНІК *м.* адбелка. Пóслі зóльніка бяллё стала, як бумага (Чачэрск.).

ЗО'НЦІК *м., бат.* суквецце. Зóнцікі на моркві растуць. У зóнціках насенне морквы (Забалацце, Раг.+Залессе, Чач.).

ЗО'ПКА *ж.* торба *(аброчная).* Ужэ паелі коні авёс з зóпкі (Запясочнае, Маз.); Насыпала поўную зóпку сечкі каню і пайшла ў хлеў (Буйнавічы, Лельч.).

ЗО'РАЧКА *ж., бат.* рамонак. Красіва цвятуць зóрачкі (Капань, Рэч.).

ЗО'РКІ *прым.* зорны. Зóркая пагода — ето, калі на небе німа хмар і зóркі пляшуць (свецяцца) (Аравічы, Хойн.).

ЗРЭ'БНЫ *прым.* суравы. З зрэ́бнага палатна мяшкі шыюць. Зрэ́бныя ніткі грубыя, таму і палатно тоўстае (Баравікі, Светл.); Са зрэ́бных нітак колісь сарочкі ткалі (Баравікі, Светл.+Майскае, Жлоб.; Марозавічы, Б.-Каш.; Пагоннае, Хойн.).

ЗУБАСКА'ЛІЦЬ *незак.* смяяцца. І чаго ён зубаскáліць? Зубаскáліць, зубаскáліць, а работу знае (Белы Пераезд, Петр.).

ЗУБЕ'Ц *м. расток.* От у етага зубе́ц войстранькі, а ў етага — не (Шарпілаўка, Гом.); Глядзі вунь, якія вялікія зубцы́ ў агуркоў (Даманавічы, Калінк.).

ЗУБІ'ЦЬ *незак.* насякаць. Серп зубіць ужо нада, к кавалю пайду (Марозавічы, Б.-Каш.).

ЗУБКАВА'ТЫ *прым.* сыраваты. Боршч мала стаяў у печы, ён будзе яшчэ зубкава́ты (Баравікі, Светл.).

ЗУ'БЛЕНКА *ж.* цыгарка. Вынь ты ету зу́блянку з рота (Дзвіжкі, Ельск.+Камаровічы, Петр.).

ЗУБРАНЁ'НАК *м.* зубранё. Зубранёнак сасаў сваю матку, а я ішоў, ох і ўпужнуліся (Бабовічы, Гом.). *Парайн.* зубрано́к, зубраня́тка.

ЗУБРАНО'К *м., тое, што* зубранёнак. Я век пражыла, а зубранка́ таго ні бачыла (Хізы, Ветк.). *Парайн.* зубраня́тка.

ЗУБРАНЯ'ТКА *н., тое, што* зубранёнак. Кожка ў зубраня́тка тоненькая, красівенькая (Насовічы, Добр.). *Парайн.* зубрано́к.

ЗУ'БРАЎКА *ж., бат.* трава. Зу́браўка — пахучая траўка (Пагост, Жытк.); Зу́браўку ў гарэлку дабаўляюць, пахнець добра (Марозавічы, Б.-Каш.).

ЗУБРЫ'ХА *ж.* самка зубра. Ты бачыў, пашла зубры́ха з двомі зубранёнкамі (Бабовічы, Гом.); Зубры́ха тая ўсегда ззаді ідзе, так шо ее не так лёгка ўбіць, як зубра (Аравічы, Хойн.+Забалацце, Раг.; Засінцы, Ельск.; Карчовае, Хойн.; Насовічы, Добр.; Неглюбка, Ветк.).

ЗУБРЭ'Й *м., толькі адз., бат.* зябер. Зубрэ́й—ета канапелькі (Холмеч, Рэч.).

ЗУГА'ЛІНА *ж., тое, што* заваліна *ў 2 знач.* Абкапай зуга́ліну на зіму (Асінаўка, Чач.). *Парайн.* зугва́ліна.

ЗУГВА'ЛІНА *ж., тое, што* зава́ліна *ў 2 знач.* Кругом хаты нада апкапаць зугва́ліну (Барталамееўка, Ветк.). *Парайн.* загава́ліна, зуга́ліна.

ЗУЁ'К *м.* перавозчык. Ідзіце, ідзіце, там зуёк вас перавязе (Каранёўка, Гом.).

ЗУ'РКА *прысл.* горача. Ой, зу́рка на печы ляжаць, нада злазіць ужэ (Насовічы, Добр.). *Парайн.* зырка.

ЗЫ'ДЛІК *м.* зэдлік. Сядайце на зы́длік, ён чысцянькі (Салаўёў, Б.-Каш.).

ЗЫ'ЗАЛКА *ж.* лядзяш. Вунь пад страхою колькі зы́залак вырасла за ноч (Багданавічы, Карм.).

ЗЫ'ЗКА *ж.* крапіва. Ля плоту зы́зка расце, усе рукі паабрызкувала (Азяраны, Раг.).

ЗЫК *м.* авадзень. Уляцеў зык у хату і хлопца ўзбудзіў. Ох і больна кусаюцца етыя зыкі (Кароткавічы, Жлоб.).

ЗЫКАВА'ЦЬ *незак.* гізаваць. Каровы сёння як зыкуюць — надвор'е жаркае (Багданавічы, Карм.); Калі зыкуюць, дак хіба ж іх астановіш (Бабовічы, Гом.+Навінкі, Калінк.; Хізы, Ветк.).

ЗЫ'МСІК *м.* выступ у коміне. На зымсіку звычайна мыла ляжыць (Забалацце, Раг.).

ЗЫ'НУЦЬ *зак.* пабегчы. Пленнікі як зынулі сюды ўцякаць (Палессе, Чач.).

ЗЫ'Р *м.* жар. Возьмі ковеню да загрэбі зыр (Беразнякі, Грабаў, Петр.).

ЗЫ'РКА *прысл., тое, што* зурка. Цепер на нашой печы так зырко, што не ўседзіш (Беразнякі, Жытк.+Камаровічы, Петр.; Макарычы, Петр.).

ЗЫ'РКАЦЬ *незак.* глядзець. Мне дак і зыркаць нільзя (Востраў, Раг.); Зыркаюць цэлую ноч пад вокнамі (Пракопаўка, Добр.). *Параўн.* зырыць.

ЗЫ'РЫЦЬ *незак., тое, што* зыркаць. Ну, чаго зырыш на мяне, або даўню не бачыў? (Балсуны, Ветк.).

ЗЫСК *м.* іск. Зыск зрабіў, бо будзеш маўчаць, дак і забудзе, што пазычаў (Марозавічы, Б.-Каш.).

ЗЮЗЮ'КАЦЬ *незак.* крычаць. Не зюзюкай на ўсю вуліцу (Шэрахаў, Б.-Каш.).

ЗЮ'ЗЯ *ж., дзіцяч.* холад. А на вуліцы зюзя, сынок (Неглюбка, Ветк.+Баравікі, Светл.; Новая Гута, Гом.; Зарэчча, Жлоб.; Прудок, Светл.; Холмеч, Рэч.).

ЗЯБЕ'Р *м., бат.* трава. Зябер — ета простая трава, можа для каго й прыгожая (Гадзілавічы, Жлоб.).

ЗЯ'БРЫ *толькі мн.* жабры. З кручка бяры асцярожна, за зябры, ды глядзі каб рыба не ўпала зноў у раку (Кароткавічы, Жлоб.).

ЗЯЗЮ'ЛЬКІ *толькі мн., бат.* цяцюшнік. Зязюлькі ў сенакосе растуць, розавенькім цвітуць і сівенькія бываюць (Баравікі, Светл.).

ЗЯКРА'ТЫ *прым.* лупаты. Зякраты, як бацька, а натура маці (Перароў, Жытк.); На сваіх дачок сварыцца, лае іх: «Чаго, зекратые, вылупіліся?» (Прудок, Калінк.).

ЗЯЛЕ'ПУХІ *толькі мн.* буякі *(зялёныя)*. Зялёпухаў багата шчэ расце кругом (Стаўбун, Ветк.).

ЗЯВА' *ж., тое, што зёва.* Ты ж чоўнік цяпер у зяву закідай (Харомцы, Акц.).

ЗЯЛЛЕ́′ *н., толькі адз.* лекі. Аптэкар выдае зяллё (Марозавічы, Б.-Каш.+Шарпілаўка, Гом.).

ЗЯМЕ′Ц *м.* пчаляр. Ідзі да яго, ён стары зямéц (Быч, Карм.).

ЗЯРЫ′НКА *ж.* зерне *(макавае)*. А ў мака зяры́нкі драбнюсяанькія, іншую і не заўважыш (Даманавічы, Калінк.).

# I

ІВА′Л *м.* івалга. Іва́л жоўты, крычыць, як кот, гняздо ў яго падвяснoе (Лядцы, Светл.); Іва́л увесь час гаворыць: «Сякеру ўкраў, за лаўку схаваў» (Ліпляны, Лельч.).

ІВА′НЬЧЫК *м., перан.* салавей. Іва́ньчык вядзецца ў садзе (Лядцы, Светл.).

ІВЯРЭ′НЬ *м.* пень. Адзін івeрэ́нь астаўся з ліпы, як хату знясьлі (Восаў, Светл.).

ІГРА′ЦЬ *незак.* бегаць *(пра карову)*. Наша карова перабегла, мабуць, игра́е, трэба завесці на ферму і пакрыць (Вуглы, Браг.+Каравацічы, Рэч.; Лучын, Раг.; Лядцы, Светл.; Навінкі, Калінк.; Піркі, Браг.).

ІГРУ′ШЫНА *ж.* драўніна *(з ігрушы)*. Добрыя дровы з ігру́шыны (Зарэчча, Жлоб.).

ІГРЫ′ШЧА *н.* вечарынка. А цяпер вечарынка, а тады, як мы дзеўкамі былі, на ігры́шча хадзілі (Баравікі, Светл.; Белы Пераезд, Петр.; Заспа, Рэч.; Камаровічы, Петр.).

ІГУМЕ′НША *ж.* жанчына *(тоўстая, непаваротлівая)*. Гэта баба, што ігуме́нша, тоўстая, нічога не робіць (Улукаўе, Гом.).

І′КАВІЦА *ж.* іканне. Як напала íкавіца (Піркі, Браг.); Мабыць, холадна, бо íкавіца ўзела (Клясаў, Петр.). *Парайн.* íкалка, íкаўка, ікóтка.

І′КАЛКА *ж., тое, што* íкавіца. Нейкая íкалка напала на цябе (Халочча, Чач.+Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* íкаўка, ікóтка.

І′КАЎКА *ж., тое, што* íкавіца. І′каўка напала, да таго ж ён перапужаўся (Бабовічы, Гом.); У мяне такая íкаўка, наверна, хтосьці ўспамінае (Буйнавічы, Лельч.+Ломыш, Хойн.; Марозавічы, Б.-Каш.; Пярэдзелка, Лоеўск.; Хутар, Светл.). *Парайн.* ікóтка.

І'КАТНІК *м., бат.* гарліца. Ікатнік на лугу набалей расцець (Марозавічы, Б.-Каш.).

І'КЛЫ *толькі мн.* клыкі. Іклы вырываць трэба ў свіней, бо ены ім мешаюць есці (Холмеч, Рэч.); Кныр напарваў йікламі пітуха на кускі (Чарняцін, Б.-Каш.); У дзікага кабана вялікія іклы (Млынок, Ельск.+Бабовічы, Гом.; Лукі, Жлоб.; Марозавічы, Б.-Каш.; Навінкі, Калінк.; Рафалаў, Браг.; Піркі, Браг.; Тураў, Гом.).

ІКО'ТКА *ж., тое, што* ікавіца. Ікотка такая бальшая ўзяла (Забалацце, Раг.). *Параўн.* ікалка, ікаўка.

І'КРЫ *толькі мн.* галёнка. Ой, жырныя ногі ж у яго— аж й ікры трасуцца (Палессе, Чач.); Нахадзілася, што ікры мае баляць (Бабовічы, Гом.+Ваевода, Гом.; Рафалаў, Браг.).

ІЛЬНІ'ШЧА *н.* поле *(дзе рос лён)*. Лён возяць на сенажаць ці на ільнішча і рассцілаюць (Баравікі, Светл.); Ільнішча засеялі ў гэтым годзе бульбай (Запясочча, Жытк.+Бабовічы, Гом.; Гармавічы, Жлоб.; Калінік, Хойн.; Майскае, Жлоб.; Неглюбка, Ветк.; Чырвоная Паляна, Б.-Каш.). *Параўн.* ільнянішча.

ІЛЬНЯНІ'ШЧА *н., тое, што* ільнішча. Ільнянішча ўсегда будзе чыстае (Бывалькі, Рэч.); Ільнянішча бульбай засеялі (Шарпілаўка, Гом.).

ІМБРЫ'ЧАК *м.* чайніца. Я ж заварыў чаю поўны імбрычак, няўжо ўжэ няма? (Заспа, Рэч.).

ІМГЛЕ'ЦІК *м., кул.* амлет. У нас сённі смачны імглéцік мама зжарыла (Асінаўка, Чач.).

ІМШЭ'ЛЬ *м.* дождж *(дробны)*. Цэлы дзень імшэль, нікуды не вылезці (Быч, Карм.).

ІНБА'Р *м.* клець. Ета ж во як у нас клець, калісь казалі інбáр (Барталамееўка, Ветк.).

ІНДЗЮ'ЧКА *ж.* індычка. Няма чаго казаць, мяса ў індзючкі мяккае, сакавітае (Б.-Крушынаўка, Раг.+Піркі, Браг.; Ручаёўка, Лоеўск.; Халочча, Чач.).

ІРВО'ТА *ж.* рвота. У майго Адаські такая ірвóта падхапілась (Буйнавічы, Лельч.); І што такое са мной, што ні з'ем, ірвóта і ўсё (Клясаў, Петр.+Марозавічы, Б.-Каш.; Хутар, Светл.).

І'СТКІ *толькі мн.* ніткі утка. Істак многа засталося (Халочча, Чач.).

ІСТРУ'Б *м.* зруб. Здзелалі ўжо іструб (Бабовічы, Гом.); На іструбе сядзяць плотнікі і есці не ідуць. У нас і цяпер багата іструбаў (Забалацце, Раг.+Зялёныя Лукі,

Гом.; Карма. Добр.; Косаль, Карм.; Меркулавічы, Чач.; Неглюбка, Ветк.; Раманавічы, Гом.).

ІСТО'БКА *ж.* стопка, варыўня. Варыва маё ўсё ў істо́пцы стаіць (Быч, Карм.).

ІСТО'ПКА *ж.* насціл *(у гумне з жэрдак)*. А ета такія жэрдкі ў гумне, на якія кладзецца сена, завом істо́пка (Быч, Карм.).

І'ЧЫК *м., заал.* птушка *(лесавы свістун)*. Ічык вядзецца на балоце і нясецца пад купінай (Лядцы, Светл.).

## К

КАБА'К *м.* гарбуз. У нас на вышках цэлых сто кабако́ў спела (Стары Хутар, Светл.).

КАБА'Н I *м.* 1. кныр. Даўней дык у нашай вёсцы была вуйма кнуроў. Звалі іх кабаны́ (Крушынаўка, Раг.+Неглюбка, Ветк.); 2. парсюк. Нешта наш каба́н нічога ні есь (Каравацічы, Рэч.); Як харошы каба́н, дак па пуду ў месяц прыбывае (Лядцы, Светл.); Нада даць кабану́, ато ўвесь катух разломіць (Крушынаўка, Раг.+Бабовічы, Гом.; Неглюбка, Ветк.); 3. дзік. На кабана́ аднаму іці страшна (Піркі, Браг.).

КАБА'Н II *м.* скляпенне *(у печы)*. У печы каба́н высыпаўся (Майскае, Жлоб.+Углы, Ельск.). *Параўн.* кабу́ла, кабы́ла II.

КАБА'СЬ *выкл.* пазыўное слова кабана. У нас усяк гаворацъ, а я «каба́сь-каба́сь-каба́сь» (Халочча, Чач.+Марозавічы, Б.-Каш.; М. Аўцюкі, Калінк.).

КАБА'Т *м.* кофта *(без рукавоў)*. У каба́це і ў холад цёпла (Мушычы, Акц.). *Параўн.* карсе́тка (карсэ́тка).

КАБА'ЦІК *м., памянш. да* каба́т. Адзень свой каба́цік, каб цяплей было (Навасёлкі, Петр.); Баба Ганна свайму ўнуку Толіку добры каба́цік пашыла (Радкоў, Акц.).

КАБУ'ЛА *ж., тое, што* каба́н II. Толькі сёння заўважыла, што кабу́ла ў печы пачала распадацца (Амелькаўшчына, Хойн.). *Параўн.* кабы́ла II.

КАБУ'ЛКА *ж.* вочка *(у ніце)*. Гледзі ж, не пропусці зноў кабу́лку (Тонеж, Лельч.).

КАБЫ'ЛА I *ж.* самка *(каня)*. Запражы кабы́лу ў калёсы (Каравацічы, Рэч.).

КАБЫ'ЛА II *ж., тое, што* кабан II. Развалілася мая

кабы́ла (Палессе, Чач.+Уць, Добр.; Шылавічы, Б.-Каш.). *Параўн.* кабу́ла.

КАБЫ'ЛКА I *ж. памянш. да* кабы́ла II. Высыпалася кабы́лка ў печы (Майскае, Жлоб.+Уць, Добр.; Шылавічы, Б.-Каш.).

КАБЫ'ЛКА II *ж., тое, што* кабу́лка. У адну кабы́лку кідаюць адну нітку, вельмі надаедлівая работа (Каравацічы, Рэч.).

КАБЫ'ЛКІ *толькі мн., тое, што* кабы́лка II. У кабы́лкі накідаюць ніткі (Марозавічы, Б.-Каш.).

КАБЫ'ЛЫ *толькі мн. від* грыбоў. Кабы́лы, як сыраежкі паджараныя, здаровыя (Баравікі, Светл.).

КАБЯ'К *м.* баран. Зблудзіўся мой кабя́к (Дзям'янкі, Добр.).

КАВА'КА *ж.* луста *(хлеба)*. Занясі ў поле бацьку кава́ку хлеба (Дзям'янкі, Добр.).

КАВЕ'ННІК *м.* вугал *(каля печы)*. Венік стаіць у каве́нніку (Вятчын, Жытк.). *Параўн.* каве́шнік, каме́шнік, качарэ́жнік *у 1 знач.*, качырэ́жнік (качэрэ́жнік), куве́нік.

КАВЕ'НЬКА *ж.* кульба. Дзед Сідар пры хадзьбе апіраўся на каве́ньккі (Углы, Ельск.). *Параўн.* куцо́бка.

КАВЕНЯ' *ж.* качарга. А дзе ш ето кавеню́ задзелі? (Грабаў, Петр.). *Параўн.* кавяня́, каменя́, камяня́, кацу́ба, кулю́ка.

КА'ВЕРТ *м.* вір. Не лезь туды, там ка́верт (Асавец, (Маз.). *Параўн.* круг VII, круча II.

КАВЕ'ШНІК *м., тое, што* каве́ннік. Чаго ты веніка кінула, пастаў его ў каве́шнік (Калінічы, Нар.); Кавяня стаіць у каве́шніку (Іванаўка, Хойн.+Антонаў, Ельск.; Ляскавічы, Петр.; Цешкаў, Нар.). *Параўн.* каме́шнік, качарэ́жнік *у 1 знач.*, качырэ́жнік (качэрэ́жнік), куве́нік.

КАВЫ'ЛКА *ж.* прылада для вымярэння плошчы *(2 метры)*. Раней плошчу вымяралі толькі кавы́лкаю (Баравікі, Светл.).

КАВЯНЯ' *ж., тое, што* кавеня́. Возьмеш кавяню́ да жар заграбеш у групцэ (Харомцы, Акц.); Хай толькі прыдзе: Так кавянёй і перацягну (Мілашэвічы, Лельч.+Астрагляды, Браг.). *Параўн.* каменя́, камяня́, кацу́ба, кулю́ка.

КАГА'ЛЬНЫ *прым.* пашыраны. Вам трэба кага́льные хва́міліі? (Аравічы, Хойн.).

КАГА'НКА *ж.* міска *(драўляная)*. А што было дзе-

лаць, калі пасуды ні было, то с каганкі так елі, што за вушамі трашчала, а ціпер усе на тарелачцы паднясі (Р. Бурыцкая, Лоеўск.). *Параўн.* каранёўка, каўга́н, каўга́нка *у 1 знач.*, кога́н.

ҚАГА'ТА *ж.* стог. Қага́ту замачыла вадой (Нісімкавічы, Чач.).

ҚАГУ'Т *м.* певень. Ва ўсіх дварах быў чуваць спеў кагутуно́ў (Қамаровічы, Петр.).

ҚА'ДА'ЎБ *м.* бочка *(драўляная).* Қа́даўб часцей усяго з ясеня рабілі (Іванаўка, Хойн.); А мы тады соль насыпалі ў ка́даўб (Запясочнае, Лельч.); У Аўдоцці ў кладоўцы стаіць мо тры ка́даўбы з мукою (Пясчанікі, Жытк.+Қамаровічы, Петр.); От калісь столькі када́ўбаў у мене було (Піркі, Браг.). *Параўн.* ка́да́ўба І *у 1 знач.*, ка́доўб І, кадо́ўба, ка́дуб, ка́йдоб, каўдо́б.

ҚА'ДА'ЎБА І *ж.* 1. *тое, што* ка́да́ўб. Насыпалі ў ка́даўбу мукі (Қапань, Рэч.); Қалі када́ўба без клёпак, то ў ёй збожжа (Қраснае, Рэч.); 2. ступка. Ета, во ўздор таўклі ў када́ўбі (Барталамееўка, Ветк.). *Параўн.* кадо́ўб І, кадо́ўба, ка́дуб, ка́йдоб, каўдо́б.

ҚА'ДАЎБА' ІІ *ж.* 1. сажалка. У ка́даўбе язя злавіў (Прудок, Қалінк.); 2. выбоіна *(на дарозе).* Қадаўбу́ паўбівалі на дарозе (Прудок, Қалінк.); 3. кар'ер. Торх капалі, дак кадаўба́ асталася (Палессе, Чач.). *Параўн.* кадо́ўб ІІ, катаві́на.

ҚАДО'ЎБ І *м. тое, што* ка́да́ўб. Без кадо́ўба абыйсціс можна (Галоўчыцы, Нар.). *Параўн.* ка́да́ўба І, кадо́ўба, ка́дуб, ка́йдоб, каўдо́б.

ҚАДО'ЎБ ІІ *м., тое, што* ка́даўба́ ІІ. Дзеці пайшлі купацца ў кадо́ўб (Антонаў, Ельск.).

ҚАДО'ЎБА *ж., тое, што* ка́да́ўб. Ссыпем гэтае зерне ў кадо́ўбу (Баравікі, Светл.). *Параўн.* ка́да́ўба І, кадо́ўб І, ка́дуб, ка́йдоб, каўдо́б.

ҚА'ДУБ *м., тое, што* ка́да́ўб. Адзыч мне ка́дуб, хачу заліць сваё плацце (Аравічы, Хойн.). *Параўн.* ка́да́ўба І, кадо́ўб І, кадо́ўба, ка́йдоб, каўдо́б.

ҚАДУ'Қ *м.* лясун, чорт. Не палохай мяне сваім кадуко́м, бо я не думаю яго баяцца — я не с пуглівых (Буйнавічы, Маз.).

ҚАЕ'Т (каёт) *ж.* сшытак. У каёце я так пісала, што люба глянуць було (Буйнавічы, Маз.); Ідзі і вазьмі каёт у лаўцы (Запясочнае, Маз.).

ҚАЖАНЁ' *н., памянш. да* кажан. Қажанё маленькае

лётала (Кароткавічы, Жлоб.); Кот дзесь кажаня́ паймаў (Аравічы, Хойн.); *Параўн.* кажанёнак.

КАЖАНЁ'НАК *м., тое, што* кажанё. Паглядзелі мы, а там у дупле пяць кажанят малых ляжыць (Забалоцце, Б.-Каш.+Хізы, Ветк.).

КАЖАНІ'ХА *ж.* самка *(кажана)*. Хвастоў у кажана і кажаніхі не замеціў (Хізы, Ветк.).

КАЖАНЯ'ЧЫ *прым. да* кажан. Быў чуваць кажаня́чы шум (Карчовае, Хойн.+М. Аўцюкі, Калінк.).

КА'ЖУЛЬ *м.* кужаль. Ка́жуль як адсырэў, дык тады хоць малатком па ім бі (Хізы, Ветк.).

КАЖУ'РЫЦЦА *незак.* хваляваццa. Нідзе ён ні дзенецца. Чаго ты кажу́рышся (Аравічы, Хойн.).

КАЖУ'ШАК *м.* шчупак. Злавіў кажу́шка на паўтара кілаграма (Старажоўцы, Жытк.); Рачныя кажу́шкі смачнейшыя за азёрныя (Старажоўцы, Жытк.); Учора ходзілі по рыбу, кажу́шак трохі наловілі (Мілашэвічы, Лельч.).

КА'ЖЫН (ка́жэнь) *займ.* кожны. Ка́жын дзень дож ідзе (Бярэзнікі, Жытк.); Ка́жэнь жа хаваецца (Піркі, Браг.).

КАЗА' I *ж.* каза *(свойская жывёла)*. А ў нас у селе мо толькі екая адна каза́. Ніхто іх не дзержыць (Караваційы, Рэч.); А мая каза́ дае літры па два малака ў суткі (Залессе, Чач.); Мая каза́ дае тры літры малака ў сізон (Лядцы, Светл.); У мене колісь була каза́, дык давала да дзесяці літроў малака ў суткі (Аравічы, Хойн.); Жырнае малако було ў маёй казы́ (Карчовае, Хойн.); Матка пашла даіць казу́ (Сівенка, Ветк.); Яна ўжо другі год дзяржыць казу́ (Вялікая Ляда, Раг.); У нас тры казы́ (Халоччa, Чач.); Ко́зы ўжэ з пашы дадому ідуць (Навінкі, Калінк.); Ко́зы выскачылі на гарод і пагрызлі маладыя ябланькі (Бабовічы, Гом.); Коз няма ў нас (Піркі, Браг.); Коз увосень на мяса рэзалі (Углы, Браг.). Даўней дзяржаў багата хто ко́зы (Ручаёўка, Лоеўск.+В. Крушынаўка, Раг.; Забалацце, Б.-Каш.; Засінцы, Ельск.).

КАЗА' II *ж.* каганец. Што тады — каза́ ды лучынка. А цяпер дык вон свет (Быч, Карм.).

КАЗА' III *ж.* 1. трыножак. Без казы́ няможна спекчы бліноў (Уць, Добр.); 2. стойка *(дзіцяч.)*. Мой сын і без казы́ навучыўся хадзіць (Дзям'янкі, Добр.). *Параўн.* ко́зка.

КАЗА' IV *ж.* прылада *(для малацьбы)*. Пойдзеш у гумно і абіваеш на казе́ снапы (Палессе, Чач.).

КАЗА́ V *ж.* сажань. Ты не ведаеш, хто нашу казу́ ўзяў? (Грычанавічы, Жытк.). *Параўн. казёл III у I знач.,* казю́лька, ко́зка I.

КАЗА́ VI *ж.* від санак. На казе́ ўзімку ваду с калодзежа возім (Саўгасная, Б.-Каш.).

КАЗА́ VII *ж.* цыбуля. Ну і каза́ вурасла такая доўгая (Даманавічы, Калінк.).

КАЗА́К *м.* казаціна. Каза́к шылі з чорнай чартакожы, з палусукна (Раманавічы, Гом.). *Параўн.* казачо́к II, казачы́на.

КАЗАКІ́ *толькі мн., бат.* адуванчыкі. Калі казакі́ адцвітуць, дак адуванчыкі робяцца (Ручаёўка, Лоеўск.).

КАЗА́Н *м.* чыгун. Велікі каза́н, добрэ варыць бульбу свінням (Замосце, Калінк.); Яшчэ каб дзе натрапіць ды купіць вялікага казана́ (Перароў, Жытк.); Пастаў кіяхі варыцца вось у гэты каза́н (Буйнавічы, Маз.); Вынь каза́н із печы (Жураўлёўка, Добр.); Боршч стаіць на прыпячку ў казане́ (Буйнавічы, Маз.); Іван купіў два казаны́ (Перароў, Жытк.+Антонаў, Ельск.; Макарычы, Петр.; Рудня, Лельч.). *Параўн.* каза́нчык.

КАЗА́НКА *ж.* вазон. Я купіла сёння каза́нку і хачу пасадзіць туды фікус (Хвойнае, Хойн.).

КАЗА́НЧЫК *м., памянш. да* казан. Мама, што ў том каза́нчыку варыцца, бо мене вон трэба (Грушаўка, Нар.).

КАЗАЧО́К I *м.* танец. Казачо́к, казачо́к, не любі маіх дачок (Баравікі, Светл.); Казачка́ мы гарна танцавалі (Піркі, Браг.).

КАЗАЧО́К II *м., памянш. да* каза́к. Тады ў старынушку шылі казачкі́ с пералінкай (Дзям'янкі, Добр.); Казачо́к разшывалі разнымі ніткамі (Раманавічы, Гом.).

КАЗАЧО́К III *м. мера* дроў *(0,5 м$^3$).* А там ня было і казачка́ дроў (Бярозкі, Браг.).

КАЗАЧЫ́НА *ж. 1. тое, што* каза́к. Казачы́на была зроблена з чорнага сукна (В. Стралец, Раг.); А як жа, і я насіла такую казачы́нку з хвалдамі (Р. Марымонава, Гом.); 2. кажух. Казачы́на — дліннная да пят, зверху пацягнутая (Рафалаў, Браг.). *Параўн.* казачы́нка.

КАЗАЧЫ́НКА *ж. 1 памянш. да* казачы́на. Адзень казачы́нку, і то цяплей будзе (Асінаўка, Чач.); 2. шапка *(аўчынная).* Мне справілі новую казачы́нку (Барталамееўка, Ветк.).

КАЗЕ́ЛЬНІК *м., бат.* казелец. Казе́льнік трэба лупіць, каб боршч варыць (Марозавічы, Б.-Каш.).

КАЗЁ'Л I *м.* самец *(казы)*. Спанатравіўся казёл Акуліхі хадзіць у мой гарод (В.-Крушынаўка, Раг.); У мяне казёл вельмі паганы, хоць ты не дзяржы (Лядцы, Светл.); Ну й барада ў казла́, як лён, белая (Карчовае, Хойн.); Казлы́ на мясо рэжуць (Засінцы, Ельск.+Бабовічы, Гом.; Залессе, Чач.; Навінкі, Калінк.; Ручаёўка, Лоеўск.; Сівенка, Ветк.). *Парайн.* казлінёнак, казлянёнак, казянёнак, казяня́тка.

КАЗЁ'Л II *м.* прыстасаванне *(для распілоўкі дроў)*. На казёл паложыш палена — лягчэй пілiць (Халочча, Чач.); Дровы летась пілілі на казлу́ (Неглюбка, Ветк.+Кажушкі, Хойн.). *Парайн.* казлы́ I.

КАЗЁ'Л III *м.* 1. *тое, што* каза́ V. Казёл і самаму зрабіць можна, две палкі — і казёл (Піркі, Браг.); 2. мера даўжыні *(2,5 м)*. Яна ўскапала ўжо многа казло́ў (Бярозкі, Браг.); 3. мера дроў *(2,5 м³)*. Памог ён! Два казлы́ толькі насёк (Марозавічы, Б.-Каш.). 4. укладка *(снапоў)*. Прыду на поле, пачну разлагаць жыта ў казлы́, за дзень налажу вельмі багата казло́ў (Ларышчава, Добр.). *Парайн.* казю́лька, ко́зка 1 *у 2 знач.*

КАЗЁ'Л IV *м.* 1. подсціл *(на под пры выпяканні хлеба)*. Каб ад залы не быў чорны хлеб, кладзём казёл з дубовых лістоў (Марозавічы, Б.-Каш.); 2. звязка *(лісцяў)*. Насабірай лісцяў падарожніка і сдзелай с іх казла́ і падвесь у сенцах (Ларышчава, Добр.).

КАЗЁ'Л V *м.* умацаванне *(саламянай страхі)*. Ложаць казлы́, штоб вецер не раздуваў салому (Карма. Добр.); Казлы́ прыдзержываюць вільчык саламянай страхі (Крынкі, Рэч.). Цяпер ужо саломуй ня крыюць, дык і казло́ў ні нада класць (Косаль, Карм.). *Парайн.* ко́злік II.

КАЗЁ'НКА *ж.* шуфлік. Вазьмі казёнку да жыто падбяры ў гумне (Харомцы, Акц.).

КАЗІ'НЕЦ *м., бат.* казялец. Казі́нец расце на балоце. Казі́нец — жоўценькія красачкі (Неглюбка, Ветк.).

КАЗЛІНЁ'НАК (казлянёнак) *м., памянш. да* казёл I. Той казлінёнак быў харошанькі, беленькі (Марозавічы, Б.-Каш.); Каза акаціла два казлянёнкі (Залессе, Чач.). *Парайн.* казянёнак, казяня́тка.

КАЗЛО'М *прысл., крав.* від падрубкі. Падрублівай «казло́м», бо будзе выматвацца (В. Поле, Петр.).

КАЗЛЫ' I *толькі мн., тое, што* казёл II. Казлы́ падгнілі, разваліліcь, і няма на чым перапілаваць палена дроў

(Заспа, Рэч.); А ці вытрымаюць твае каз́лы́ такое палена? (Ломыш, Хойн.); Ну і мужчына — казло́ў добрых не зробе (Асінаўка, Светл.); Прынясі казлы́, дровы будам рэзаць (Піркі, Браг.+Вышалаў, Петр.; Неглюбка, Ветк.; Пясчанікі, Жытк.).

КАЗЛЫ′ II *толькі мн., тое, што* каза́ V. Брыгадзір абмервае казла́мі поле (Піркі, Браг.).

КАЗЛЫ′ III *толькі мн.* казлякі́. Казлы́ ў нас раслі і во зразу за гародамі, там лес колісь быў (Быч, Карм.); Чарвівых казло́ў багата (Стаўбун, Ветк.); Дзеці пайшлі ў казлы́ (Асінаўка, Чач.+Хізы, Ветк.).

КАЗЛЫ′ IV *толькі мн.* 1. прыстасаванне *(пад страхой для сушкі збожжа, травы).* А ты пакладзі на казлы́ гэтую сухую траву (Буйнавічы, Маз.); 2. прыстасаванне *(для лажання на дрэвы).* Стань на казлы́ і паглядзі, як там пчолы (Харомцы, Акц.).

КАЗЛЮ′КА *ж., тое, што* каза́ V. Вазьмі казлю́ку ў дварэ і ідзі мужчынам памерай соткі, а я пайду на поле (Азяраны, Раг.).

КАЗЫ′ТКА *ж., заал.* ласка. Учора папужала маіх хлапцоў казы́тка, дык больш во не пойдуць па каласы (Буйнавічы, Маз.).

КАЗЬЛЯЧО′К *м., тое, што* казлы́ III. Кладуцца ж казьля́чкі тыя на крышу (Піркі, Браг.).

КА′ЗЬНЯ *ж.* кара. Ды калі яна будзя ўжо па-настаяшчаму есці? Што за ка́зьня такая? (Быч. Карм.).

КАЗЮ′К *м.* казяўка. Нема места, дый адкуль ўзяліся гэтыя казю́кі (Макарычы, Петр.). *Парайн.* казю́ка.

КАЗЮ′КА *ж., тое, што* казю́к. З вугла выпаўзла казю́ка (Камаровічы, Петр.).

КАЗЮ′ЛЬКА *ж., тое, што* каза́ V. Мераюць зямлю казю́лькамі. На гектар пяцьсот казю́лек. Адна казю́лька два метры (Хізы, Ветк.). *Парайн.* казёл III *у I знач.,* ко́зка.

КАЗЯНЁ′НАК *м., памянш. да* казёл I. Наша каза́ аказіла двух казяня́т (Бабовічы, Гом.). *Парайн.* казлінёнак (казлянёнак), казяня́тка.

КАЗЯНІ′ЦЦА *зак.* акаціцца. Каза ўчора казяніласа (Неглюбка, Ветк.).

КАЗЯНЯ′ТКА *н., памянш. да* казёл I. Наша каза аказіла двух казяня́так (Бабовічы, Гом.). *Парайн.* казлінёнак (казлянёнак), казянёнак.

КАЗЯ′РНІК *зборн.* стрэлкі. Вясною казя́рнік зацвітае белым цветам (Грушаўка, Нар.).

КА'ЙДОБ *м., тое, што* ка́да́ўб. Мы насушылі многа груш і засыпалі іх у ка́йдоб на зіму (Кузьмічы, Ельск.). *Параўн.* ка́да́ўба I, кадо́ўб, кадо́ўба, каўдо́б.

КА'ЙСТРА I *ж. 1.* торба. Цэлая ка́йстра сахару стаіць загатоўлена (Пясочная Буда, Добр.); Ка́йстра—торба для пастуха з хлебам (Лучыца, Петр.+Апанасаўка, Гом.; Балсуны, Ветк.; Буйнавічы, Маз.; Замосце, Калінк.; Капань, Рэч.; Паганцы, Светл.; Харомцы, Акц.); 2. мех. Ка́йстра напаўнялася пшаніцай (Стралкі, Раг.); Усып у ка́йстру мукі (Макарычы, Петр.); Накапала я бульбы да абеду пяць ка́йстр (Запясочнае, Маз.); Сёння за дзень я сама набрала чатыры добрыя ка́йстры бульбы (Буйнавічы, Маз.); 3. кошык. Я табе палажыла ў ка́йстру кусок хлеба з салам (Баравікі, Светл.). *Параўн.* ка́йсцерка.

КА'ЙСТРА II *ж.* агонь, полымя. Амаль да самага вечара была відаць за вёскай яркая ка́йстра (Амелькаўшчына, Хойн.).

КАЙСТРА' *ж.* кастрыца. Лён сёлета плахі, кайстра́ адна (Быч, Карм.); Послі церніцы палучаецца ета самая кайстра́. Цэлыя горы кайстры́ ляжаць (Холмеч. Рэч.); Збяры кайстру́ і занясі ў хлеў (Дземяхі, Рэч.); Кайстро́й добра хату ўцяпляць (Лукі, Жлоб.+Быч. Карм.; Грушаўка, Добр.; Майскае, Жлоб.; Нямкі, Ветк.). *Параўн.* ка́йсцерка, ка́сцер.

КА'ЙСЦЕРКА *ж., памянш. да* ка́йстра I. Пойдзеш кароў пасці, складзі ета ў ка́йсцерку, а там з'ясі (Ст. Лутава, Лоеўск.).

КАКАЛУ'ША *ж.* чаромха. Какалу́ша ўжэ цвіце (Стаўбун, Ветк.). *Параўн.* калакалу́ша.

КАКЕ'ТКА *ж.* танец. Каке́тка була ў нас шчэ, дзёўкі (Піркі, Браг.).

КАКО'РА *аг., перан.* гультай. Ну й како́ра ж ён, на работу хоць гані (Бабовічы, Гом.).

КАКСАГЫ'ЗНІЦА *ж.* даглядчыца *(как-сагызу)*. Я каксагы́зніцай працую шмат год (Хільчыцы, Жытк.).

КАЛАВУ'РЫЦЬ *незак.* вартаваць. Я на печы пагрэюсь ды пайду калаву́рыць на ноч калхозныя амбары з хлебам (Заспа, Рэч.); Па парадку калаву́рылі калгаснаго двара (Турбінка, Маз.+Перароў, Жытк.; Прудок, Калінк.).

КАЛАГУ'МНІШЧА *н.* прыгуменне. Прамей ехаць калагу́мнішчам, а не па дарозе (Неглюбка, Ветк.).

КАЛАКАЛУ'ША *ж., тое, што* какалу́ша. Калакалу́-

ша начынае цвісці, і такі прыемны пах стаіць кругом (Саўгасная, Б.-Каш.).

КАЛАМУ'ТНІК *м.* ашуканец, падманшчык. Хваця табе, каламу́тніку, размусольваць тут (Буйнавічы, Маз.).

КАЛАНІ'ЦА *ж.* каламазь. Летам яна, ета каланіца, яшчэ добрая, а зімой як замерзне, хоць трактарам зварухай (Быч, Карм.). *Параўн.* кало́мазь.

КАЛАНТЫ'РА *ж.* сварка. Такая каланты́ра ў хаце (Грушаўка, Нар.).

КАЛАСАВІ'К *м.* грыб. У жніво растуць каласавікі (Барталамееўка, Ветк.).

КАЛАСАВІ'НА *ж.* адыходы *(пасля малацьбы)*. Атходы послі маладзьбы называюць каласаві́на (Стаўбун, Ветк.).

КАЛАТНЯ' *ж., кулін.* калатуша. Калатню́ зварым луччай заўтра (Залессе, Чач.).

КАЛАТУ'ШКА *ж.* 1. таўкачык *(для збівання масла)*. Калату́шка недзе закінулася (Грабаў, Петр.); Зламалася калату́шка, німа чым масла збіць (Неглюбка, Ветк.); 2. малаток *(драўляны)*. Калату́шка ў плотніка, а кіянка ў столяра (Суткоў, Лоеўск.); Прынясі з хаты калату́шку (Майскае, Жлоб.+Залессе, Чач.; Камаровічы, Петр.; Насовічы, Добр.). *Параўн.* кіёк *I у 3 знач.,* кія́нка, краставі́на, круг IV.

КАЛАЦІ'ЦЬ *незак.* 1. малаціць. Калаці́ць жыта — справа нялёгкая (Багданавічы, Карм.); Кладуць снапы і кало́цяць цэпам (Баравікі, Светл.); 2. трэсці *(кулі, садавіну)*. Кулі нада калаці́ць (Марозавічы, Б.-Каш.); Снапы кало́цяць, штоб пазвязываць у кулі (Літвінавічы, Карм.); Узаўтры ў калгасі будуць калаці́ць сад (Дамнавічы, Калінк.); Калаці́ць яблыню не трэба (Дуброва, Петр.); Яблыкі кало́цяць, калі поспеяць (Ручаёўка, Лоеўск.); 3. растрасаць *(гной, сена)*. Давайця пачнём ужо калаціць гной. Сённі сена калаці́лі (Літвінавічы, Чач.); 4. *перан.* трэсці *(пра ліхаманку)*. Ліхаманка яго кало́ціць (М. Аўцюкі, Калінк.); Усю ноч сына калаці́ла (Піркі, Браг.+Бабовічы, Гом.; Буйнавічы, Лельч.; Хутар, Светл.).

КАЛА'ЧЫК *м., бат.* кветка *(хатняя)*. Кала́чык еты вон у Варкі е (Піркі, Браг.). *Параўн.* калашні́к.

КАЛАЧЫ'НКА *ж.* амлет. Сянні здзелаю калачы́нку на снеданне (Быч, Карм.). *Параўн.* каўзу́лля, колоту́ша.

КАЛАШНІ'К *м., тое, што* кала́чык. На акне стаіць вунь калашнік (Буйнавічы, Лельч.).

КАЛАШЫ'НЫ *толькі мн.* калошы. Калашы́ны ў штанах вельмі ж шырокія (Багданавічы, Карм.); А забіць цібе радзіміц! Калашы́ны ў штанах новых павымазваў у гразь (Асінаўка, Чач.). *Параўн.* кало́шні.

КАЛДАБА'НЯ *ж.* калдобіна. У калдаба́ні бабы бяллё сціраюць (Бабовічы, Гом.). *Параўн.* калдо́бух.

КАЛДО'БУХ *м., тое, што* калдаба́ня. Машыны паўразаюць ямы, вось вам і калдо́бух (Ручаёўка, Лоеўск.).

КАЛДУ'Н I *м.* 1. вядзьмар. Хведар — калду́н не інакш (Неглюбка, Ветк.); Я так баюся етага старога калдуна́ (Халочча, Чач.); Калдуны́ — ета, гаворацць, есць (Холмеч, Рэч.); 2. гульня. Давайце у калдуна́ згуляем (Н. Гута, Гом.).

КАЛДУ'Н II *м. кулін.* бульбянік. Яна палажыла на талерку калдуна́ (Уваравічы, Б.-Каш.); Дай мне адзін толькі калду́н (Забалацце, Раг.). *Параўн.* кандо́бік, канды́баль.

КАЛДУ'ХА *ж.* чараўніца. Не хадзі ты, дзетка, к калду́хам, бо шчасце атаб'юць (Холмеч, Рэч.).

КАЛЕ'ЙКА *ж.* 1. чарга. Сваха, мая кале́йка каля цябе (Буда, Рэч.); 2. чарга *(пасвіць жывёлу)*. Заўтра трэба кале́йку атпасціць (Камаровічы, Петр.).

КАЛЕ'НА *н.* 1. калена *(нагі)*. Можа кале́на баліць таму, што ты яго ўдарыў (Багданавічы, Карм.); Я раз пабіла кале́на, што не магла хадзіць (Баравікі, Светл.); 2. калена *(на сцябле раслін)*. Ето такая нарасля на траве, вона і завецца кале́но (Падварак, Лельч.); У кожнай травіны ё кале́ны (Халочча, Чач.); 3. фігура *(кадрылі)*. У кадрылі ёсць першае кале́на, другое кале́на і трэцяе (Хізы, Ветк.); Кале́ны ў танцах розныя бываюць (Забалацце, Раг.); Кадрэлю танцуюць на пяць кале́н (Кароткавічы, Жлоб.).

КАЛЕ'ННЯ *зборн.* цаліна. Лі Валосаўскага лесу тады было адно кале́ння. Дык мы тоя кале́ння распахалі і пасеялі проса (Палессе, Чач.).

КАЛЕСНЯ' *ж.* прылада *(для вырабу колаў калёс)*. Калесня́ була тады, як калёсы дзелалі (Холмеч, Рэч.).

КАЛЕСО' *н.* кацёлка *(сланечніка)*. Сарока сядзе на калесо́ і клюе, дык мы абвезалі іх (Бывалькі, Рэч.); У колесе́ семкі такія буйныя (М. Аўцюкі, Калінк.). *Параўн.* каляса́йка, калясо́ I, каце́лка.

КАЛЁ'ЎКА *ж.* стал. 1. від рубанка. Ці няма ў цябе калёўкі? (Кароткавічы, Жлоб.); Прынясі калёўку, я зраблю прыгожае шаляванне (Засінцы, Ельск.); Узор вырабатываецца калёўкай ілі гакштэйнам (Косаль, Карм.); На вокнах узоры калёўкай рабіць зручна (Піркі, Браг.); 2. узор *(на шалёўцы)*. Калёўка дзелаецца калёўкай (Раманавічы, Гом.); Твая калёўка прыгожая (Гардуны, Браг.); Для красаты на налічніках дзелаюць калёўку (Крынкі, Рэч.); Луткі былі ўпрыгожаны калёўкай (Маркавічы, Гом.). *Параўн.* кантоўка.

КАЛІ'ВАШНІК *зборн.* бульбянік. У старыну сцяблы бульбы называлі калівашнікам (Насовічы, Добр.). *Параўн.* каліўе, каліўнік, каліўяшнік, картаплінне, картаплянік *у 1 знач.,* картапляшнік, картахлянік.

КАЛІ'СТАЎКА *ж.* юрок. Калістаўку не так лёгка і пабачыць (Ямпаль, Рэч.).

КА'ЛІЎЕ *н., тое, што* калівашнік. Мой Хведзька пайшоў каліўе сабіраць (Забалацце, Раг.). *Параўн.* каліўнік, каліўяшнік, картаплінне, картаплянік *у 1 знач.,* картапляшнік, картахлянік.

КА'ЛІЎКА І *н.* каліўца. Абмалаціў наш стары ёмка, і каліўка не засталося (Быч, Карм.).

КА'ЛІЎКА ІІ *ж.* бручка. Глядзі, якая каліўка добрая (Зарэчча, Жлоб.).

КАЛІ'ЎНІК *м., зборн., тое, што* калівашнік. Сёлета Максім скасіў увесь каліўнік (Хвойнае, Хойн.). *Параўн.* каліўе, каліўяшнік, картаплінне, картаплянік *у 1 знач.,* картапляшнік, картахлянік.

КАЛІ'ЎЯШНІК *зборн., тое, што* калівашнік. Прыбяры з мяжы каліўяшнік (Сяўкі, Лоеўск.). *Параўн.* каліўе, каліўнік, картаплінне, картаплянік *у 1 знач.,* картапляшнік, картахлянік.

КАЛІ'ЦЬ І *незак.* напальваць. Не калі грубку, а то будзе пажар (Бабовічы, Гом.).

КАЛІ'ЦЬ ІІ *незак. бяліць.* Учора каліла хату, яна мае другі від (Белы Пераезд, Петр.).

КАЛО'ВАРОТ *м.* паварот *(круты)*. Аўтобус ля каловарота стаіць. На каловароце самая гразь (Лукі, Жлоб.).

КАЛО'ДНЫ *прым.* вулей *(з калоды)*. У нас толькі адзін калодны вулей, ён на дрэве (М. Аўцюкі, Калінк.).

КАЛО'К м. 1. шпянёк. У мене мужыкі робілі хату ды і забылі забіць калок у палення, дак і сцена выперлась

(М. Аўцюкі, Калінк.); 2. падпора. Калок — палка сантыметраў 50, якая ўбіваецца каля кожнага каліва памідораў (Казялужжа, Хойн.); Ужэ пара ставіць калкі на квасолю (Даманавічы, Калінк.).

КАЛО'МАЗЬ *ж., тое, што* каланіца. Міша прыстаў ка мне, як каломазь (Запясочча, Жытк.).

КАЛО'ССІ *толькі мн.* каласнік. Жар бліжэй на калоссі падгарну (Ст. Рудня, Жлоб.).

КАЛО'ЦЦА *незак.* бадацца. Ні бойся ты яе, яна калоцца ні будзя, толькі так рагамі махае (Іскра, Чач.); Трэба, мабуць, прадаваць мне сваю карову, бо ўвесь час колецца (Завайць, Нар.+Бабовічы, Гом.; Баравікі, Светл.; Забалацце, Раг.; Марозавічы, Б.-Каш.; Піркі, Браг.; Хізы, Ветк.).

КАЛО'ЧАНКА *ж.* мешанка. Салому і сена складуць, і гэта калочанка (Забалацце, Раг.); Падкінь карові калочанкі (Ст. Буда, Б.-Каш.).

КАЛО'ШНІ *толькі мн., тое, што* калашыны. Во, папускаў калошні (Станькаў, Раг.).

КАЛПА'К *м.* частка печы *(верхняя)*. Калпак быў непадзвіжным (Баравікі, Светл.).

КАЛУЖА'НКА (калужынка) *ж.* кошык. Ой якія добрыя яблыкі стаяць у калужанцы. У цябе новая калужынка такая харошчая (Буйнавічы, Маз.).

КАЛУ'ЖЫНА *ж.* лужына. У калужыны жабы развяліся (Астрагляды, Браг.). *Параўн.* калюга, калюжа, калюжына.

КАЛЫ'М *м.* хабар. Ну як, сянні калым добрэй садраў? (Быч, Карм.).

КАЛЫМА'ГА *ж.* калёсы. З калымагай толькі ездзіць у лес (Норкаўшчына, Карм.). *Параўн.* каляснік.

КАЛЫ'СКА I *ж.* калыханка *(дзіцячая)*. Калыску павесілі на кручок (Р.-Шлягіна, Ветк.); У калысцы дзіця ляжала (М. Аўцюкі, Калінк.).

КАЛЫ'СКА II *ж.* агрэх. На полі ў цябе асталася калыска (Пучын, Браг.).

КАЛЮ'ГА *ж., тое, што* калужына. Пад вакном цэлая калюга пасля ночы паявілася (Буйнавічы, Маз.). Ішла ўвечары ды ў калюгу ўлезла (Асінаўка, Чач.); Пройдзе дождж, то калюгі на вуліцы будуць стаяць цэлую нядзелю (Белы Пераезд, Петр.+Быч, Карм.; Неглюбка, Ветк.; Ручаёўка, Лоеўск.). *Параўн.* калюжа, калюжына.

КАЛЮ'ЖА *ж., тое, што* калужына. Гэтая калюжа ні-

колі і не высыхае (Піркі, Браг.); Каля нас стаіць цэлая калю́жа, што нельга прайці (Макарычы, Петр.+Аравічы, Хойн.; Ручаёўка, Лоеўск.). *Параўн.* калю́га, калю́жа, калю́жына.

КАЛЮ'ЖЫНА *ж., тое, што* калу́жына. На вуліцы поўныя калю́жыны вады (Холмеч, Рэч.). *Параўн.* калю́га, калю́жа.

КА'ЛЮШАК *м.* кілішак. Дай ка́люшак на стол (Радкоў, Акц.). *Параўн.* ке́люшка.

КАЛЯДАВА'ЦЬ *незак.* хадзіць па дварах і спяваць калядныя песні. Хадзілі раней калядава́ць (Дуброва, Петр.).

КАЛЯ'ДНІКІ *толькі мн.* выканаўцы *(калядных песень)*. А ўвечары каля́днікі ў вокны стукаюць і песні пяюць (Аравічы, Хойн.).

КАЛЯ'НЫ *прым.* цвёрды. Каля́ны гэты рушнік (Бабовічы, Гом.).

КАЛЯСА'ЙКА *ж., памянш. да* кале́со́. Ідзі зрэж каляса́йку (Астрагляды, Браг.). *Параўн.* калясо́, каце́лка.

КАЛЯСНІ'К *м., тое, што* калыма́га. Купіў адзін каляснік сена (Пясчанікі, Жытк.); На каляснікў сена, салому вазілі толькі летам (Баравікі, Светл.+Прудок, Калінк.; Хвойнае, Хойн.; Хізы, Ветк.).

КАЛЯСО' I *н., тое, што* калесо́. Калёсы ўжо паспелі (Баравікі, Светл.). *Параўн.* каляса́йка, каце́лка.

КАЛЯСО' II *н.* фігура *(танца)*. Стануць у калясо́, перакружацца і зноў разайдуцца (Баравікі, Светл.).

КАЛЯ'ЦЦА *незак.* пэцкацца. Годзе табе каля́цца ў гэтай калюзе (Буйнавічы, Маз.).

КАМАКІ' *толькі мн.* пюрэ *(бульбянае)*. Камакі́ з салам — мая любімая яда (Дзвіжкі, Ельск.); На вячэру наварылі камако́ў (Запясочнае, Лельч.+Грабаў, Петр.; Старасе́лле, Добр.; Уваравічы, Б.-Каш.). *Параўн.* кама́м, камы́, камя́чынкі, каўма́, каўмакі́, ко́мікі, ко́мка.

КАМА'М *м., тое, што* камакі́. Дай я зраблю кама́м (Камаровічы, Петр.). *Параўн.* камы́, камя́чынкі, каўма́, каўмакі́, ко́мікі, ко́мка.

КАМБАЛА' *ж., перан.* чалавек *(блізарукі)*. Вунь камбала́ тая на двор вышла (Халочча, Чач.).

КАМЕ'ДНА *прысл.* смешна. Як каме́дна гамоняць у іншых вёсках (Піркі, Браг.).

КАМЕНАЛО'МНІК *м., бат.* мінушкі. Каменало́мнік тут рэдка страчаецца (Марозавічы, Б.-Каш.).

КАМЕНІ′ЧКІ *толькі мн., памянш.* да камяніцы. Па каменічкі спецыяльна не ходзім, а калі тавар пасеш ці губ'які збіраеш (Грушаўка, Нар.). *Параўн.* камяніцы.

КАМЕНІ′ШНІК *м.* сівец. Каменішнік у лесі расце, ён на земле сцелецца, а на ім ягадкі такіе красные растуць (Ручаёўка, Лоеўск.).

КАМЕ′НЧЫК *м.* костачка *(плода).* Лажы камéнчыкі ў талерку (Грушаўка, Нар.).

КАМЕНЯ′ *ж., тое, што* кавеня́. У вуглу каменя́ стаіць (Рудня, Лельч.). *Параўн.* кавяня́, камяня́, кацу́ба, кулю́ка.

КАМЕ′ШНІК *м., тое, што* кавéннік. Трэба падбяліць камéшнік (Багушчычы, Ельск.); І хто та цябе вучыў замятаць смецця ў камéшнік (Навінкі, Калінк.+Васількоў, Рэч.; Камаровічы, Петр.; Махновічы, Маз.). *Параўн.* кавéшнік, качарэ́жнік *у 1 знач.,* качырэ́жнік (качэрэ́жнік), кувéнік.

КАМЗЭ′ЛЬКА *ж.* камізэлька. Стары, пададзеў бы камзэ́льку, а то на дварэ добры мароз (Грабава, Жытк.); Камзэ́льку я і цяпер люблю насіць, у мяне яна як кухвайка цёплая (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.+Аравічы, Хойн.; Баравікі, Светл.; Харомцы, Акц.).

КАМІ′НАК *м.* 1. загнетак. Пастаў гладышку на камінак (Цешкаў, Нар.); 2. пяколак. Спічкі ляжаць на камі́нку. 3. прыпек. Зімой мы бульбу на камі́нку варылі (Быч, Карм.). *Параўн.* камянóк, кóмінак, копка III *у 1 знач.*

КАМІ′НЕ′Ц *м.* шкло *(лямпавае).* Дзе наш камі́нец, а то еты разбіўся? (Грушаўка, Ельск.); Разбіў камінéц, дык сядзі ў цемнаце (Хвойнае, Хойн.).

КАМІТЭ′Т І *м.* орган *(калегіяльны).* Добра працуе ў нашым саўгасе мясцовы камітэ́т прафесіянальнага саюза (Баравікі, Светл.).

КАМІТЭ′Т ІІ *м.* лес *(для сумеснага карыстання).* Камітэ́т ужо даўно вырубілі (Баравікі, Светл.).

КАМЛЮ′К *м.* камень. Там багата камлюкóў (Грушаўка, Нар.).

КАМЛЯВА′ТЫ *прым.* камлюкаваты. Якое камлява́тае вырасла дрэва (Чырвоная Буда, Добр.).

КАМНА′ТА *ж.* пакой. Хата перагароджана на камна́ты (Р.-Шлягіна, Ветк.).

КА′МНІК *м.* каменьчык. Мы як малымі былі ў ка́мнікі любілі гуляць (Кароткавічы, Жлоб.).

КАМО'РКА *ж.* 1. кладоўка. Занясі кашулю ў камо́рку (Лукі, Жлоб.); 2. загарадзь. Жывёла пасвілася ў камо́рцы (Карма, Чач.).

КАМСА'ТЫ *прым.* лахматы, калматы. Чаго ты такая камса́тая? (Камаровічы, Петр.). *Параўн.* касма́ты.

КАМУ'Х *м.* камлыга. Як дам табе ў спіну гэтым камухо́м (Грушаўка, Добр.). *Параўн.* каму́шша.

КАМУ'ШКА *ж.* снежка. Я каму́шку зляпіў і як стукнуў яе (Быч, Карм.).

КАМУ'ШША *н., зборн. да* каму́х. Крэпка багата каму́шша ляжала на полі (Асінаўка, Чач.); Чаго ты, матка, не патаўкла каму́шша ў бульбе? (Неглюбка, Ветк.); Як сталі каму́шшам кідацца, дык не ўседзіць было (Асінаўка, Чач.).

КАМЫ' *толькі мн.* 1. *тое, што* камакі́. А камы́ добрыя, елі з апецітам (Запясочнае, Лельч.); Вечарам зварым камо́ў (Аравічы, Хойн.); Бульбу паядзім цэлую ці камы́? (Заспа, Рэч.); Бяры даўбешку і таўчы камы́ (Азяраны, Раг.); На снеданне падалі к сталу камы́ (Капань, Рэч.); 2. пюрэ *(канаплянае).* З канапель робяцца камы́ (Баравікі, Светл.); 3. пюрэ *(фасолевае).* Пасядзі, зараз падам на стол камы́ (Буйнавічы, Маз.+Залессе, Чач.; Насовічы, Добр.; Тульгавічы, Хойн.; Углы, Ельск.). *Параўн.* кама́м, камя́чынкі, каўма̀, каўмакі́, ко́мікі, ко́мка.

КАМЯ'ГА *ж.* 1. човен. Камя́га — гэта выдаўбаная з суцэльнай тоўстай дзеравіны лодка (Дзям'янкі, Добр.); 2. карыта. Камя́га там стаіць (Быч, Карм.).

КАМЯНІ'ЦА *ж.* печ *(каменная ў лазні).* Ускінь ваду на камяні́цу (Залессе, Чач.).

КАМЯНІ'ЦЫ *толькі мн.* касцяніцы. Хадзілі сённі па камяні́цы (Углы, Ельск.).

КАМЯНО'К *м.* 1. *тое, што* камі́нак *у 2 знач.* Палажы спічкі на камяно́к (Хальч, Ветк.); 2. *тое, што* камі́нак *у 3 знач.* Возле печы камяно́к быў яшчэ (Багданавічы, Карм.); Кінь шкарлупінне на камяно́к. На камінку́ варылась вячэра (Асінаўка, Чач.); Цяпер і камянко́ў няма (Хізы, Ветк.). *Параўн.* ко́мінак *у 2, 3 знач.*

КАМЯНЯ' *ж., тое, што* кавеня́. Зрабі мне на заводзе камяню́ (Узнаж, Светл.); Жар з печы выграбалі камянёй, а цяпер кажуць качаргой (Краснае, Рэч.). *Параўн.* кавяня́, каменя́, кацу́ба, кулю́ка.

КАМЯ'ЧЫНКІ *толькі мн., тое, што* камакі́. Зварылі

на снеданне камя́чынкі (Капань, Рэч.). *Парайн.* кама́м, камы́, каўма́, каўмакі́, ко́мікі, ко́мка.

КАНА′ *ж.* куцця. Мая матка ўсегда на дзеды каны́ наробіць (М. Аўцюкі, Калінк.). *Парайн.* кано́н, кану́н.

КАНА′ДКА *ж.* від прычоскі *(мужчынскай)*. Пастрыжыце мяне пад кана́дку (Кароткавічы, Жлоб.+Барталамееўка, Ветк.).

КАНАЗА′ *аг.* капрызнік *(пра дзіця)*. Во якая расце ў мяне каназа́ (Турок, Петр.).

КАНАПА′ТКА *ж.* інструмент *(для канапачання)*. Падай мне вон тэю канапа̀тку, яна луччэй (Быч, Карм.).

КАНАПЕ′ЛЬКА *ж., бат.* 1. зябер. Канапе́лька яна як мяцёлачка, толькі невысокая (Піркі, Браг.); На нашом поплові багато конопе́лькі (Падварак, Лельч.); Свінням ірвом етую канапе́льку (Хізы, Ветк.); 2. клапоўнік. Клопікі і канапе́лькі — адна і тая ж трава (Марозавічы, Б.-Каш.); 3. кветка *(хатняя)*. Е багата цветоў. Во ў мене е канапе́лька, аганёк (Піркі, Браг.).

КАНАПЕ′ЛЬКІ *толькі мн.* каноплі. Канапе́лькі збіралі ўранне (Піркі, Браг.).

КАНАПЛЮ′К *м.* верабей. Я таму канаплюку́ кіем ножку пераб'ю (Вялікае Поле, Петр.); Канаплюкі́ ўсё проса падзяўбалі (Камаровічы, Петр.). *Парайн.* канапля́нік, канапля́нка.

КАНАПЛЯ′НІК I *м., тое, што* канаплю́к. Канапля́нік усе леціць у каноплі, не гледзіць і на пудзіла (Вялікае Поле, Петр.); Канапля́нік унадзіўсь у проса (Ліпляны, Лельч.); Пасеялі просо да летам не хадзілі туды, дак канапля́нікі чысто склевалі (Аравічы, Хойн.+Грушаўка, Нар.; Лядцы, Светл.; Навінкі, Калінк.; Пясчанікі, Жытк.; Сяўкі, Лоеўск.; Турбінка, Маз.; Ямпаль, Рэч.). *Парайн.* канапля́нка I, конопля́нык.

КАНАПЛЯ′НІК II *м.* сцяблы каноплаў. Паскладуй харашэ канапля́нік (Пучын, Браг.).

КАНАПЛЯ′НКА I *ж., тое, што* канаплю́к. Канапля́нка можэ ўдзержацца на канапліне (Вялікае Поле, Петр.); Чуй, канапля́нка ціўкнула (М. Аўцюкі, Калінк.). *Парайн.* канапля́нік I, конопля́нык.

КАНАПЛЯ′НКА II *ж.* хустка. На яе галаве была завязана новая канапля́нка (Ломыш, Хойн.); Падвяжы сабе ету канапля́нку (Баравікі, Светл.); Давай абвяжам яго канапля́нкай, хаця б не прастудзіўся (Астрагляды,

Браг.); У старой канапля́нцы можна зелле насіць (Кірава, Браг.+Грушаўка, Нар.; Кавака, Браг.; Махновічы, Маз.; Рудня, Каменева, Лоеўск.; Харомцы, Акц.).

КАНАТО'П *м.* багна. Станеш на канато́п і не выцягнеш нагу (Дзям'янкі, Добр.).

КАНАФА' *ж.* тканіна. Канафа́ — ета сіцец такі быў палосачкамі, уродзі атласныя палосачкі (Барталамееўка, Ветк.). *Парайн.* канво́ль.

КАНА'ЦЬ *незак., груб. 1.* паміраць. Ох і страшна глядзець, як чалавек кана́е (Баравое, Лельч.); 2. чакаць *(доўга)*. І чаго ты тут кана́еш? (Углы, Ельск.); 3. кленчыць. Прышлі ка мне, прысталі і кана́юць: «Дай да дай». Ну дык і аддала паследняе (Быч, Карм.+Беразнякі, Петр.; Пярэдзелка, Лоеўск.). *Парайн.* ка́нькаць, каню́чыць.

КАНВО'ЛЬ *м., тое, што* канафа́. Канво́ль — ета матэрыя такая на ангеркі, кохты такія шылі длінныя (Барталамееўка, Ветк.).

КАНДЗЕ'Р *м.* суп *(бульбяны)*. Добры сёння атрымаўся кандзе́р (Б.-Люшава, Б.-Каш.).

КАНДЗЮ'Х *м.* жывот. Ого кандзю́х распетаў, як у буржуя (Палессе, Чач.).

КАНДО'БІК *м., тое, што* калду́н II. Надаела мне табе кандо́бікі гатовіць (Рудня-Бурыцкая, Лоеўск.). *Парайн.* канды́баль.

КАНДУ'ЛА *аг.* падманшчык. Арыштавалі канду́лу (Акцябрскі, Акц.).

КАНДЫ'БАЛЬ *м., тое, што* калду́н II. Канды́блі гатуюць з бульбы і мяса (Любань, Б.-Каш.). *Парайн.* кандо́бік.

КАНЕ'ЎНІЦА *ж., зневаж.* жанчына *(моцная)*. Во пашла кане́ўніца гэтая (Стаўбун, Ветк.).

КАНЕ'ЧНІК *м.* дубец *(апошні пры пляценні кошыка)*. Кане́чнік ужо бярэцца трохі таўсцейшы, чым рэбры (Кароткавічы, Жлоб.).

КАНЁ'К I *м.* канёк *(для катання па лёдзе)*. Колісь калькі́ дзелалі самі, а цяпер у магазіне купляем (Баравікі, Светл.).

КАНЁ'К II *м.* вільчык. Глянула і чуць не самлела: залез малы на самы верх крышы, на канё́к ажно (Косаль, Карм.); Канё́к прыбіваюць ці на чарапіцы ці шыферы. (Піркі, Браг.); Мы зрабілі канё́к, каб крыша не цякла (Кароткавічы, Жлоб.+Баравікі, Светл.; Гарадзец, Раг.;

Карма, Добр.; М. Аўцюкі, Калінк.; Рудня, Чач.; Р.-Шлягіна, Ветк.).

КАНО'Н *м., тое, што* кана́. На памінках ядуць кано́н (Сівенка, Ветк.). *Парайн.* кану́н.

КАНО'РКІ *толькі мн.* карункі. Прыгожыя кано́ркі спляла маці (Новая Дуброва, Акц.); Гэтыя кано́ркі мамка сама вязала (Баравікі, Светл.). *Парайн.* кану́ркі, каро́нкі I, кару́нка, кацу́рка, кру́жавы.

КА'НТАР I *м.* 1. бязмен. Ка́нтар той самы бязмен, е розніца — то гранёны, а то круглы (М. Аўцюкі, Калінк.); Прынясі мне ка́нтар, трэба зважыць масла (Гармавічы, Жлоб.); 2. мера вагі (2,5—*3 пуды*). Мой мужык другі раз так аслабее ад работы, што і ка́нтара збожжа ні можа падняць (Ларышчава, Добр.); Ды ў гэтым парасёнку больш аднаго ка́нтару і ня будзе (Кароткавічы, Жлоб.); Звесь мне ка́нтар бульбы (Піркі, Браг.+Бабовічы, Гом.; Баравікі, Светл.; Забалацце, Раг.; Марозавічы, Б.-Каш.; Неглюбка, Ветк., Ручаёўка, Лоеўск.; Холмеч, Рэч.). *Парайн.* капы́т II.

КА'НТА'Р II *м.* вуздэчка. Вазьмі ка́нтар і прывядзі каня (Хвойнае, Хойн.); Я ўжэ яго канта́рам прывязаў, а ён адарваўся (Холмеч, Рэч.).

КАНТО'ЎКА *ж., тое, што* калёўка *ў 2 знач.* Па шалёўцы здзелаю канто́ўку (Рудня-Шлягіна, Ветк.).

КАНУ'Н *м., тое, што* кана́. Ета ўжо закон такі, штоб кану́н быў на памінках (Хізы, Ветк.); Спачатку трэба лыжку кану́на з'есць (Зенькавіна, Карм.).

КАНУ'РКІ *толькі мн., тое, што* кано́ркі. Мне наравяцца з зубчыкамі кану́ркі, а другім без зубчыкаў (Каравацічы, Рэч.). *Парайн.* каро́нкі I, кару́нка, кацу́рка, кру́жавы.

КАНУСНЫ' *прым.* конусны. Без кануснóга свердзела нельзя работаць (Халочча, Чач.).

КАНЦЫ' *толькі мн.* ніткі (*недатканыя*). Канцы́ — гэта астаткі нітак ад навойкі да нітаў (Марозавічы, Б.-Каш.); У міне асталіся недатканыя канцы́ (Будкі, Нар.); Бяруць бабы ды завязкі робюць з канцо́ў (Хізы, Ветк.+Бабовічы, Гом.; Неглюбка, Ветк.; Пярэдзелка, Лоеўск.; Тонеж, Лельч.).

КАНЦЫЛЯ'РСКАЯ *ж.* канцылярыя. Спіскі тыя ў канцыля́рскай вісяць (Ніўкі, Добр.).

КАНЧА' *н.* конь (*худы*). Етае канча́ скора згіне (Тульгавічы, Хойн.).

КАНЧА́ЛЬНЫЯ *толькі мн.* частаванне (*пасля заканчэння работы*). Страха кончана, будзем спраўляць канча́льныя (Кароткавічы, Жлоб.); Хутка зробім хату. Праз тыжэнь ужо і канча́льныя будуць (Багуцічы, Ельск.). *Параўн.* канчы́ны.

КАНЧА́НЕ *толькі мн.* жыхары (*канца вёскі*). Чуць не ўсі маладажоны ў нашай дзяреўні — канча́не (Багданавічы, Карм.).

КАНЧУ́К *м.* пуга (*раменная ці вяровачная частка*). Танейшая частка — пракалеснік, а таўшчэйшая — канчу́к (Хізы, Ветк.+Асінаўка, Чач.).

КАНЧЫ́НЫ *толькі мн., тое, што* канча́льныя. Як пастроіў сусед хату, дык зрабіў канчы́ны (Стаўбун, Ветк.).

КА́НЬКАЦЬ *незак., груб., тое, што* кана́ць *ў 3 знач.* Ета дзеўка ўсё канькае і ка́нькае, штоб узяла ў школу (Хвойнае, Хойн.). *Параўн.* каню́чыць.

КАНЬКО́ВЫ *прым.* вільчыкавы (*матэрыял*). Ета будзе каньќо́вая жэрдка (Карма, Добр.).

КАНЮ́Х *м.* конюх. Каню́х даглядае коней, ён жа іх і-водзіць на начлег (Баравікі, Светл.); Не мог ужо старэнькі каню́х даглядзець каней, дык і паставілі маладзейшага (Марозавічы, Б.-Каш.+Багданавічы, Карм.; Забалацце, Раг.; Стаўбун, Ветк.; Ямпаль, Рэч.).

КАНЮ́ЧЫЦЬ *незак., груб., тое, што* кана́ць *у 3 знач.* Прыходзіла суседка ка мне ды так ужо каню́чыла грошай (Алексічы, Хойн.). *Параўн.* ка́нькаць.

КАПА́ I *ж.* 1. куча (*сена, снапоў*). Тут будзя адна добрая капа́ (Лучын, Браг.); Паляжала ў капе́, дык добра пластамі бярэцца (Баравікі, Светл.); Усі ко́пы сырыя, усі нада развырачываць (Ліцвінавічы, Чач.); Ко́пы панаставілі, а тут дождж пойшоў, трэба ж ета (М. Аўцюкі, Калінк.); З валкоў сена складаюць у ко́пы (Дземяхі, Рэч.); У нас на поплове будзе копе́ дзве сена (Грычынавічы, Жытк.); 2. шэсцьдзесят адзінак чаго-н. Капу́ яец на базары прадала (Бабовічы, Гом.); Нажала сёння тры капе́ жыта (Махновічы, Ма́з.+Астрагляды, Браг.; Багданавічы, Карм.; Забалацце, Раг.; Завайць, Нар.; Кароткавічы, Жлоб.; Ларышчава, Добр.; Марозавічы, Б.-Каш.; Пагоннае, Хойн.; Стаўбун, Ветк.). *Параўн.* капе́шка, капі́ца.

КАПА́ II *ж., зневаж.* жанчына (*поўная*). У нас баба ё на слабадзе, раздзелалась, як капа́, ну тона будзя (Хізы, Ветк.). *Параўн.* качо́лка *ў 5 знач.*

КАПАВА'ЦЬ *незак.* складаць (*у копы*). Яны самі капу́юць копы (Пучын, Браг.). *Параўн.* капнава́ць, капіць *у 2 знач.*

КАПА'ЛКА *ж.* бульбакапалка. Сёдні ўжэ капа́лка на поле выйшла (Ст. Буда, Б.-Каш.); Цяпер бульбу капаюць капа́лкай, а раней капалі пад лапату і за плугам (Дземяхі, Рэч.); Капа́лкі даўно на полі робяць (Піркі, Браг.); Раней капа́лок не было (М. Аўцюкі, Калінк.+Гармавічы, Жлоб.; Насовічы, Добр.; Стаўбун, Ветк.).

КАПА'НІКІ *толькі мн.* 1. від саней. А вунь капа́нікі ў нас за плотам валяюцца (Баравікі, Светл.); 2. палазы. Капа́нікі сагнуў з дуба (Бабовічы, Гом.).

КАПАНІ'ЦА *ж.* матыка. Зямля, як камень, аж капані́ца ні бярэ (Гармавічы, Жлоб.); Маёй капані́цы за лета не стала (Крыўск, Раг.); Капані́цу на сотках забыла (Асінаўка, Светл.); Можаш маю капані́цу ўзяць, вельмі добра акопвае (Казялужжа, Хойн.); Здзелай капані́цу, бо німа чым абграбаць бульбу (Сямёнаўка, Рэч.); Перакапалі поле тое капані́цаю (Навасёлкі, Петр.); У кузні добрые капані́цы робяць (Аравічы, Хойн.+Антонаў, Ельск.; Бабовічы, Гом.; Барталамееўка, Ветк.; Даманавічы, Калінк.; Дзям'янкі, Добр.; Забалацце, Раг.; Махновічы, Маз.; Н. Дуброва, Акц.; Перароў, Жытк.; Піркі, Браг.; Углы, Нар.; Халочча, Чач.). *Параўн.* капа́чка.

КАПАНІ'ЧАННЕ *н.* акучванне. Брыгадзір адправіў сёння на капані́чанне капусты (Гармавічы, Жлоб.).

КАПАНІ'ЧЫЦЬ *незак.* матычыць. Ужо ўзышла бульба, нада яе капані́чыць (Стаўбун, Ветк.); Цэлымі днямі сядзіць у гародзе, капані́чыць, а следу німа (Кароткавічы, Жлоб.); Бульбу сначала капані́чаць, а тагда ўжэ разганяюць канём (Хізы, Ветк.+Багданавічы, Карм.; Залессе, Чач.; Пясчанікі, Жытк.). *Параўн.* крыса́ць.

КАПАРА'ЦЬ *незак.* капаць. У нас учора ўжэ капара́лі бульбу (Амельна, Раг.).

КАПАЦЕ'ЦЬ *незак.* бегчы. Во толькі пашоў, ня ўспеў я і пайсці, а ён ужо капаці́ць ва ўсю (Быч, Карм.).

КА'ПАЧКА *ж.* капелька. У часы папала ка́пачка вады, і яны стаяць (Паляна, Б.-Каш.). *Параўн.* ка́пка, ка́пялька.

КАПА'ЧКА І *ж., тое, што* капані́ца. Нада навастрыць капа́чку, а то вельмі тупая (Іванаўка, Хойн.); Вазьмі ў суседкі капа́чку, удвaіх хутчэй зробім (Карма, Добр.).

КАПА́ЧКА II *ж.* капальніца *(бульбы)*. У нашай брыгадзе ёсць і маладая капа́чка. За дзень накопвае многа бульбы (Дзям'янкі, Добр.).

КАПЕ́ЛЕЯ *ж.* група. Пайшлі цэлай капе́леяй у госці (Барталамееўка, Ветк.).

КАПЕРАТЫ́Ў (капераціў) *м.* магазін. Трэба ў каперати́ў схадзіць (Харомцы, Акц.); Аткрыты капераціў? (Харомцы, Акц.). *Парайн.* кульдзюм.

КАПЕРАЦІ́ЎКА *ж.* хустка *(фабрычная)*. У наш магазін сягоння прывезлі капераці̇вак (Хвойнае, Хойн.).

КАПЕ́ШКА *ж., памянш. да* капа̀ I *у 1 знач.* Вазьмі сена з той капе́шкі (Марозавічы, Б.-Каш.) Карова даела і ету капе́шку (Грушаўка, Добр.).

КАПІТА́ЛКА *ж.* сцяна *(унутраная)*. Цяпер можна і капіта́лку ставіць (Халочча, Чач.); Капіта́лак шчэ не закідалі (Хракавічы, Браг.+Баравікі, Светл.; Пярэдзелка, Лоеўск.; Стаўбун, Ветк.).

КАПІТА́Н *м.* грыб. Капіта́ны цёмна-карычнявыя, шапка ўвогнутая, як у грузда, толькі той белы, а еты пасьці чорны (Ліпнякі, Лоеўск.).

КАПІ́ЦА *ж., тое, што* капа́ I *ў 1 знач.* На балоце засталася адна мая капі́ца сена (Сяўкі, Лоеўск.); Капі̇ц набралі нешчысленая сіла (Ларышчава, Добр.).

КАПІ́ЦЬ *незак. 1.* запасіць. Ды не капі́ ты етыя грошы (Неглюбка, Ветк.); 2. *тое, што* капава́ць. Капі́ць сена будзем, як трохі пацяплее (Піркі, Браг.); Сколькі ты накапі́ў коп сена? (Дземяхі, Рэч.+Пагоннае, Хойн.). *Парайн.* капава́ць, капнава́ць.

КА́ПКА *ж., тое, што* ка̀пачка. Са страхі ўпала ка́пка (Марозавічы, Б.-Каш.); Ка́пкі дажджу стукаюць по крышэ (М. Аўцюкі, Калінк.). *Парайн.* ка́пялька.

КАПНАВА́ЦЬ *незак., тое, што* капава́ць. Капну́й сена хутчэй, бо дождж пойдзе (Астрагляды, Браг.). *Парайн.* капі̇ць *у 2 знач.*

КАПНІ́ЦЯЛЬ *м.* стагакід. Капні́цяль — ета такая добрая машына (Пучын, Браг.).

КАПО́РА *ж.* ланцуг *(для прывязвання лодкі)*. Мая капо́ра ў цябе (Камаровічы, Петр.); Засталося толькі капо́ры зрабіць (Макарычы, Петр.).

КАПО́ТА *ж.* 1. від адзення. Гідка глянуць, як ты сапсавала сваю капо́ту (Буйнавічы, Маз.); Прыслаў зяць краму на капо́ту, то мо пошы́еш? (Мілашэвічы, Лельч.); 2. від вопраткі. Напрані капо́ту, ато холадна (Шылаві-

чы, Чач.+Грабава, Жытк.; Замошша, Лельч.; Кавака, Браг.).

КАПСАНУ́ЦЬ *зак.* штурхнуць. Йшлі ў школу, дурэлі, некаторы й капсанўў майго сына і зьвіхнуў нагу (Прудок, Калінк.).

КАПТУ́Р I *м.* чапец. Усе бабкі носяць каптуры́ (Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* каптуро́к, капу́р.

КАПТУ́Р II *м.* абруч (*на калодцы кола*). На дарозе ляжаў згублены капту́р (Углы, Ельск.).

КАПТУРО́К *м., памянш. да* капту́р I. Што каптуро́к, што шапачка, як хочаш называюць (Марозавічы, Б.-Каш.).

КАПУ́Л (капы́л) *м.* 1. *шавецк.* капы́л (*для пляцення лапцей*). Капу́л быў патрэбен, таму што лапці кожны дзень плялі (Піркі, Браг.); 2. калодка (*шавецкая*). Недашытыя чобаты шчэ не былі зняты з капыло́ў (Баравікі, Светл.); 3. *цясл.* цясла. Дзядзька зрабіў карыта капуло́м (Антонаў, Ельск.); 4. капыл (*у санях*). Снег такі глыбокі, што капыло́ў не відаць (Холмеч, Рэч.); Капылы́ ў суседа аддалжыў (Неглюбка, Ветк.). Тры капылы́ нада ў санях замяніць (Быч, Карм.).

КАПУЛІРО́ЎКА *ж., сад.* каліроўка. Вясной зрабілі капуліро́ўку чаранкамі (Харомцы, Акц.).

КАПУЛЬІ́ *толькі мн., рыб.* састаўная частка крыгі. Капулы́ растапараюцца, і туда набіраецца рыба (Грушаўка, Нар.).

КАПУ́Р *м., тое, што* капту́р I. А я ёй такія капуры́ сама шыла (Кавака, Браг.).

КАПУ́СНІК I *м.* 1. *зборн., бат.* лісце (*капуснае*). Дай свіням капу́сніка (Бабовічы, Гом.); Каза паела капу́снік (Неглюбка, Ветк.); Капу́снік каровам аддаём, а капусту на боршч (Холмеч, Рэч.); 2. капуста (*кіслая*). Боршч з капусты — значыцца капу́снік, са шчаўля — шчаўліны (Хізы, Ветк.); Капу́снік трэба яшчэ пасаліць (Холмеч, Рэч.); 3. пірог (*з капуснай начынкай*). Начыняеш адной цыбуляй ды капустай, вось і капу́снік (Заспа, Рэч.).

КАПУ́СНІК II *м., заал.* вусень. Капу́снік лісты капусныя порціць (Марозавічы, Б.-Каш.). *Парайн.* капу́сніца, капустажэ́рка.

КАПУ́СНІЦА *ж., тое, што* капу́снік II. Што ўжо ні робілі, а ніяк збавіцца ад етой капу́сніцы не можам (М. Аўцюкі, Калінк.). *Парайн.* капустажэ́рка.

КАПУСТАЖЭ'РКА *ж., тое, што* капу́снік II. Лісце капусты аб'ела капустажэ́рка (Ямпаль, Рэч.); У садах жывуць капустажэ́ркі (Багданавічы, Карм.). *Парайн.* капу́сніца.

КАПУ'Т *м.* капыт. Мая карова капу́т разламала, дак вецінары чуць атрэзалі яго (Ручаёўка, Лоеўск.); Капу́ты трэба ў каня падкаваць (Піркі, Браг.). *Парайн.* капы́т I.

КАПУ'ТНІК *м., бат.* падалешнік. Нарві капу́тніку. Пойдам сёння па капу́тнік (Камаровічы, Петр.). *Парайн.* капы́тнік.

КАПУ'ША *ж.* звязка *(лісцяў тытуню)*. Звязвалі тытунь у капу́шы, клалі на зіму ў сундук (Аравічы, Хойн.).

КАПЦЁРКА *ж.* памяшканне *(брыгадзіра калгаса)*. Пашлі ў капцёрку, там ужо ўсе сабраліся (Асінаўка, Чач.).

КАПЦІ'ЛКА *ж.* газоўка. Бувала, павесіш капці́лку, а сама зыбалку з дзіцем зыбаеш і чуць не спіш (Холмеч, Рэч.); Капці́лкі ў нас былі яшчэ тады, калі ламп не было (Янова, Ветк.).

КАПШУ'К *м.* 1. кісет. Што за капшу́к, якісь гразны, шо і не хочацца курыць (Грушаўка, Нар.); Адсып мне капшу́к табакі, сваю выкурыў да крошкі (Холмеч, Рэч.); А дзед са сваім капшуко́м ніколі не разлучаецца (Пераpoў, Жытк.); 2. пузыр *(мачавы)*. Гэты пузыр у нас капшуко́м завецца (Аравічы, Хойн.); 3. пузыр *(плавальны)*. У серэдзіне ў рыбу е два капшукі́, екіе потом, як чысцім, то вукідаем (Замошша, Лельч.); 4. *перан.* жывёліна *(ненаедная)*. Гэта карова як капшу́к ненасытны (Ломыш, Хойн.).

КАПЫ'Т I *м., тое, што* капу́т. У каровы паламаўся сёдні капы́т (Неглюбка, Ветк.); Капы́т у каровы на два раздзелены (Холмеч, Рэч.).

КАПЫ'Т II *м., тое, што* ка́нтар *у 1 знач.* Капы́т усю праўду раскажа (Норкаўшчына, Карм.); Недзе дзеўся мой капы́т (Гармавічы, Жлоб.); Не было капыта́, каб узважыць (Забалацце, Раг.).

КАПЫ'ТА *м.* грузд. Дзед усё на капы́тах (Карынёўка, Гом.).

КАПЫ'ТНІК *м., тое, што* капу́тнік. Хадзіла к лесу, нарвала свінням капы́тніка (Марозавічы, Б.-Каш.); На корм свінням людзі рвуць белакрыльнік або капы́тнік (Багданавічы, Карм.).

КА'ПЯЛЬКА *ж., тое, што* кáпачка. Дайце мне хоць кáпяльку вады напіцца (Завайць, Нар.). *Параўн.* кáпка.

КАРАБА'ТАЯ *прым.* цяжарная *(пра кошку)*. Карабáтую кошку не нада біць, бо родзіць бяз урэмя (Ляд-цы, Светл.).

КАРАБО'К *м.* посуд *(для мёду і зняцця пчалінага рою)*. Бацька прынёс поўны карабóк мёду (Антонаў, Ельск.); Мёд з вулья зразу ложаць у карабóк. Рой аграбаюць у карабóк (Заходы, Лельч.). *Параўн.* карóбка І *у 5 знач.*

КАРАВАЙ'НАЧКА *ж.* жанчына *(што пячэ караваі)*. У нас на вёсцы была добрая каравáйначка (Бярэзнікі, Жытк.).

КАРАВА'ЙНІЦА *ж.* дружка *(нявесты)*. Яна была каравáйніцай у сяброўкі (Багданавічы, Карм.).

КАРАВА'ННЕ *н.* акорванне. Дрэвы вывозілі без каравáння (Чырвоная Буда, Добр.); Сёння займіся лепш каравáннем (Рудня, Жытк.+Баравікі, Светл.; Забалацце, Раг.; Хізы, Ветк.). *Параўн.* карэ́нне ІІ.

КАРАВА'ЦЬ І *ж.* ложак. Калі ні прыдзеш, у яе каравáці не засланы (Чырвоная Диброва, Рэч.).

КАРАВА'ЦЬ ІІ *незак.* акорваць. Ён каравáў ствол ад кары (Баравікі, Светл.).

КАРА'ВАЧНІК (карáвашнік) *м.* анучнік. Карáвачнік паехаў, трапкі збірае (Неглюбка, Ветк.); Быў у мяне знаёмы карáвачнік (Асінаўка, Светл.); Карáвашнік прыйдзе і пяе: «Дзеўкі-красаўкі нясіце караўкі» (Холмеч, Рэч.); Красіваю ўвертку купіла ў карáвашніка (Шылавічы, Б.-Каш.). *Параўн.* карáўнік.

КАРАГО'ДНІК *м.* удзельнік карагоду. Ну й вясёлы карагóднік быў у нас (Піркі, Браг.+Хізы, Ветк.).

КАРАГО'ЛЬЧЫК *м.* сакаляня. Зачым карагóльчыка забіў, ён толькі мух і ловіць (Каранёўка, Гом.).

КАРА'ДЛІВЫ *прым.* капрызны. Такое карáдлівае дзіця (Капань, Рэч.).

КАРАЕ'Д *м., перан.* чалавек (надакучлівы). От уеўся дак уеўся караéд еты (Аравічы, Хойн.).

КАРА'ЖЫНА *ж.* дрэва *(кражавае)*. Эта карáжына яна негадзяшчая (Стаўбун, Ветк.).

КАРА'К *м.*ануча *(каравая)*. Карáк на плоце вісіць (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* карáўка *ў 1 знач.*

КАРА'НЕЎКА *ж.* лыжка *(з кораня дрэва)*. Карáнеўкай разліваюць боршч (Капань, Рэч.).

КАРАНЕ́Ц *м.* корань. А гуркі пажоўклі мае, якіясь чэрві каранцы́ паелі (Піркі, Браг.).

КАРАНЁ́ЎКА *ж., тое, што* кага́нка. Налі ў каранёўку баршчу (Барталамееўка, Ветк.). *Параўн.* каўга́н, каўга́нка *ў 1 знач.,* ко́га́н.

КАРАННЫ́ *прым.* конь-караннік. Во здаровы караннь́ конь еты! (Хізы, Ветк.).

КАРАНТЫ́Ш *м.* дзіця *(невялікае).* У нас ё багата карантышо́ў (Хізы, Ветк.).

КАРАПУ́З *м.* дзіця *(тоўстае, невялікае).* Гэты карапу́з ніяк не расце (Дубраўка, Добр.); Нада ты мне, такі карапу́з (Салтанаўка, Б.-Каш.).

КАРАСІ́ННІЦА *ж.* каністра. Карасі́нніцы часта абплятали лазой, каб не біліся (Любань, Б.-Каш.).

КАРА́СЛІ́ВЫ *прым.* 1. кароcлівы *(пра чалавека, жывёлу).* Вельмі караслі́вы быў сусед (Гармавічы, Жлоб.); Караслі́вы конь воза не цягне (Запясочча, Жытк.); Карасьлі́вага каня серкаю абкурвалі (Зарэчча, Жлоб.); Раней карасьлі́вых каней лячылі чамярыцай, а ціпер серкаю (Чарняцік, Б.-Каш.); 2. шурпаты *(пра бульбу).* Не глядзі, што бульба кара́слівая, зато смашная (Піркі, Браг.); В етам гаду пашці ўся кара́слівая картопля (Калінін, Хойн.); Кара́сліваю картопляю будам карміць пака цяпер свінней (Астрагляды, Браг.+М. Аўцюкі, Калінк.; Хальч, Гом.). *Параўн.* каро́слівы.

КАРАСТО́ЎНІК *м.* кветка *(сіняя лясная).* Карастоўнік мае рэзнае лісце (Марозавічы, Б.-Каш.).

КАРА́СЬ I *м.* рыба. Кара́сь наша лесная рыба, жыве ў азёрах (Хізы, Ветк.).

КАРА́СЬ II *м.* падосак. Карасі́ нідаўно сталі на вось класці (Чабатовічы, Б.-Каш.).

КАРАТА́ЙКА *ж.* армяк. І карата́йку надзявалі, калі не было чаго зімой надзець (Насовічы, Добр.). *Параўн.* каро́тчык.

КАРА́ЎКА *ж.* 1. *тое, што* кара́к. Вазьмі кара́ўку да сатры са стала (Запясочнае, Маз.); Гэтыя кара́ўкі трэба перамыць і высушыць (Багуцічы, Ельск.); Кара́вак назьбірала да занесла ў краму (Задуб'е, Раг.+Быч. Карм.; Харомцы, Акц.; Хвойнае, Хойн.); 2. *перан., зневаж.* ганарлівец. От кара́ўка, як прыехала з горада, нос задрала (Забалацце, Раг.).

КАРА́ЎНІК *м., тое, што* кара́вачнік (кара́вашнік). Пашлі хутчэй, кара́ўнікі прыехалі (Піркі, Браг.).

КАРАХА́НЬ *ж.* пацеха, відовішча. Даўно не бачыў такой карахáні (Валасовічы, Акц.).

КАРАХВА́ШКА *ж.* павозка *(выязная)*. Глядзіце, вунь Міхаська на карахвáшцы паехаў (Кароткавічы, Жлоб.).

КА́РБА *ж.* палка *(вымяральная)*. Ён атмеціў, колькі засталося ў бочцы хлеба да вясны, і паставіў у вугал кáрбу (Харомцы, Акц.).

КАРДАПЛЯ́НКА *ж.* дрэва *(слівовае)*. Сёлета наша кардаплянка ўрадзіла добра (Славань, Светл.).

КАРДЗІБАЛЕ́Т *м.* скандал. Што ты ўчора за кардзібалéт устроіў дома, што крык падняўся на вуліцы? (Крыўка, Раг.).

КАРДО́Н *м.* старожка. У кардóне было вельмі накурана (Баравікі, Светл.).

КАРДО́ПЛЯ *зборн.* бульба. Пашла на кардóплю на план жукоў абіраць (Холмеч, Рэч.); У людзей ужэ кардóплі паўсходзілі, а мы шчэ ня садзілі (Казярогі, Лоеўск.); Нарасло сёлета кардóпель, ледзь пакапаць управімся (Сялец, Акц.); *Параўн.* картóплі, картòпель *у 1 знач.,* картóпля.

КАРЖА́НКА *ж., заал.* сявец. Каржáнкі лётаюць у полі (Насовічы, Добр.).

КАРЖАНЯ́ЧЫ *прым. да* кажан. Каржанячыя крылля вельмі вялікія (Навінкі, Калінк.).

КАРЖЭ́ЦЬ *незак.* карэць. Вязёнкі мае каржэюць (Быч., Карм.).

КАРЗІ́НАЧКА *ж.* лапка пчалы *(задняя)*. Паймаў пчалу і разглядваў у яе карзіначкі (Пабеда, Ветк.). *Параўн.* кòшычак.

КАРНАВУ́ХІ *прым.* са скалечанымі вушамі. Карнавýхія сабакі дужа злыя (Грушаўка, Добр.).

КАРНА́ЧЫК *м.* ножык *(зламаны)*. У мяне такі лоўкі каркáчык, што я за пяць мінут чугунок бульбы ім аблуплю (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.). *Параўн.* кірпéлік.

КАРНЯВІ́К *м.* зуб *(карэнны)*. Карнявíк вельмі баліць (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* кýтнік I.

КАРО́БАЧКА *ж.* танец. Карóбачка тожа гарны танец (Піркі, Браг.). Танцавалі мы і карóбачку (Марозавічы, Б.-Каш.).

КАРО́БКА I *ж.* 1. кашэль. Ідзі вазьмі карóбку і прынясі травы (Сівенка, Ветк.); Поўнаю карóбку грыбоў прынясла (Целяшы, Гом.); Лес тут недалёка, возьмем

каробкі ды й пойдзем у ягады (Баравікі, Светл.); 2. лубянка. Адной каробкі не хопіць для гэтага загона (Багданавічы, Карм.); Калісь каробку чэраз плячо і пайшоў на цэлы дзень (Калінін, Хойн.); Тады сеялі ўручную, з каробак (Бывалькі, Рэч.); 3. кузаў *(экіпажа)*. Бяры на воз каробку (Пучын, Браг.); 4. каробка *(запалак)*. Цэлую каробку спічак выпаліў (Бабовічы, Гом.); На здачу ўзела пяць каробак спічак (Холмеч, Рэч.); 5. *тое, што* карабок. Не забудзь рой агрэбці ў каробку (Н. Дуброва, Акц.); 6. прылада *(рыбалоўная)*. Му каробкі толькі зімою ставілі на ўюны, а летом іх не займаем (Замошша, Лельч.).

КАРО'БКА II *ж.* 1. карніз *(пад страхой)*. Унізу закоты дзелалі каробку (Р.-Шлягіна, Ветк.); У нас ужо сёння ў хаце каробку прыбілі (Хвойнае, Хойн.); 2. шуфляда *(аконная, дзвярная)*. Ету каробку трэба трошкі падчасаць (Дзям'янкі, Добр.); Палатно дзвярэй крэпіцца ў каробцы (Р.-Шлягіна, Ветк.); 3. фундамент *(печы)*. Каробку печы дзелалі з дзерава на дубовых штандарах, каб печ не асядала (Любань, Б.-Каш.).

КАРО'ВАЛАТ *м.* вароты, створка *(з жэрдак)*. А ў мяне вон на гародзі ў канцы каровалат, каб на конях заяжаць (Цярэнічы, Гом.); Бугай каровалаты паламаў (Апанасаўка, Гом.).

КАРО'ВАШНІК *м.* кароўнік. Закрый каровашнік на чапок угары (К. Балсуны, Ветк.).

КАРО'ВЫ *толькі мн.* чарга *(пасвіць кароў)*. У суботу нам каровы (Грычынавічы, Жытк.).

КАРО'МЫСЛА I *н.* каромысел. Рукі баляць, ведама старыя, дык заказала каромысла (Ст. Рудня, Жлоб.).

КАРО'МЫСЛА II *н.* колца *(у кроснах)*. Надзявай на палку каромыслы ў кроснах (Каравацічы, Рэч.).

КАРО'НКІ I *толькі мн , тое, што* канóркі. Каронкі мо каб каля грудзей прышыў (Грабава, Гом.). *Параўн.* канўркі, карўнка, кацўрка, крўжавы.

КАРО'НКІ II *толькі мн.* кастрыца. Апрацаваў лён, а яшчэ каронкі застаюцца (М. Аўцюкі, Калінк.).

КАРОС'ЛІВЫ *прым., тое, што* караслівы *ў 2 знач.* Урадзілася ж сёлета карослівая бульба (Навасёлкі, Петр.); Бульба наша козлаватая, карослівая (Быч, Карм.); Карослівую бульбу трэба лупіць багата (Марозавічы, Б.-Каш.+Баравікі, Светл.; Літвінавічы, Чач.; Стаўбун, Ветк.).

КАРО'СТАЎКА *ж.* клоп. А як мы ў акопах сідзелі, так напалі на нас гэтыя каро́стаўкі. (Піркі, Браг.).

КАРО'ТЧЫК *м., тое, што* каратайка. Трэба пашыць каро́тчык (Бабовічы, Гом.).

КАРО'ЎКА *ж., бат.* ваўнянка. Каро́вак нарасло — свет (Мілашэвічы, Лельч.).

КАРО'ЎСКІ *прым.* каровін. Каро́ўскім гноем добра ўгнойваць глебу (Літвінавічы, Чач.+Майскае, Жлоб.).

КАРПА'ЦЬ I *незак.* 1. кешкацца. Хіба сабе? Людзям карпа́ю, трохі вочы бачаць (Прудок, Калінк.); 2. калупаць *(у сцяне)*. Чаго ты там карпа́еш у сцяне? (Бабчын, Хойн.); 3. калупаць *(у носе)*. Карпа́ў, карпа́ў у нос, пакуль кроў не пайшла (Пясчанікі, Жытк.).

КАРПА'ЦЬ II *незак.* капаць *(недабраякасна)*. Капалка тая карпа́е (Холмеч, Рэч.).

КАРПЕ'ЦЬ *незак.* займацца *(карпатліва, старанна)*. Усю ноч карпе́ў над задачай (Углы, Ельск.).

КАРСЕ'ТКА (карсэ́тка) *ж., тое, што* каба́т. Надзень цёплую карсе́тку (Чырвоная Буда, Добр.); У бальшы празнік старухі надзявалі карсэ́тку (Заходы, Рэч.+Ст. Буда, Б.-Каш.).

КАРТАПЛІ'НА *ж.* бульбіна. Многа картаплі́н засталося ў зямлі (Астрагляды, Браг.); Пад гэтым калівам было дзесяць картаплі́н (Астрагляды, Браг.). *Парайн.* карто́пель *у 2 знач.*

КАРТАПЛІ'ННЕ *н., тое, што* калі́вашнік. Картаплі́ннем накрылі копца (Верасніца, Жытк.). *Парайн.* ка́ліўе, калі́ўнік, калі́ўяшнік, картапля́нік, картапля́шнік, картахля́нік.

КАРТАПЛЯ'НІК *зборн., тое, што* калі́вашнік. Пайду картапля́нік сажну (Харомцы, Акц.). *Парайн.* ка́ліўе, калі́ўнік, калі́ўяшнік, картаплі́нне, картапля́шнік, картахля́нік.

КАРТАПЛЯ'ШНІК *м., тое, што* калі́вашнік. Трэба сцягнуць картапля́шнік (Калінін, Хойн.); Пасуграбай картапля́шнік на гародзі (Пучын, Браг.). *Парайн.* калі́ўе, калі́ўнік, калі̀ўяшнік, картаплі̀нне, картапля́нік, картахля́нік.

КАРТАФЛЯ'НЫ *прым.* бульбяны. Картафля́ные каўбасы з бальшых кішак дзелаюць. Харашэ, смашные (Холмеч, Рэч.).

КАРТАХЛЯ'НІК *м., тое, што* калі́вашнік. Не мешало б ужэ й картахля́нік скасіць (Ліхаўня, Нар.). *Парайн.*

ка́ліўе, каліўнік, каліўяшнік, картаплі́нне, картапля́нік, картапля́шнік.

ҚА'РТАЧКА *ж.* фотаздымак. Пакажы мне яго ка́ртачку (Барталамееўка, Ветк.); Сама тыя ка́ртачкі пахавала, а як урэмя свабодная ё, дак выцягну дай гляджу (Целяшы, Гом.+Валахоўшчына, Браг.; М. Аўцюкі, Калінк.).

ҚАРТО'ПЕЛЬ I. *тое, што* кардо́пля. Што будам з карто́пелям дзелаць, бацька? (Перадавая, Раг.); 2. *тое, што* картаплі́на. Дала карто́пля дзіцяці ў руку (Верасніца, Жытк.). *Парайн.* карто́пля.

ҚАРТО'ПЛЯ *зборн., тое, што* кардо́пля. Пайшоў дождзь, добрая карто́пля будзе (Запясочча, Жытк.); Хібіць сёлята наша карто́пля (Ҡіцін, Жлоб.). *Парайн.* карто́пель.

ҚАРУ'ЗЛЫ *прым.* закарэлы, кволы, хілы. Занадта кару́злы Мар'ін сын (Асінаўка, Светл.).

ҚАРУ'НҚА *ж., тое, што* кано́ркі. Гэтую кару́нку дзе́лала сама (Грушаўка, Нар.); Кару́нку звезала зубчыкамі. Кару́нку з зубчыкамі звезала, як фабрычную (Нісімкавічы, Чач.). *Парайн.* кану́ркі, каро́нкі I, кацу́рка, кру́жавы.

ҚАРЦЕ'ЦЬ *незак.* хацецца. Мне так карці́ць паглядзець сваіх родных (Хвойнае, Хойн.); Табе так і карці́ць шкоду здзелаць (Піркі, Браг.); Яму карці́ць зачапіць каго-небудзь. Вот шустры хлапец (Хізы, Ветк.).

ҚАРЧАВА'ЛЬШЧЫҚ *м.* чалавек *(які займаецца карчаваннем)*. Мой бацька доўгі час карчава́льшчыкам быў (Багданавічы, Карм.). *Парайн.* карчако́п, карчо́ўнік.

ҚАРЧАКО'П *м., тое, што* карчава́льшчык. Раней у вёсцы карчако́паў было многа (Ручаёўка, Лоеўск.). *Парайн.* карчо́ўнік.

ҚАРЧО'ЎНІҚ *м., тое, што* карчава́льшчык. Карчаваць трэба було, дык і карчо́ўнікі булі (Кароткавічы, Жлоб.). *Парайн.* карчако́п.

ҚАРЧЫ'ГА *аг.* чалавек *(паралізаваны)*. Што б ты здзелалась карчы́гай дай качалась (Грушаўка, Добр.).

ҚАРША'ЧЫ *прым.* праказлівы *(пра ката)*. Вунь на поліку ўклаўся карша́чы кот (Грушаўка, Добр.).

ҚАРШЭ'НЬ *м.* карак. Ідзі адсюль, а то ў каршэ́нь надаю (Хальч, Рэч.); Як дам у каршэ́нь, аж рассыпішся (Марозавічы, Б.-Каш.); Глянуў у каршэ́нь (Залессе, Чач.+Багданавічы, Карм.; Неглюбка, Ветк.).

КА'РЫ I *прым.* цёмна-карычневы. Мне наравяцца ка́рыя вочы (Халочча, Чач.).

КА'РЫ II *толькі мн.* від саней. Прывёз адны ка́ры дроў (Бабовічы, Гом.); Ка́ры ўжо ўсе к зіме адрамантавалі (М. Аўцюкі, Калінк.); Еслі зімой, дык на ка́рах лес вазілі, а летам — на роспусках (Хізы, Ветк.+Баравікі, Светл.; Глушкавічы, Маз.).

КАРЭ'ЗА *ж., заал.* сойка. Карэ́за ў лесе жыве (Літвінавічы, Карм.).

КАРЭ'ННЕ I *зборн.* карэнні. Карэ́нне ў етой вішні так разраслося, што не можна жэлезняк ваткнуць (Забалацце, Раг.).

КАРЭ'ННЕ II *тое, што* карава́нне. Бывае, што цэлыя дні мы, працуючы ў лесе, аддавалі карэ́нню зваленых дрэў (Кароткавічы, Жлоб.).

КА'РЭЎКА *ж., бат.* крываўнік. Хадзіў па лесе, нарваў карэ́ўкі, чыстацелу (Аравічы, Хойн.).

КАСА' I *ж., с./г.* прылада *(для касьбы)*. Як каса́ добрая, дак лёгка касіць (Стаўбун, Ветк.); Касу́ ў рукі і пайшла касіць (Літвінавічы, Чач.); Трэба даставаць касу́, а то ўжэ касіць трэба (Калінін, Хойн.); Як пойдуць касцы махаць, толькі ко́сы звіняць (Марозавічы, Б.-Каш.+Багданавічы, Карм.; Баравікі, Светл.; Дземяхі, Рэч.; Насовічы, Добр.; Пучын, Браг.).

КАСА' II *ж.* від жаночай прычоскі. Я зачэсвала на рад і заплятала касу́ (Забалацце, Раг.); У восем сталак заплящець адну касу́, дак яна як пранік тады ляжыць, у каго ко́сы харошыя (Баравікі, Светл.).

КАСА' III *ж., геагр.* водмель. Каса́ ў бераг урэзалася (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* кася́к III.

КАСА' IV *ж., анат.* селязёнка. Баліць у мяне каса́ (Марозавічы, Б.-Каш.); З касы́ кабана чыняць каўбасы (Дроніца, Б.-Каш.); Касу́ хто і выкідае, а хто і варэ, тады начыняе каўбух (Марозавічы, Б.-Каш.+Кароткавічы, Жлоб.; Піркі, Браг.; Халочча, Чач.).

КАСА' V *ж.* касяк *(рыбы)*. Рыба ідзець касо́й (Стаўбун, Ветк.). *Параўн.* кася́к II.

КАСА' VI *ж., бат.* вусікі. Во каса́ якая бальшая ў гарбузах (Забалацце, Раг.); Ко́сы распаўзліся па ўсейградзе (Стаўбун, Ветк.); Папускаў гуркоўнік ко́сы, дык што толку, на іх адзін толькі пустацвет (Халочча, Чач.).

КАСАГО'РАК *м.* узгорак. Зямля там усё касаго́ркамі (Быч, Карм.).

КАСАПЛЁТКА *ж.* каснік. Ты лепш у школу чырвоныя касаплёткі ўпляці (Навінкі, Маз.). *Парайн.* каснічо́к.

КАСАСЛО'ІНА *ж.* драўніна *(касаслойная)*. Сюды касасло́іна не пойдзе (Халочча, Чач.+Хракавічы, Браг.; Чырвоная Буда, Добр.).

КАСА'ТНІК *м., бат.* касач. Каса́тнік расце ў вадзе (Баравікі, Светл.). *Парайн.* каса́ч I.

КАСА'Ч I *м., бат., тое, што* каса́тнік. Вон сіні еты каса́ч і расце на лузі (Падворак, Лельч.); У палусадніку касачы́ пасадзіла, ходзь ба прыняліся (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.).

КАСА'Ч II *м., заал.* цецярук. Увечары на рэчцы што крычалі касачы́. Касачо́ў у нас мала, больш вутак (Халочча, Чач.).

КАСІ'НЕЦ *м.* навугольнік. Мой сын заўсёды ложыць кніжкі на касі́нец (Быч, Карм.).

КАСІ'ЦЫ *толькі мн., ткацк.* узор *(на палатне)*. Я думаю свае рушнікі ў касі́цы вуткаць (Тонеж, Лельч.).

КАСМА'Ч *м.* чалавек *(лахматы)*. Чаму ты не пастрыжэш галавы? На касмача́ пахож (Крыўск, Раг.); Пастрыжыся, бо сапраўдным касмачо́м стаў (Н. Гута, Гом.).

КАСМАЧЫ' *толькі мн.* валасы *(кудлатыя)*. Чаго ты заўсёды ходзіш касматая, ніколі не расчэшаш сваі касмачы́ (Антонаў, Ельск.).

КАСМУ'ЛЯ *аг.* асоба *(лахматая)*. Я табе пакажу, касму́ля (Баравікі, Светл.).

КАСНІЧО'К *м., тое, што* касаплётка. Запляці каснічо́к красны ці розавы (Быч, Карм.).

КАСТЫЛЬНУ'ЦЬ *зак.* ударыць. Кастыльну́ў я цібе добра, чаго ты шчэ лезіш (Перадавая, Раг.).

КА'СЦЕР *м., тое, што* ка́йстра. Пайду наберу ка́сцеру з току (Бабовічы, Гом.).

КАСЦЕРУХА' *ж.* пустазелле. Як ні палі агарод, усё роўна касцерухі багата (Юравічы, Калінк.).

КАСЦЮКІ *толькі мн.* адыходы *(пасля прасейвання мукі)*. Як добра змелеш, дык касцюко́ў саўсім мала (Кароткавічы, Жлоб.). *Парайн.* касцю́лькі.

КАСЦЮ'ЛЬКІ *толькі мн., тое, што* касцюкі́. Ой, касцю́ляк у муке многа (Бабовічы, Гом.).

КАСЯ'К I *м.* вушак. Ні з таго дрэва здзелалі кася́к — згніе быстра (Мормаль, Жлоб.); Пакрасілі касякі́ (Майскае, Жлоб.).

КАСЯ'К II *м., тое, што* каса́ V. Кася́к рыбы захвачан

у сетку (Ломыш, Хойн.); Касякамі ў нас рыбы не ходзяць (Піркі, Браг.).

КАСЯ'К III *м., тое, што* каса III. На нашай рэчцы адны толькі касякі пясчаныя ды травой паросшыя (Янова, Ветк.).

КАСЯ'НКА *ж.* свацця. А пасля з касянкай і княжамі па маладу едуць (Піркі, Браг.).

КАСЯЧО'К *м.* касынка. Напяні касячок, а то сонца ў галаву напячэ (Чырвоная Буда, Добр.).

КАТАВІ'НА *ж., тое, што* кадаўба II *у 2 знач.* Не ўпадзі ў катавіну (Палессе, Чач.). *Параўн.* каўцёба.

КА'ТА'НКІ *толькі мн.* валёнкі. Катанкі для старых неяк няёмка, цвёрда хадзіць (Кароткавічы, Жлоб.); Прывезлі мне пару катанак, добрыя, ладныя (М. Аўцюкі, Калінк.); У катанках холадна, у самавалках цяплей (Залессе, Чач.+Барталамееўка, Ветк.; Быч, Карм.). *Параўн.* качанкі.

КАТАНУ'ЦЬ *зак.* пабегчы. А мы як выскачылі да як катанулі. (Быч, Карм.).

КА'ТКІ *толькі мн.* гадзіннік *(насценны)*. Вунь на сцяне часы, то ж каткі будуць (Піркі, Браг.).

КАТО'ВІК *м., бат.* кацянятка. Катовіка багата на зялёнам востраві (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.).

КАТО'К *м.* 1. кола. Што ж ета за калёсы без каткоў? (Хізы, Ветк.); 2. колца *(у кроснах)*. Ужо знасіліся каткі ў кроснах (Марозавічы, Б.-Каш.). *Параўн.* кацелка (кацёлка) *у 2 знач.*, кацюшка, качолка *ў 3 знач.*

КАТУ'ЗІК *м.* завязка. На гэтай кофце няма катузікаў. Была вышываная кофта з катузікамі (Забалацце, Раг).

КАТУ'ЗКА *ж.* камера *(турэмная)*. Пасадзілі майго суседа ў катузку (Углы, Нар.).

КАТУ'Х *м.* пакой *(невялікі)*. Не хаты, а катухі якіясь (Мікулічы, Браг.).

КАЎБАСА' *ж.* 1. *кулін.* каўбаса. Каўбасы ўсе ў нас любяць: і старыя і малыя (М. Аўцюкі, Калінк.); 2. *перан.* чалавек *(таўстагубы)*. Каўбаса сягоння гоўе гоніць у поле (Грабава, Жытк.).

КАЎБУ'Х *м.* 1. страўнік. Свіння забалела, мы яе забілі, так у яе каўбух быў разарваты (Неглюбка, Ветк.); 2. страўнік *(з начынкай)*. Калі забівалі кабана, чынілі каўбух (Любань, Б.-Каш.); Каўбух наварэ і жруць. А я не магу есці (Хізы, Ветк.); 3. *іран.* жывот. Разрасціў сабе каўбух, што чуць па зямлі ходзя. Спасіба, цётачка, поўны

каўбу́х напетаў (Палессе, Чач.); Набіў свой каўбу́х бульбай (Хвойнае, Хойн.). *Парал.* каўдзю́п, ке́ндзюх, кѐўбух.

КАЎГА'Н *м., тое, што* кага́нка. Каўга́н мой ссохся (Бабовічы, Гом.); Эт, дзе цепер нойдзеш таго каўгана́ (Галоўчыцы, Нар.). *Парал.* каранёўка, каўга́нка *у 1 знач.,* ко́ган.

КАЎГА'НКА *ж.* 1. *тое, што* кага́нка. Даўней у нас елі із каўга́нкі (Іванаўка, Хойн.); 2. сальніца. Набяры солі ў каўга́нку (Багушчычы, Ельск). *Парал.* каранёўка, каўга́н, ко́ган.

КАЎДЗЮ'П *м., тое, што* каўбу́х *у 1 знач.* Наела карова бальшы каўдзю́п, каб не трэснуў ён (Іскра, Чач.). *Парал.* ке́ндзюх.

КАЎДО'Б *м., тое, што* ка́да́ўб. І зараз у нас каўдо́б стаіць (Грычынавічы, Жытк.). *Парал.* ка́да́ўба I, кадо́ўб, кадо́ўба, ка́йдоб.

КАЎЗА'ЦЦА *незак.* катацца. Сколькі ты каўза́цца ўжо будзеш (Багданавічы, Карм.); Пойдзем на каток каўза́цца (Бабовічы, Гом.).

КАЎЗЁЛКА *ж.* каток. На каўзёлцы ўсе штаны парваў (Апанасаўка, Гом.).

КАЎЗУ'ЛЛЯ *ж., тое, што* калачы́нка. На раданіцу ж як напякуць каўзу́лляў ды паядуць усё, дык на яйцы з год не глядзелі (Касцюкоўка, Гом.). *Парал.* колоту́ша.

КА'ЎКАННЕ *н.* мяўканне. Пусціце коціка, а то ўжо галава баліць ад яго ка́ўкання (Хальч, Гом.).

КА'ЎКАЦЬ *незак.* мяўкаць. Чаго ты ўсё ка́ўкаеш да ка́ўкаеш? Ці есці хочаш? (Ручаёўка, Лоеўск.); Ідзі кошцы аччыні, чаго ена там за дзверамі ка́ўкая? (Караваўічы, Рэч.); Так ету ноч каты ка́ўкалі, спаць не давалі (Баравікі, Светл.+Багданавічы, Карм.; Зарэчча, Жлоб.; Засінцы, Ельск.; Хізы, Ветк.); У марцы кошкі ка́ўкаюць, ні даюць спаць (Забалацце, Раг.).

КАЎМА' *ж., тое, што* камакі́. Вельмі смашна каўма́ з малаком халодным або кіслым (Замошша, Лельч.); Я зрабіла каўмы́ на вячэру (Пераpoў, Жытк.). *Парал.* кама́м, камы́, камя́чынкі, каўмакі́, ко́мікі, ко́мка.

КАЎМАКІ' *толькі мн., тое, што* камакі́. Мой пакойны Мікодым не еў картохлю. Ему каўмакі́ давай (Заходы, Лельч.). *Парал.* кама́м, камы́, камя́чынкі, каўма́, ко́мікі, ко́мка.

КАЎНЕ'Р *м.* 1. каўнер *(вакол шыі)*. У гэтай сарочцы каўне́р грязны, дай другую (Барталамееўка, Ветк.); Дзе

ты каўнѐр з лісы дастала? (Грабава, Жытк.); 2. манжэта. Каўнéр прышываецца ў рукаў курты (Хізы, Ветк.); 3. пояс *(у штанах).* Каўнѐр каб таўсцейшы быў у штанах, палатно патшываюць (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.). *Параўн.* каўнéрык, каўнярэ́ц.

КАЎНЕ'РЫК *м., памянш. да* каўнѐр *у 2 знач.* У маёй кашулі і каўнéрык харошанькі (Турок, Петр.). *Параўн.* каўнярэ́ц.

КАЎНЯРЭ'Ц *м., тое, што* каўнéр *у 2 знач.* Сначала было без каўнярца́, дык патом прышыла (Багданавічы, Карм.); Пугаўку прышываюць на каўнярэ́ц, а хто так, бяз пугаўкі (Хізы, Ветк.); Пасцірай кохту, глядзі, якія каўнярцы́ гразныя (Чырвоная Буда, Добр.); Няма на кофце каўнярцо́ў (Забалацце, Раг.); Сарочка е ў мяне с каўнярца́мі (Быч, Карм.).

КАЎРЫ'ЖКА *ж.* валік *(драўляны для пракатвання бялізны).* Я аднойчы пашла к суседкі за каўры́жкай, дык бульба згарэла (Баравікі, Светл.). *Параўн.* кача́лка *ў 1 знач.,* качо̀лка *ў 1 знач.,* качо́ўка.

КАЎТАНУ'ЦЬ *зак.* глынуць. Занядужаў хлопец чагось. Сёння нічога не еў, толькі два разы каўтану́ў малака (Заспа, Рэч.).

КАЎТА'ЦЬ *незак.* глытаць. Картоплю каўта́ю цэлую, бо дзясна баляць (Рудня, Жытк.); Каўта́й скарэй, чаго ты дзержыш у роце (Баравікі, Светл.+Гарадзец, Раг.; Дубраўка, Добр.; Караваці́чы, Рэч.; Ломыш, Хойн.; Піркі, Браг.; Углы, Нар.).

КАЎТУНАВА'ТЫ *прым. да* каўту́н. Перахварэў і каўтунава́ты стаў (Гармавічы, Жлоб.); У нас цяпер каўтунава́тых нема (Піркі, Браг.+Бабовічы, Гом.; Бабунічы, Петр.; Баравікі, Светл.; Забалацце, Раг.; М. Аўцюкі, Калінк.).

КАЎЦЁБА *ж., тое, што* ка́даўба II *у 2 знач.* Каўцёба была такая здаровая, што не можна было перапрыгнуць (Белы Пераезд, Петр.+М. Аўцюкі, Калінк.). *Параўн.* катаві́на.

КАФЕ'ЙКА *ж.* фуфайка. У нашу лаўку прывезлі столькі кафе́йкаў (Хвойнае, Хойн.).

КАХА'НАК *м.* каханы. Ці аднаго каха́нка мела твая дзеўка (Буйнавічы, Маз.); Каха́нкаў у Хадоры было многа, а любі́мы — адзін (М. Аўцюкі, Калінк.).

КАХАНА'ЧКА *ж.* танец. Каха́начку так красіва танцавалі (Баравікі, Светл.).

ҚАХА′НҚА *ж.* каханая. Пабёг ужэ да сваёй кахáнкі (Гарадзец, Раг.+Буйнавічы, Маз.; Халочча, Чач.).

ҚАХА′ЦЬ *незак.* даглядаць. А як сталі кахáць кáбана, дык ён і вырас быстра (Быч, Карм.).

ҚАЦА′ *ж.* коўдра *(саматканая)*. Добрую кацý выткала суседка (Неглюбка, Ветк.).

ҚАЦАВЕ′ЙҚА *ж.* камізэлька. Паклала кацавéйку ў камору, дык яе мышы за лета і пагрызлі (Рудня, Чач.).

ҚАЦАЛА′ПЫ *прым.* касалапы. Зусім кацалáпы хлопчык (Н. Гута, Гом.); Аксіння Яўхімава была кацалáпая, а жылі добра (Крыўск, Раг.). *Параўн.* кашалáпы.

ҚАЦЕ′ЛАЧНІҚ *м.* сцябло *(сланечніка)*. Қацéлачнік хістаецца ад ветру (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* круг III, кружòк III, кружóлка (кружэлка).

ҚАЦЕ′ЛҚА (кацёлка) *ж.* 1. *тое, што* калесò. Такая кацéлка былышая, як скывырыда (Літвінавічы, Чач.); То кацёлку якую дзеці хочуць, то яшчэ што (Быч, Карм.); 2. *тое, што* катòк. Қацéлкі ў кроснах штось не рухаюцца (Нісімкавічы, Чач.); Вяровачкі ад нітоў перакідаюцца цераз кацёлкі (Хізы, Ветк.+В.-Стралкі, Раг.; Вялікае Поле, Петр.; Старажоўцы, Жытк.). *Параўн.* кацю́шка, качòлка *ў 3 знач.*

ҚАЦІНА′РНЫ *м.* нарыхтоўшчык *(прадуктаў)*. А кацінáрны гадаваў нас, прадукты дастаўляў (Кароткавічы, Жлоб.).

ҚАЦІ′ХА *ж.* кошка. Қалі суседская кацíха акацілася, дык узялі сабе гэтае кацяня (Баравікі, Светл.).

ҚАЦУ′БА *ж., тое, што* кавеня́. Іван, дзе ты паставіў кацýбу (Гноеў, Хойн.). *Параўн.* кавяня́, каменя́, камяня́, кулю́ка.

ҚАЦУ′Қ *м.* гунька. Паедзеш, да як накусаюць авады і мухі, дак кацукáмі накрывалі каня (Кірава, Нар.).

ҚАЦУ′РҚА *ж., тое, што* канòркі. Нада кацýрку пасціраць, пака час ё (Халочча, Чач.). *Параўн.* канýркі, карóнкі I, карýнка, крýжавы.

ҚАЦЮ′ШҚА *ж., тое, што* катòк. Қацю́шка паламалась, і не датчэш (Галоўчыцы, Нар.). *Параўн.* кацéлка (кацёлка) *у 2 знач.*, качòлка *ў 3 знач.*

ҚАЦЯЛҚО′М *прысл., перан.* коцьма. Қацілі кацялкòм на машыну (Быч, Карм.). *Параўн.* кóтам.

ҚАЦЯНЕ′НАҚ *м., памянш. да* кот. Қацянёнак упаў с печы, чуць ні забіўся (Патапаўка, Б.-Қаш.). *Параўн.* кацяня́тка.

КАЦЯНЯ'ТКА *н., тое, што* кацянёнак. На сваіх кацянятак кошка і не гледзіць (Лядцы, Светл.).

КАЦЯРЕ'ЖКА *ж., заал.* матылёк. Кацярэ́жкі белыя прыляцелі, наверна цёпла будзя (Слабодка, Ветк.).

КАЧАВІ'ЛА *н.* месца *(выкачанае жывёлай)*. Даўней казалі, што ні можно станавіцца на качавіле: кароста нападзе (Дзвіжкі, Ельск.). *Параўн.* качаві́шча *ў 1 знач.*

КАЧАВІ'ШЧА *н.* 1. *тое, што* качаві́ла. Конь зрабіў качавішча на пасевах (Дзям'янкі, Добр.); 2. логава. Як я напалохалася, як убачыла качаві́шча, але ваўкоў там не было (Дзям'янкі, Добр.).

КАЧА'ЛКА *ж.* 1. *тое, што* каўры́жка. Кача́лка бывае то круглая, то зубчатая, рубчастая (М. Аўцюкі, Калінк.); Зрабі кача́лку, бялізна высахла ўжо (Залессе, Чач.); Трэ забраць кача́лкі свае ў суседкі, бо трэ качаць палатно (Махновічы, Маз.); Кача́лак у мяне няма, уцюг маю (Багданавічы, Карм.); 2. таўкач. Дзе ж тая кача́лка падзелася? Ту́т трэба картоплі таўкці (Ляскавічы, Петр.); Возьмі кача́лку і потоўчы картоплю (Вуглы, Нар.); Натаўкла-натаўкла кача́лкай картопель і нехай едзяць (Грабаў, Петр.); 3. верацяно. Качалку трэба яшчэ сённі напрасць (Баравікі, Светл.); 4. загіб *(у ніжняй частцы калыскі)*. Аббі ў калысцы кача́лкі войлакам (Рудня, Чач.). *Параўн.* качо́лка *ў 1—2 знач.*, качо́ўка.

КАЧАМЯ'ЛО *н., зневаж.* чалавек *(няўклюдны)*. То качамя́ло не разгоніцца (Ліпляны, Лельч.); Етага качамя́лу ніхто ў нас не любіць (Піркі, Браг.).

КА'ЧАНКІ *толькі мн., тое што* катáнкі. Раней мы самі дзелалі ка́чанкі з кудзелі (Барталамееўка, Ветк.).

КАЧАРЭ'ЖНІК *м.* 1. *тое, што* кавéннік. З качарэ́жніка выграбі смецце, бо плоха так (Запясочнае, Лельч.); Ну што ты, нераха, загрэбла смецце ў качарэ́жнік і венікам прыкрыла (Грабаў, Петр.); У качарэ́жніку ўжэ ад вілак мост пачэрнеў (Маркавічы, Гом.); 2. тронак *(вілак)*. Саўсім перагарэў качарэ́жнік, нада новы здзелаць (Дзям'янкі, Добр.+Азяраны, Раг.; Асінаўка, Чач.; Быч, Карм.; Галоўчыцы. Нар.; Дзям'янкі, Добр.; Марозавічы, Б.-Каш.; Р.-Бурыцкая, Лоеўск.; Хізы, Ветк.; Холмеч, Рэч.). *Параўн.* кавéшнік, камéшнік, качырэ́жнік (качэрэ́жнік), кувéнік.

КАЧА'Т *м.* уключына. Раней качаты́ ў нас дзеравяныя дзела́лі (Баравікі, Светл.); Багата ў каго качато́ў няма, асобенна на маленькіх лодках (Хізы, Ветк.).

КАЧКА́РНІК *м.* месца *(куп'істае)*. Ідзіце па сцежке, а там па качка́рніку (Карынёўка, Гом.). *Параўн.* ку́пнік.

КАЧО́ЛКА *ж.* 1. *тое, што* каўры́жка. Я пасціраю хвіранкі да выкачаю на качо́лку, дак і ўцюжыць не нада (Валахоўшчына, Браг.); На гладкую качо̀лку пакруціш, а рубчастай качаеш, вот і гладзіцца (Баравікі, Светл.); Пайду пакачаю хоць качо́лкай бялізну, уцюг перагарэў (Хальч, Гом.); Зубцы на качо̀лцы паадбіваліс̀ь (Заспа, Рэч.); Тады ўцюгоў не было, усё чыста на качо́лкі качалі (Баравікі, Светл.); 2. *тое, што* кача́лка *ў 2 знач.* Дай качо́лку бульбу патаўкці, а то ў мяне нямашака (Крыўск, Раг.); 3. *тое, што* като́к. Штось качо́лкі няроўныя ў кроснах (Старажоўцы, Жытк.); 4. чарот. У нас качо́лкі і галкамі завуць (Неглюбка, Ветк.); 5. *перан., тое, што* капа́ II. Ну і ўзяў жа сабе качо̀лку ў жонкі (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* каце́лка (кацёлка) *у 2 знач.*, кацю́шка, кача́лка *ў 1—2 знач.*, качо̀ўка.

КАЧО́ЎКА *ж., тое, што* каўрыжка. Вунь у вуглу качо̀ўка, вазьмі да пакачай плацце (Прыбыткі, Гом.). *Параўн.* кача́лка *ў 1 знач.*, качо́лка *ў 1 знач.*

КАЧУБЕ́Й *м., заал.* соня. Качубе́й хараша спявае (Аравічы, Хойн.).

КАЧУ́ЛКА *ж., тое, што* каўры́жка. Падай качу́лку, нада бяллё пакачаць (Палессе, Чач.); Качаюць качу́лкамі, адну заварачваюць, а другой рухаюць (Касцюкоўка, Гом.).

КАЧУ́ЛЬНІК *м.* качалка *(для бялізны рубчатая)*. Дзе ж гэта качу́льнік запрапасціўся? (Іскра, Чач.).

КА́ЧУ́Р *м.* качар. Ка́чур і вутва як кінуліс̀ь у розныя бокі (Дзяржынск, Лельч.); Вутак жа скрозь багата мы дзержым, а качуро̀ў — два-тры (Ручаёўка, Лоеўск.+Мілевічы, Жытк.; Новая Дуброва, Акц.).

КАЧЫРЭ́ЖНІК (качэрэ́жнік) *м.* 1. *тое, што* каве́ннік. Ля качырэ́жніка стаяла табурэтка (Уць, Добр.); Замеці смецце пака ў качэрэ́жнік (Холмеч, Рэч.); 2. *тое, што* качарэ́жнік *у 2 знач.* Перад празьнікамі мы ўсігда чысцім качэрэ́жнікі (Холмеч, Рэч.). *Параўн.* каве́шнік, каме́шнік, качарэ́жнік у *1—2 знач.*, куве́нік.

КАЧЭРЫ́ЖНІК *м.* храпка. Вунь малы качэры́жнік грызе (Грушаўка, Нар.).

КАШАЛА́ПЫ *прым., тое, што* кацала́пы. Етаму кашала́паму нада пяць пар на лета сандаль (Шылавічы, Б.-Каш.).

ҚАША́РА I *ж.* 1. месца (*адгароджанае для жывёлы*). На абед загонім у кашáру кароў да прывіўкі зробім (Астрагляды, Браг.); Тавар пагналі ўжо на кашáру (Гноеў, Хойн.); Трэба адправіць мужчын, штоб зрабілі кашáры ў лесе для кароў (Марозавічы, Б.-Қаш.+Амельня, Раг.; Баравікі, Светл.; Будкі, Нар.; Дзям'янкі, Добр.; Засінцы, Ельск.; Махновічы, Маз.; Навінкі, Калінк.; Ручаёўка, Лоеўск.; Сівенка, Ветк.); 2. *перан.* пляцоўка (*танцавальная*). Сягодні будуць у кашáры танцы (Паганцы, Светл.). *Параўн.* кашáрка.

ҚАША́РА II *ж.* калёсы (*са скрыняй*). Қ насыпу на кашáрах падвозілі пясок (Кароткавічы, Жлоб.); Вечарам нагрузілі бульбу ў кашáру ды й дамоў (Кароткавічы, Жлоб.).

ҚАША́РКА *ж., памянш. да* кáшара I *у 1 знач.* У каго двор большы, дык робяць кашáрку (Халочча, Чач.).

ҚА́ШҚА *ж.* пупышка (*хвоі*). У тым годзе было многа кáшкі на соснах (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.).

ҚАШҚЕ́Т *м.* убор (*галаўны мужчынскі*). Васіль надзяваў свой кашкéт толькі ў непагоду (Дзяміды, Ельск.).

ҚАШЛЯ́ЦЬ *незак.* кáшляць. Вельмі многа курыць, таго ён так і кашляе (Бабовічы, Гом.).

ҚАШО́ЛҚА *ж.* карзіна. Қашòлку як папацягала, дак жывот баліць (Чырвоная Дуброва, Рэч.); Хазяін мой дужа красівыя кашòлкі плёў (Кароткавічы, Жлоб.). *Параўн.* кашýлка, кòзуб.

ҚАШТАВА́ЦЬ I *незак.* мець цану. У нас дзёшава каштýе на базары бульба (Марозавічы, Б.-Қаш.).

ҚАШТАВА́ЦЬ II *незак.* прабаваць. Қаштавáла я ўсё, каштавáла да і наелася (Баравікі, Светл.).

ҚАШУ́ЛІЦА *ж.* кашуля. Няма каму кашýліцу памыць (Қасцюкоўка, Гом.).

ҚАШУ́ЛҚА *ж., тое, што* кашòлка. Дайце кашýлку схадзіць на базар (Қапань, Рэч.); З кашýлкай ходзіш у лаўку, у Гомяль ездзіш (Барталамееўка, Ветк.+Бабовічы, Гом.; Салтанаўка, Б.-Қаш.). *Параўн.* кòзуб.

ҚАШЭ́ЛЬ I *м.* 1. кош. Маці накапала поўны кашэ́ль буракоў (Багуцічы, Ельск.); Поўны кашэ́ль грыбоў набрала (Навасёлкі, Петр.); Почопку трэба почэпіць на кашэ́ль мякку, штоб не рэзала ў плечы (Углы, Нар.); 2 сумка (*плеценая*). Спляці кашэ́ль, а то няма з чым па хлеб схадзіць (Славань, Светл.); 3. кашалёк. Қашэ́ль у мяне не па грашах (Ніўкі, Добр.); Знаю я яе, у яе поўны

кашэ́ль грошай (Жгунь, Добр.); 4. *перан.* кішэня. Ну і кашалі ў цябе ў штанах (Шырокае, Б.-Каш.). *Параўн.* кашэ́ля.

КАШЭ́ЛЬ II *м.* лапаць. Кашалі плятуць з шырокіх лык без строк (Быч, Карм.); Канешне, кашалі плясці лягчэй, дык яны насіліся меней (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.).

КАШЭ́ЛЯ *ж., тое, што* кашэ́ль I *у 1 знач.* Адну едзінствену кашэ́лю назбіралі жукоў і папалілі (Грушаўка, Нар.).

КАЮ́ТКА *ж.* пакойчык. Паробіш тыя каю́ткі, і места больш у хаце (Грушаўка, Нар.).

КВАКУ́ХА *ж.* квахтуха. Во ета рабая квакуха ўжэ, мусіць, нядзелю квокча (Патапаўка, Б.-Каш.); Не відаць ні квакухі, ні куранят (Забалацце, Рағ.+Багданавічы, Карм.; Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* кватарка, квоктушка, квочка, куранятніца, куратніца.

КВА́РТКА *ж.* кварта. Набяры яму поўную квартку, хай п'е (Астрагляды, Браг.).

КВАРТО́ЎКА *ж.,* мера *(сыпкіх цел).* Прадалі б хоць адну квартоўку мукі (Баравікі, Светл.); У квартоўцы дваццаць чатыры кілаграмы пшана ляжыць (Марозавічы, Б.-Каш.).

КВАС *м.* закваска. Дай квасу хлеб расчыніць (Цешкаў, Нар.); Квас возьмеш у дзежцы (Каравацічы, Рэч.+Дзям'янкі, Добр.; Ст. Рудня, Жлоб.).

КВА́СКА *ж.* дзежка. Капусты для гэтай кваскі не хопіць (Завайць, Нар.).

КВАСО́ЛІНА *ж.* фасоліна. Хоць бы адну квасоліну ў супе найці (Новая Дуброва, Акц.).

КВАСО́ЛЬНІК *м.* 1. *зборн.* лісце *(фасолі).* Выкінь квасольнік у хлеў (Неглюбка, Ветк.); 2. суп *(фасолевы).* Квасольнік усегда с ахвоткай елі ўсе (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.).

КВАСО́ЎКА *ж. кулін.* страва. Здорава летам халодненькай квасоўкі паесць (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.).

КВА́ТАРКА *ж., тое, што* квакуха. Кватарка села, нанесла яец (Піркі, Браг.). *Параўн.* квоктушка, квочка, куранятніца, куратніца.

КВАТЭ́РАЧКА *ж.* фортачка. Адкрый кватэрачку, душна штось (Раманавічы, Гом.). *Параўн.* кватэрка *ў 1 знач.,* кворткa.

КВАТЭ́РКА *ж.* 1. *тое, што* кватэрачка. Адчыніце кватэрку, няхай паветра ідзе ў хату (Забалацце, Раг.); 2.

адтуліна *(у коміне)*. Закутай юшкай кватэрку (Палессе, Чач.). *Парайн.* квортка.

КВА'ША *ж., тое, што* кулага. Налі вады ў цеста і пастаў на печ, нехай салодзіцца, будзе назаўтра кваша. Даўно квашу тую елі, калі голад быў (Грушаўка, Нар.).

КВЕТКАЕ'Д *м., заал.* пладажэрка. Кветкаед аб'едая лісця на бульбоўніку (Сівенка, Ветк.); Надаелі ўжо етыя кветкаеды (Забалаццe, Раг.).

КВО'КТУШКА *ж., тое, што* квакуха. Посодзіла квоктушку на дваццаць яец, а яна вувела мне пяць пулянят (Аравічы, Хойн.). *Парайн.* кватарка, квочка, куранятніца, куратніца.

КВО'ЛІЦЦА *незак.* ныць. Чагось мае дзіця сення кволіцца ўвесь дзень, напэўна прыхварэе (Заспа, Рэч.).

КВО'РТКА *ж., тое, што* кватэрачка. Нешта наша квортка не зачыняецца (Навасёлкі, Петр.); Такі вецер сільны, што аж квортку адкрыў (Астрагляды, Браг.); Да не ляпай ты кворткай (Лукі, Жлоб.+Баравікі, Светл.; Карчовае, Хойн.; Шылавічы, Б.-Каш.; Ямпаль, Рэч.). *Парайн.* кватэрка *ў 1 знач.*

КВО'ЧКА *ж., тое, што* квакуха. Ой, гора мне, квочка мая кудысьці прапала, як цяпер з пулянятамі быць (Жгунь, Добр.). *Парайн.* кватарка, квоктушка, куранятніца, куратніца.

КВЯЛІ'ЦЦА *незак.* дражніцца. Не квяліцеся адзін з адным, гуляйце добра (Неглюбка, Ветк.).

КВЯ'ЛІЦЬ *незак.* дражніць. Не квяліце дзяцёнка, а то плакаць будзе (Неглюбка, Ветк.).

КЕБ *злучн.* каб. Бацька казаў, кеб вы прыйшлі (Кабанаўка, Жлоб.); Кеб ты сёння ж пайшоў да іх і спрасіў (Грабава, Жытк.).

КЕ'КАЦЬ *незак.* гагатаць. Чаго етыя гусі кекаюць (Бабовічы, Гом.).

КЕ'ЛЬНЯ *ж.* хата *(старая невялікая)*. Трэба новую хату паставіць, а то ета кельня зараз рухне, ды і цесна ў ёй (М. Аўцюкі, Калінк.).

КЕ'ЛЮШКА *ж., тое, што* калюшак. Я адну келюшку вупіла, і галава разбалелась (Лукі, Жлоб.).

КЕ'НДЗЮХ *м., тое, што* каўбух *у 2 знач.* Трэбло було напхаць кендзюха, да няма мяса (Грушаўка, Нар.). *Парайн.* кеўбух.

КЕ'ПА *ж.* кепка. Кепа ў цябе нейкая новая (Грабава, Жытк.).

КЕ́ПСТВА *н.* здзек. Хтосьці с Кіява аткрытку Мар'і на ке́пства прыслаў (Астрагляды, Браг.).

КЕ́РАНСКІ *м.* халасцяк *(немалады)*. А ён у нас ке́ранскі, с трыццаць дзевятага году, а шчэ ні жэніцца (Хізы, Ветк.).

КЕРАСІ́НКА *ж.* лямпа. Як толькі прападаў свет, запальвалі керасі́нку (Марозавічы, Б.-Каш.).

КЕ́ЎБУХ *м., тое, што* каўбу́х *у 2 знач.* Ке́ўбух нада падвесіць дзе-нібудзь на столі (Мормаль, Жлоб.). *Парайн.* ке́ндзюх.

КЕ́ЎЛЯЦЬ *незак.* дажываць *(век)*. Мой бацька ўжо чуць ке́ўляе (Паганцы, Светл.+Вішанькі, Ельск.; Прудок, Калінк.; Турбінка, Маз.).

КЕ́ЎЦАЦЬ *незак.* пэцкаць. Што ты там ке́ўцаеш? (Замошша, Лельч.).

КІВ́ЭЙЗЭР *м.* тэлэвізар. Пойдэм сёння да суседа ківе́йзэр глядзець (Грушаўка, Нар.).

КІ́ДАНЬШЧЫК *м.* сеяльшчык. Дома было ў нас пяць кі́даньшчыкаў (Неглюбка, Ветк.).

КІЁ́ВАШНІК *зборн.* сцяблы *(кукурузы)*. Кіёвашнік пывырывай ды злажы ля хлева (Літвінавічы, Чач.). *Парайн.* кіё́ўнік, кію́шнік, кія́шнік *у 1 знач.,* кіяшы́на, кукуру́знік I.

КІЁ́К I *м.* 1. *памянш. да* кій. Кійко́м яго гані, кійко́м (Хвойнае, Хойн.); 2. тычка. Пайду пастаўлю кійкі́ для квасолі (Баравікі, Светл.); 3. *тое, што* калату́шка *ў 1 знач.* Бойку і кійка́ памыеш і павесіш на сошку (Дзяржынск, Нар.); Падай мне кіёк масла збіць (Забалацце, Раг.); 4. клін *(у навоі)*. А ўчорэ дак мой кіёк у навоі зламаўся (Вялікае Поле, Петр.+Караваці́чы, Рэч.; Кароткавічы, Жлоб.; Лубень, Нар.; Ручаёўка, Лоеўск.; Старажоўцы, Жытк.). *Парайн.* кія́нка, краставі́на, круг IV.

КІЁ́К II *м., бат.* катах. У печы вунь цэлая кайструля кійко́ў (Чкалава, Гом.); Дзеці, бярыце, ешце кійкі́ (Хальч, Гом.+Грушаўка, Добр.; Хізы, Ветк.). *Парайн.* кіё́ўка, кію́шка, кія́н, кія́х.

КІЁ́ЎКА *ж., тое, што* кіёк II. Паглянь, якая ладная кіё́ўка, еш (Залессе, Чач.); Ой і любяць жа кіё́ўкі етые мае ўнукі (Хізы, Ветк.). *Парайн.* кію́шка, кія́н, кія́х.

КІЁ́ЎНІК *зборн., тое, што* кіёвашнік. Усе кіяны паабламала, адзін кіё́ўнік тырчыць (Хізы, Ветк.). *Парайн.* кію́шнік, кія́шнік *у 1 знач.,* кіяшы́на, кукуру́знік I.

КІЗО́К *м.* вышкі. Скінь з кізка́ сена (Грабава,

ла, ці ты кружка́ ня маеш сала рэзаць? (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.); Пакладзі кружо́к, а то кляёнку парэжаш (Залессе, Чач.); Я навек рэжу сало вунь на тым кружку́ (Заходы, Лельч.).

КРУЖО́К III *м., тое, што* каце́лачнік. Ну сарві ўжэ аднаго кружка́ (Пучын, Браг.); Усе кружкі́ ў мяне летась хтось пазварочваў (Баравікі, Светл.). *Параўн.* круг III, кружо́лка (кружэ́лка).

КРУЖО́К IV *м.* палавік *(круглай формы)*. Вельмі люблю, калі на масту кружкі́ ляжаць (Р.-Шлягіна, Ветк.).

КРУЖО́К V *м., тое, што* круг VI. Малыя пойдуць у кружо́к, нарвуць яраю (Холмеч, Рэч.).

КРУЖО́К VI *м.* прылада *(рыбалоўная)*. Ловім яшчэ і на кружо́к (Аравічы, Хойн.).

КРУЖО́ЛКА (кружэ́лка) *ж., тое, што* каце́лачнік. Вараб'і на нет з'елі кружо́лку сону (Дземяхі, Рэч.); Насадзіла на гародзі, дак паадкручвалі ўсе кружэ́лкі (Хізы, Ветк.). *Параўн.* круг III, кружо́к III.

КРУК I *м.* 1. стрыжань *(жалезны)*. Завесу содзюць на крук і крук убіваюць у сцяну (Рудня, Чач.); 2. шост *(з крукам)*. Папраў кру́к, а то ня будзя чым воду набіраць (Аравічы, Хойн.); Глядзі, каб крукам не ўдарыла (Астрагляды, Браг.); 3. кроква. Ціпер крукоў німа, а колісь у сараях былі (Стаўбун, Ветк.); 4. вілы *(для сена, гною)*. Сено з стога выцягваюць кру́ком (Верасніца, Жытк.); Кру́кам скідаў навоз з воза (Гармавічы, Жлоб.). *Параўн.* кручо́к I *у 7 знач.*

КРУК II *м.* крумкач. Крук жыве трыста год (Дзяржынск, Лельч.). *Параўн.* крумка́ль.

КРУМКА́ЛЬ *м., тое, што* крук II. Крумка́ль доўжан вывясці дзеці да мураўя (Лядцы, Светл.).

КРУПА́ *ж.* град. Крупа́ ўсе картоплі паломала (М. Аўцюкі, Калінк.).

КРУПАДЗЁ́Р *м.* майстар *(па вырабу круп)*. Паедам к крупадзёру грэчку драць (Хізы, Ветк.); Я і мельнікам буў і крупадзёрам (Холмеч, Рэч.+Багданавічы, Карм.; Баравікі, Светл.; Дзям'янкі, Добр.; Марозавічы, Б.-Каш.).

КРУПАДЗЁ́РНЫ *прым. да* крупадзёр. Крупадзёрнага чалавека завуць не па імю, а проста: крупадзёрны чалавек (Аравічы, Хойн.).

КРУПАДЗЁ́РНЯ *ж.* адсек у млыне *(па вырабу круп)*.

Замкні крупадзёрню (Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* крупадралка.

КРУПАДРА'ЛКА *ж., тое, што* крупадзёрня. Чаго яны там сабраліся ля крупадралкі (Аравічы, Хойн.).

КРУ'ПЕНЬ *м.* крупнік. Ячменны крупень смачнейшы, калі туды дабаўляюць бульбу ці гарох (Любань, Б.-Каш.); Крупень варым не на адным малацэ, а падліваем ваду (Забалаццe, Раг.). *Парайн.* крупеня.

КРУ'ПЕНЯ *ж., тое, што* крупень. Мы зусім забыліся на крупеню (Залессе, Чач.).

КРУПІ'НА *ж.* кавалак. Адрэж крупіну сала (Дубраўка, Добр.).

КРУПІ'НКА *ж., памянш. да* крупіна. Крупінку сала ўкінь у боршч (Барталамееўка, Ветк.).

КРУПІ'ЧАСКІ *прым.* крупяны *(пра муку)*. Крупічаская мука для бліноў добра (Неглюбка, Ветк.).

КРУПНАСЛО'ІНА *ж.* від драўніны. Крупнаслоіну ў адно места паложым, а мелкаслоіну — у другое (Халочча, Чач.+Баравікі, Светл.; Чырвоная Буда, Добр.).

КРУПЯ'НКА *ж., тое, што* краваўка. Уб'ём кабана, дак крупянак наробім (Прудок, Калінк.). *Парайн.* кравянка, крываўка І.

КРУТАВІ'ЛА *н.* верацяно. Зламалася маё крутавіла, нема чым прасці кудзелю (Агалічы, Петр.).

КРУТАГАЛО'ВЕЦ *м., заал.* круціталоўка. Вунь крутагаловец сядзіць на галіне, галавою пакручвае (Мілевічы, Жытк.). *Парайн.* крутагаловік, крутагалоўка, крутагалоўчык, крутан, круцігаловік.

КРУТАГАЛО'ВІК *м., заал., тое, што* крутагаловец. Крутагаловік вельмо хітры (Дзяржынск, Лельч.+Баравікі, Светл.; Ручаёўка, Лоеўск.). *Парайн.* крутагалоўка, крутагалоўчык, крутан, круцігаловік.

КРУТАГАЛО'ЎКА *ж., заал. тое, што* крутагаловец. Крутагалоўка ўвесь час галавой і круціць, і круціць (Ліпляны, Лельч.). *Парайн.* крутагаловік, крутагалоўчык, крутан, круцігаловік.

КРУТАГАЛО'ЎЧЫК *м., памянш. да* крутагаловік. Крутагалоўчык вядзецца ў лесе (Лядцы, Светл.). *Парайн.* крутагаловік, крутагалоўка, крутан, круцігаловік.

КРУТАГЕ'Р *м.* частка *(самагоннага апарата)*. У апараце ёсць і крутагер — гэта такі бідон з палкай (Піркі, Браг.).

КРУТА'Н *м., заал., тое, што* крутагаловец. Крутаны

на балоце сідзяць да галавой матаюць, да крычаць (Піркі, Браг.). *Парайн.* крутагалóвік, крутагалóўка, крутагалóўчык, круцігалóвік.

КРУТАСВЕ́Т *м., зневаж.* прайдзісвет. Той крутасвéт кінуў міне і пасьля міне круціўся багата разоў (Шырокі, Б.-Каш.).

КРУТА́СЫ *толькі мн.* 1. варыяцыі. А як у гармоні іграе ўсякія там крутáсы (Піркі, Браг.); 2. выкрутасы. Як стануць круціцца да вырабляць розныя крутáсы на танцах (Піркі, Браг.).

КРУТАЯ́Р *м.* лес *(на абрыве).* У нас вунь крутаяр на ўкроне берага (Ручаёўка, Лоеўск.).

КРУТЫ́ I *прым.* стромкі. Круты́ бераг, што дажа і муць нільзя на ем (Хізы, Ветк.); Пад круты́м берагам вада халодная (Высокае, Раг.); Пад шыфер робяць крутýю крышу (Бабовічы, Гом.); З крутóй крышы́ быстра сцікая вада (Р.-Шлягіна, Ветк.).

КРУТЫ́ II *прым.* 1. загусцелы. Крутáя каша, аж у рот не лезе (Бабовічы, Гом.); Мая малая любіць круты́я яйца (Кароткавічы, Жлоб.); 2. туга ссуканы. Круты́я ніткі ідуць на аснову ці на ўток (Хізы, Ветк.); Круты́я ніткі скручваюцца ў вузлікі і імі плоха пользувацца (Холмеч, Рэч.); 3. посны. У магазіне толькі крутóе мяса (Піркі, Браг.). *Парайн.* кры́плы.

КРУХМА́РАЦ *м.* крухмал. Устала рано, надзерла картоплі і крухмáрцу адціснула (Аравічы, Хойн.).

КРУЦЕ́ЛЬ *м.* ашуканец. От круцéль, век мазкамі круціць, людзей абмануе (Марозавічы, Б.-Каш.); Ні буду с табою гуляць у карты, бо ты круцéль (Смятанічы, Петр.).

КРУЦЕ́НЬ *м.* 1. *тое, што* кóшык II. Такі круцéнь накукліла, аж платок ні абшчэпіць (Асінаўка, Чач.); 2. перавясла. У снопе парваўся круцéнь (Грушаўка, Добр.).

КРУЦЁ́ЛКА *ж.* 1. вяртушка *(у калодзежы).* Старая круцёлка ды цяжкая, аніяк ні выцягну вядра (Слабада, Ветк.); 2. ручка *(ў жорнах).* Сламалася круцёлка, муку не дамалолі (Забалацце, Раг.); Круцёлкай круціў, круціў, а мукі намалоў мала (Залессе, Чач.); 3. зашчапка *(у дзвярах).* Раней у нас таксама круцёлка была, пакуль новыя дзверы не зрабілі (Кароткавічы, Жлоб.); 4. від танца. Як начнуць там круціцца, то і называецца круцёлка (Піркі, Браг.).

КРУЦІГАЛО́ВІК *м., тое, што* крутагалóвец. Круціга-

ло́вік ужэ дзяцей сваіх вывеў (Аравічы, Хойн.). *Парaўн.* крутагало́вік, крутагало́ўка, крутагало́ўчык, крута́н.

КРУЦІ'ЦЦА *незак.* увільваць. Як яна не круцілась, а жаць пашла (Баравікі, Светл.).

КРУЦІ'ЦЬ *незак.* 1. круціць. Калаўрот зажмеш і рукой кру́ціш (Холмеч, Рэд.); 2. скручваць. Круці две ніткі ў адну (Піркі, Браг.); 3. вязаць *(перавясла)*. Круціць перавясла — справа лёгкая (Багданавічы, Карм.); Ты круці перавяслы, а я буду вязаць (Ст. Буда, Б.-Каш.); Жанчыны круцілі салому для вязьма (Стаўбун, Ветк.); 4. дзьмуць. Вецер кру́ціць клубы пылу. Ну і круціць снег (Марозавічы, Б.-Каш.).

КРУЦЯНІ' *толькі мн.* від прычоскі *(жаночай)*. А тады гэтыя круцяні перакручваеш наверсе, а паверх чапец (Баравікі, Светл.).

КРУ'ЧА I *ж.* абрыў. Каля ракі у нас бальшая кру́ча (Неглюбка, Ветк.+Бабовічы, Гом.; Піркі, Браг.).

КРУ'ЧА II *ж., тое, што* ка́верт. Бачыш, кру́ча якая, не плыві туды (Бабовічы, Гом.); Купацца нада астарожна, штоб ні папасць у кру́чу (Палессе, Чач.); У кру́чах утануць можна (Баравікі, Светл.).

КРУЧА'К *м., бат.* фасоля *(якая ўецца)*. Круча́к расце ўгару ды ўецца (Піркі, Браг.). *Параўн.* кру́чанка.

КРУ'ЧАНКА *ж., бат., тое, што* круча́к. Мы кру́чанку пачці не садзім, а больш седку (Марозавічы, Б.-Каш.).

КРУЧО'ВІНА *ж.* планка *(бакавая ў баране)*. Дзве на барану нада кручо́віны (Хізы, Ветк.).

КРУЧО'К I *м.* 1. зашчапка. Акно разбухла ад дажджа, і кручо́к ні дастае да прабоя (Рудня, Чач.); Зачыні дзверы на кручо́к (Марозавічы, Б.-Каш.); 2. кручок *(для вязання)*. У мене лучшэй выходзіць кручко́м, чым на спіцах (Піркі, Браг.); Малым металёвым кручко́м вяжуць рышэўкі, а дроўляным кручко́м вяжуць половічкі з трапок (М. Аўцюкі, Калінк.); 3. кручок *(рыбалоўны)*. Кручо́к бывае адзіночны, двайнік, трайнік (Хізы, Ветк.); На кручо́к чапляецца больш за ўсё плотка, вона мала, то з кашоў вулазіць (Замошша, Лельч.); 4. гаплік. Прышый мне кручо́к на юбку (Марозавічы, Б.-Каш.); 5. *тое, што* кляпе́нь. Пяньку ўюць на адзін кручо́к, потым на другі (Бабовічы, Гом.); 6. завеса. Раней дзверы хадзілі на кручка́х (Грабаўка, Гом.); 7. *тое, што* крук I *у 4 знач.* Кручко́м добрэ выцягваць сено. Стары кручо́к лежыць каля хлева (Пагоннае, Хойн.).

КРУЧО́К II *м., устар.* 1. мера гарэлкі *(100 г)*. Выпіў кручо́к гарэлкі (Марозавічы, Б.-Каш.); 2. гладыш. У кручку́ малако стаіць (Дзякавічы, Жытк.+Гармавічы, Жлоб., Насовічы, Добр.).

КРУЧО́К III *м., грам.* коска. Не трэба было кручкі гнуць у целеграме (Аравічы, Хойн.); Ведаеш, Коля, колькі ты прапусціў кручко́ў у цетрадцы? (Ломыш., Хойн.).

КРУ́ЧЧА *зборн.* кроквы. Кру́чча ўжэ прыкрапілі к сціне (Р.-Шлягіна, Ветк.); Нада замяніць кру́чча, ужэ старое (Халочча, Чач.).

КРУ́ШНЯ *ж.* пажарышча. Як згарэла хата, я прыйшла на кру́шню і доўга стаяла. Пасля пажару на сваёй кру́шні я знайшла вось гэтую кухлю (Каменка, Маз.).

КРУШЫ́ННЫ *прым.* крушынавы. Крушы́нны мёд ета самы ранні і дужа смашны (Баравікі, Светл.).

КРЫВАВА́ЦЬ *незак.* зайздросціць. Яны такія ўрэдныя, што заўсёды на нас крыву́юць (Цешкаў, Нар.).

КРЫВА́ВЕЦ *м., бат.* крываўнік. Калі парэжэш палец, то добрэ прыкладваць крыва́вец, шоб не цекла кроў (Падворак, Лельч.+Ручаёўка, Лоеўск.).

КРЫВАСО́С *м., заал.* крывасоска. К нашаму каню крывасо́сы так і ліпнуць (Багданавічы, Карм.+Забалацце, Раг.; Сівенка, Ветк.).

КРЫВА́ЎКА I *ж., тое, што* крава́ўка. Атнясі зараз крыва́ўку цётцы, а то мо пойдзя на работу (Навінкі, Калінк.+Р.-Бурыцкая, Лоеўск.). *Параўн.* кравя́нка, крупя́нка.

КРЫВА́ЎКА II *ж.* панос *(крывавы)*. У майго малога была крыва́ўка (Клясаў, Петр.); Паклалі яго ў бальніцу з крыва́ўкай (М. Аўцюкі, Калінк.+Баравікі, Светл.; Хізы, Ветк.).

КРЫВЕ́Ц *м.* аднавокі. Дзед у іх быў крыве́ц (Чырвоная Буда, Добр.).

КРЫВО́К *м., заал.* кулік. У густой траве на балоце жыве крыво́к (Ямпаль, Рэч.).

КРЫВО́ТА *ж.* зайздрасць. Яго крыво́ты бяруць, што я лягчэй крыху раблю (Пераpoў, Жытк.); З крыво́ты нагаварыў на нас, чаго й не было (Прудок, Калінк.+Заспа, Рэч.).

КРЫВО́ТЛІВЫ (крыво́тны) *прым.* зайздросны. Такі ўжо крыво́тлівы на ўсё чужое (Пераpoў, Жытк.); У мяне такая крыво́тлівая суседка (Узнаж, Светл.); Такіх шчэ

крыво́тлівых людзей я не бачыў (Перароў, Жытк.); Ён без канца крыво́тны буў (Вышалаў, Петр.).

КРЫВУ'ЛЯ *ж.* крывізна. Каб не гэтая крыву́ля, дык дрэва ў сцяну пайшло б (Запясочча, Жытк.); Ты добрэ прыцісқай ручку за землі, а то рыба пуд крыву́лю ўся вуплыве (Замошша, Лельч.); Ткачыха зрабіла крыву́лю, што можна і берда паламаць (Ліпляны, Лельч.).

КРЫ'ГА *ж.* 1. льдзіна. Якія велікія кры́гі плывуць па водзе (М. Аўцюкі, Калінк.); 2. *рыбал.* браднік. Ходылі хлопцы кры́гой, наловілі багато рыбы. Ты рыбу ловіш кры́гою чы комлей? (Грушаўка, Нар.); 3. дзёран. На кусочак кры́гі і падсцелі пуд куронят (Грушаўка, Нар.).

КРЫЖ *м.* 1. *рэліг.* крыж. На крайняй магілцы крыж паваліўся (Беразнякі, Петр.); 2. крыжавіна. Трэба крыж пад дзяжу замяніць (Бабовічы, Гом.); 3. *анат.* крыж. Даўно ўжо ў мяне крыж баліць (Баравікі, Светл.); Нешта ломіць у крыжу́ (Забалацце, Раг.); 4. элемент танца. Становяцца ўчэцвяром і абразуюць крыж (Баравікі, Светл.); 5. *астр.* сузор'е. Крыж на небе бліжэй к восені (Кароткавічы, Жлоб.).

КРЫЖА'К *м., заал.* крыжанка. Крыжа́к — вутва, большая за нырка (Мілевічы, Жытк.); У нас як качка малая, чаратка гаворым, на большую дык крыжа́к (Марозавічы, Б.-Каш.). *Параўн.* крыжа́нка I, кры́жань, крыжна́я, кры́жня.

КРЫЖА'НКА I *ж., заал., тое, што* крыжа́к. Ну скажы ты, крыжа́нка дак усё раўно як розум імее (Вялікае Поле, Петр.); У нас водзюцца крыжа́нкі і чыркі (Кароткавічы, Жлоб.).

КРЫЖА'НКА II *ж., бат.* астра. Крыжа́нка па осені цвіце вельмі ўж хораша. У нас под вокнамі густо крыжа́нок: і белых, і ружовых, і сініх (Грушаўка, Нар.).

КРЫ'ЖАНЬ *ж., заал., тое, што* крыжа́к. Кры́жань пад кустом ляжыць, забіць забілі, а не знайшлі, зазра пціца прапала (Каранёўка, Гом.). *Параўн.* крыжа́нка I, крыжна́я, кры́жня.

КРЫ'ЖКА *ж.* грудка *(лёду)*. У лесе яшчэ ляжаць кры́жкі лёду (Піркі, Браг.).

КРЫЖНА'Я *субст., заал., тое, што* крыжа́к. Вон крыжна́я павяла качанят чэраз дарогу (Карчовае, Хойн.). *Параўн.* крыжа́нка I, кры́жань, кры́жня.

КРЫЖНЫ' *прым. да* кры́жня. Крыжна́я вутка большая, яна такая, як і свойская (Хізы, Ветк.).

КРЫ́ЖНЯ *ж., заал., тое, што* крыжа́к. Я сёння кры́жні пабраў (Навінкі, Калінк.). *Параўн.* крыжа́нка I, кры́жань, крыжна́я.

КРЫ́КСЫ *толькі мн.* хваравіты стан дзіцяці. Кры́ксы падкінуліся к дзіцёнку (Дзям'янкі, Добр.); Сына кры́ксы бяруць (Бабовічы, Гом.); Як дзеці ноччу ні спяць, хто як кажа, хто начніцы, хто кры́ксы (Ліпнякі, Лоеўск.+Баравое, Лельч.; Клясаў, Петр.; Неглюбка, Ветк.; Холмеч, Рэч.).

КРЫКУ́Н *м.* чалавек *(кры́клівы)*. У нас у сям'і няма крыкуна́ (Хізы, Ветк.).

КРЫ́ЛЛЕ (кры́ллі) *н., зборн.* бакавыя часткі *(акучніка, падсядзелка)*. Кры́лле ў акучніка раздвіжное, яно шырыну разоры рэгуліруе (Баравікі, Светл.); Акучнік з трох частак састаіць: стрэлы, кры́лля і наска (Піркі, Браг.); Кры́ллі кладуцца на каня, каб яму спіну не абрэзаць (Марозавічы, Б.-Каш.).

КРЫЛО́ I *н.* 1. крыло *(птушкі)*. У гэтых белых буслаў такія дліночыя кры́лы (Піркі, Браг.); Кры́ла ў гэтай птушкі доўгія, шырокія (Вялікае Поле, Петр.); Ні аднаго вераб'я нема без кры́лаў (Ліпляны, Лельч.); Кры́ламі пцічкі махаюць, за воздух чапляюцца і лётаюць (Углы, Браг.); 2. плаўнік *(у рыбы)*. Паабразай кры́лы ў рыбы, тады жар (Дзям'янкі, Добр.); 3. выступ страхі *(над сцяной)*. Пад крыло́ вешаюць каўбасы, каб сохлі (Дзям'янкі, Добр.).

КРЫ́МКА *ж., бат.* гатунак грушы. У міне на кры́мцы было сёлета ладна іграш (Пярэдзелка, Лоеўск.).

КРЫ́НДЖАЛЫ *толькі мн.* сані *(для вывазкі лесу)*. От, каб знаў, дык узяў бы кры́нджалы, а то гэтыя санкі малыя (Гарадок, Жлоб.).

КРЫ́НКА *ж.* 1. гладыш. Налі кры́нку малака дзеду (Злодзін, Маз.); 2. кубак. Дай мне кры́нку напіцца вады (Замосце, Калінк.); 3. міска. Стаў кры́нку на стол, толькі што будзя ў ёй (Забалацце, Раг.); 4. гаршчок. Накладзі кіюхоў у вялічэйшую кры́нку варыцца. Пастаў кры́нку з вадой на агонь (Злодзін, Маз.).

КРЫНЧУ́К *м., тое, што* кнур. Узяў ды крынчука́ згубіў, як пас (Аравічы, Хойн.). *Параўн.* кнырчу́к.

КРЫ́ПЛЫ *прым., тое, што* круты́ II *у 3 знач.* Такое кры́плае мяса з кабана ў етым годзе (Малевічы, Жлоб.).

КРЫ́СА I *ж.* пацук. Кры́су вялікую сёння мы ўбілі ў каморы (Навінкі, Калінк.); Ёсць такія вялікія кры́сы,

што і каты іх баяцца (Баравікі, Светл.+Бабовічы, Гом; Багданавічы, Карм.; Дзям'янкі, Добр.; Марозавічы, Б.-Каш.; Неглюбка, Ветк.; Піркі, Браг.; Ручаёўка, Лоеўск.; Ямпаль, Рэч.).

КРЫ'СА II *ж.* край *(пасудзіны)*. Ты ж да крысы налівай стакан. Прынесла вядро вады роўна з крысамі (Азяраны, Раг.).

КРЫСА'ЦЬ (крэса́ць) *незак., тое, што* капані́чыць. Узаўтра пойдэм картоплю крыса́ць. Пошлы картоплю крэса́ць (Грушаўка, Нар.).

КРЫСЕ'НАК *м.* дзіцянё пацука. Кот наш крысёнка малога злавіў (Патапаўка, Б.-Каш.). *Парайн.* крысянёнак, крысяня́.

КРЫСІ'ХА *ж.* самка *(пацука)*. Сёння мы крысі́ху здаравенную мышалоўкаю ўбілі (Навінкі, Калінк.).

КРЫСЯНЁ'НАК *м., тое, што* крысёнак. Крысянёнка злавілі, а крыса ўцякла (Бабовічы, Гом.). *Парайн.* крысяня́.

КРЫСЯНЯ' *н., тое, што* крысёнак. Я сёння кардоплі перабірала, дык крысяня́ выбегла з іх (Навінкі, Калінк.); Усіх крысяня́т кот panішчыў (Ямпаль, Рэч.). *Парайн.* крысянёнак.

КРЫ'ТЫ *прым.* запячатаны *(пра рамкі з мёдам)*. Мёд ужо кры́ты (Карма, Добр.).

КРЫЦЬ *незак.* крытыкаваць. Кры́я сабе, хто б там ні быў (Быч, Карм.).

КРЫ'ЧКА *ж., заал.* птушка *(водная)*. Кры́чка — красівая пцічка (Хізы, Ветк.); Кры́чка — тое ж, што і чайка, але ж малая (Баравікі, Светл.).

КРЫШАНІ' (крышаны́) *толькі мн., кулін.* 1. суп *(бульбяны)*. Ідзі снедаць, крышані́ прачахлі (Мікулічы, Браг.); Наварылі крышанёў і засквaрылі салам (Дзям'янкі, Добр.); Бяры ў печы крышані́ с чыгунка, а то пакіснуць (Навінкі, Калінк.). 2. бульба *(смажаная)*. Пакуль прыбегла з хлява, мае крышані згарэлі (Амелькаўшчына, Хойн.); Ідзі хоць трохі з'еж крышанёў (Грабаў, Петр.); 3. бульба *(адвараная)*. Захацела крышано́ў, то трэба наварыць (Махнавічы, Маз.); 4. яблыкі *(сушаныя)*. Бывало, я па мяшку крышанёў сушыла, а цяпер ніхто есці ні хоча (Барталамееўка, Ветк.); 5. страва *(з вады, хлеба, цукру)*. Бабуля зрабіла крышано́ў (Галоўчыцы, Нар.). *Парайн.* кры́шанка, крыша́нне, кры́шні, крышо́нка, крышэ́нік.

КРЫ'ШАНКА *ж., кулін., тое, што* крышані *ў 1 знач.* Наварыла кры́шанкі, дык мае ні адна і ложкі ні памачыла (Крыўск, Раг.); Маці сёння кры́шанку варыла (Камаровічы, Петр.); Кры́шанку трэба зажарыць салам (Заспа, Рэч.). *Парайн.* крышо́нка, крышэ́нік.

КРЫША'ННЕ *н., зборн., тое, што* крышані *ў 3 знач.* Крыша́нне сушаць у печы і ў двары на сонцы (Слабада, Ветк.). *Парайн.* кры́шні.

КРЫША'НЧЫХА *ж.* пляткарка. Крыша́нчыха з доўгім языком, яна ўсё разбалтала (Грабава, Жытк.).

КРЫ'ШАНЬ *м.* бульба *(насенная нарэзаная).* На каждым крышаню́ ямачка. Як няма яе, бульба не ўзойдзе (Марозавічы, Б.-Каш.); Перад тым, як сеяць насенку, рэжуць яе на крышані (Літвінавічы, Карм.).

КРЫ'ШНІ *толькі мн., тое, што* крышані *ў 3 знач.* Сёліта насушыла цэлы мяшок крышнёў (Залессе, Чач.). *Парайн.* крыша́нне.

КРЫШО'НКА *ж., тое, што* крышані *ў 1 знач.* Крышо́нку вельмі смачную зварыла, ідзіце ежце (Церахоўка, Добр.). *Парайн.* кры́шанка, крышэ́нік.

КРЫШЭ'НІК *м., тое, што* крышані *ў 1 знач.* Садзецясе за стол, крышэ́нік гатовы (Займішча, Добр.). *Парайн.* кры́шанка, крышо́нка.

КРЭ'МСАЛА *н.* крэсіва. Гэта ж раней крэ́мсалам агонь дабывалі (Старая Рудня, Жлоб.). *Парайн.* крэ́сало.

КРЭ'ПЛЕНЫ *прым.* падшыты. Валенка лева крэ́плена полотном (Аравічы, Хойн.).

КРЭ'САЛО *н., тое, што* крэ́мсала. Подай, дзеткі, міне крэ́сало, хочу люльку роспаліць (Дзяржынск, Нар.).

КРЭ'ТКА *ж.* аловак. Дзе ты падзела крэ́ткі? (Грабава, Жытк.).

КРЭ'ЎКА *ж., бат.* трава *(лекавая).* Трэба крэ́ўкі нарваць да насушыць (Аравічы, Хойн.).

КСЮ'ЛЬКА *ж.* жарабя. З маёй ксю́лькі будзе харошая лашадка (Лядцы, Светл.). *Парайн.* кусю́лька.

КСЦІ'НЫ *толькі мн.* хрысціны. Ксці́ны ўжо ідуць, як дзіцёнак трохі адздаравее, а другія дык і цераз месяц (Касцюкоўка, Гом.).

КУ'БАЛЬ *м.* прылада *(для аграбання рою).* Рой аграбаць нада, і ку́баль ні можна нідзе найці (Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* ку́бар II.

КУ'БАР I *м.* 1. мяшочак. Купіла цэлы ку́бар пячэння

(Свецкае, Рэч.); 2. кабура. Наган уклаў у ку́бар (Быч, Карм.). *Параўн.* кулёк I.

КУ'БАР II *м., тое, што* ку́баль. Падай мне ку́бар (Неглюбка, Ветк.).

КУ'БАРКА *ж., тое, што* ко́пка III *у 2 знач.* Палож наскі ў ку́барку, хай прасохнуць. Чого воны валяюцца, тые грыбы, возьмі і положы ў ку́барку, няхай сохнут (Грушаўка, Нар.). *Параўн.* куба́шка.

КУБА'ТАРКА *ж.* курыца *(інкубатарная)*. Куба́таркі ета белыя куры, добра несуцца (Углы, Браг.); Вельмі добрых куба́тарак выводзяць на птушкаферме (Багданавічы, Карм.).

КУБА'ТАРНЫ *прым.* інкубата́рны. Куба́тарныя куры яны добрыя яечкі нясуць, но не квокчуць яны ў мяне (Халочча, Чач.). *Параўн.* куба́тарскі, кубато́рны.

КУБА'ТАРСКІ *прым., тое, што* куба́тарны. То наша кура, а то ж куба́тарскія (Піркі, Браг.). *Параўн.* кубато́рны.

КУБАТО'РНЫ *прым., тое, што* куба́тарны. У мяне куры кубато́рныя чорныя (Баравікі, Светл.). *Параўн.* куба́тарскі.

КУБАТУ'РА *ж.* сажалка. Вада ў кубату́ры зрабілася негоднай (Піркі, Браг.).

КУБА'ШКА *ж., тое, што* ко́пка III *у 2 знач.* Зімою му ў куба́шцы сушылі анучы, а летом ягады, бо не месцецца на печы (Заходы, Лельч.). *Параўн.* куба́рка.

КУБЕ'ЛЦА *н., памянш. да* кубло́. На полі пад кустом арэшніку кубе́лца з чатырма яечкамі (Астрагляды, Браг.).

КУ'БІК *м.* кубак. Нашто нам тые ку́бікі купляць, дома хапае (Вуглы, Нар.). *Параўн.* ку́бка.

КУ'БКА *ж., тое, што* ку́бік. Во якая красівенная ку́бка стаіць на стале (Насовічы, Добр.); Зачэрпані мне ку́бку чаю (Чыстыя Лужы, Добр.).

КУ'БЛА *ж.* кубел. Гатуй, мамачка, ку́блу мне (Касцюкоўка, Гом.).

КУ'БЛІЦЦА *незак.* 1. гняздзіцца. Кура ку́бліцца ў пясочку (Баравікі, Светл.); 2. *перан.* круціцца. Што ты ўсе ку́блісся? Угамону табе німашыка (Старая Рудня, Жлоб.); 3. марудзіць. Чаго ты там ку́блішся, рабі хутчэй (Грушаўка, Добр.).

КУБЛО' *н.* 1. гняздо. Трэба іці пазабіраць з кубла́ яйца (Завайць, Нар.); У куросадні куры сабе кубло́ зра-

білі (Хізы, Ветк.); Ластаўкі пад страхой сабе кубло́ звілі (Апанасаўка, Гом.); Найшла сёння аж дзесяць яечак у кублé (Кароткавічы, Жлоб.); Мы сёння ў лес хадзілі, дак багата кýблаў найшлі (Навінкі, Калінк.); 2. *перан., іран.* прычоска *(жаночая)*. Нагарадзіла на галаве кубло́, хоць варону садзі (Прудок, Калінк.+Антонаў, Ельск., Аравічы, Хойн.; Асінаўка, Чач.; Баравікі, Светл.: Дзям'янкі, Добр.; Ліпляны, Лельч.; Патапаўка, Б.-Каш.; Перароў, Жытк.; Ст. Дуброва, Акц.; Ямпаль, Рэч.).

КУ'БЛЫК *м.* від прычоскі *(жаночай)*. Хоча б заплэла кýблыка, а то ходыш, як росомаха (Грушаўка, Нар.).

КУВА'ЦЬ *незак.* кукаваць. Ужэ й зязюлька ў лесі куé (Ліпляны, Лельч.); Паслухай, зязюля кувáе ў лесе (Грушаўка, Нар.). *Параўн.* кýкаць.

КУВЕ'НІК *м., тое, што* кавéннік. Пастаў вілкі ў кувéнік (Піркі, Браг.). *Параўн.* кавéшнік, камéшнік, качарэ́жнік *у 1 знач.,* качырэ́жнік (качэрэ́жнік).

КУГА'КАЦЬ *незак.* крычаць *(аб саве)*. Сава кугáкае усё раўно, як дзіця плачэ (Вялікае Поле, Петр.).

КУГА'НКА *ж.* конаўка. Вун жа кугáнка стаіць, чаму ты набгом п'еш? (Саўгасная, Б.-Каш.).

КУ'ГЛІК *м.* гаршчок *(гліняны)*. У мяне нямашака кýгліка (Уваравічы, Б.-Каш.).

КУДА'Є *м.* кутас. Каб красівей было, рабілі розныя кудáсы (Кароткавічы, Жлоб.); Вутку пов'яс с кудáсамі па канцах (Харомцы, Акц.). *Параўн.* кунтáс.

КУДЗЕ'ЛЬНІК *м.* матрац *(падшыты кудзеляй)*. Кудзéльнік раньшэ ткалі з абчосак (Хізы, Ветк.).

КУДЛА'ТЫ *прым.* кучаравы. Такі ўжо ў яе кудлáты сын (Хвойнае, Хойн.).

КУДРА'ВЕЦ *м., бат.* белакудранік. Кудрáвец жа расце ў нас па полю (Ручаёўка, Лоеўск.).

КУ'ДРЫЦЦА *незак.* віцца *(пра валасы)*. Волас сам твой кýдрыцца (Быч, Карм.).

КУ'ЖАЛЬНЫ *прым.* кужэльны. Кýжальная палатно самая луччая (Бывалькі, Рэч.); У дзеда ёсць і цяпер сарочкі з кýжальнага палатна (Ст. Буда, Б.-Каш.).

КУЖО'ЛКА *ж.* звязка лёну *(пасля часання)*. Хадзілі мы на вячоркі калісь, за вечар па дзесяць кужóлак спрадалі (Ларышчава, Добр.). *Параўн.* кýкла *ў 1 знач.*

КУЖУ'РКА *ж.* кажух *(пацягнуты сукном)*. У майго зяця добрая кужýрка (Бабовічы, Гом.).

КУ'З *м.* 1. гуз. Стукнуўся аб дзверы, дак адразу куз

сеў (Ломыш, Хойн.); 2. гузік. Прышый куз, а то баўтаецца. Купіла сабе пяць кузо́ў (Макарычы, Петр.); *Парайн.* ку́зік.

КУЗЕ'НЬКА *ж.* кошык *(з бяросты).* Набрала сёння поўную кузе́ньку ягад (Углы, Ельск.); Дзед мой рабіў вельмі добрыя кузе́нькі — акуратненькія, маленькія (Аравічы, Хойн.). *Парайн.* ку́зка.

КУ'ЗІК *м., тое, што* куз *у 2 знач.* Ку́зіка каля каўнера заплікні, а то зусім замерзнеш (Грабава, Жытк.); Чаго ты ку́зікаў красівейшых не купіла ў кохту? (Р. Каменева, Лоеўск.).

КУ'ЗКА *ж., тое, што* кузе́нька. Дзед Мікіта сабярэ дзяцей, папляце ім ку́зкі і за ягадамі павядзе (Кароткавічы, Жлоб.).

КУ'КАЛЬ *м.* пустазелле. У пшаніцы ку́калю мнажэнна, аж красна́ ат яго (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.).

КУ'КАЦЬ *незак. тое, што* кува́ць. Кукушкіно дзело толькі ку́кацъ і ку́кацъ (Аравічы, Хойн.).

КУ'КЛА *ж.* 1. *тое, што* кужо́лка. Лён трэба патрапаць, абадраць, пачасаць, а тады звязаць ку́клу (Марозавічы, Б.-Каш.); Ку́клы ў яе ўсе роўненькія (Забалаццe, Раг.); Я багат сёдні зрабіла ку́клаў (Давыдаўка, Гом.); 2. від прычоскі *(жаночай).* У нашай дохтаршы косы добрые, і закручана ку́кла (Зацішша, Б.-Каш.). Зрабіла гэтую ку́клу на галаве, што аж страшна глядзець (Хутар, Светл.). 3. соска *(з хлеба і цукру).* Ку́клу сажмі ў марлю да дай, хай сабе ссе (Бабовічы, Гом.); Я ему ку́клу зраблю, ён і цмуліць (Холмеч, Рэч.+Ст. Дуброва, Акц.).

КУ'КЛАЧКА *ж.,* памянш. *да* ку́кла *ў 1 знач.* Чэшуць лён і вяжуць у ку́клачкі (Насовічы, Добр.).

КУ'КЛЫ *толькі мн.* кветка *(хатняя).* Ку́клы цвітуць жоўтым цветам, як вяргоні (Аравічы, Хойн.).

КУ'КСА *ж.* астатак *(ампутаванай рукі, нагі).* Па начах у яго баліць ку́кса (Неглюбка, Ветк.); Адна нага асталася, а другую на вайне аставіў, з ку́ксай прыехаў (Холмеч, Рэч.); Ку́ксай нічога не зробіш (Залессе, Чач.); 2. карова *(бязрогая).* Ад суседкінай ку́ксы вырасла такая ж самая бязрогая карова (Карчовае, Хойн.); 3. від прычоскі *(жаночай).* Косы ў яе харошые, каса тоўстая і закручана ку́кса (Зарэчча, Жлоб.); Зрабі і мне таку прыгожу ку́ксу, як у цябе (Хальч, Гом.); У вёсцы ўсе, жанчыны носяць ку́ксы (Н. Гута, Гом.); 4. кветка *(буй-*

*ная)*. Ідзі зрэж ку́ксы (Баравікі, Светл.). *Парайн.* куцэ́ўка.

КУКСА'ТЫ *прым. да* ку́кса *ў 2 знач.* Купіў мой кукса́тую карову (Ст. Дуброва, Акц.).

КУКУ'ЛКА *ж., бат.* ятрышнік. Дзе ета ты такіх ку́кулак нарвала? (Халочча, Чач.). *Парайн.* куку́шка *ў 2 знач.*

КУКУ'ЛЯ *ж.* зязюля. Куку́ля прымосціцца ў екой пцічкі і несе еечкі там (Ручаёўка, Лоеўск.). *Парайн.* куку́ша, куку́шка *ў 1 знач.*

КУКУРУ'ЗНІК I *зборн., тое, што* кіёвашнік. Сабралі ўжо на сілас кукуру́знік (Хізы, Ветк.). *Парайн.* кіёўнік, кію́шнік, кія́шнік, кіяшы́на.

КУКУРУ'ЗНІК II *м., тое, што* крапіўнік II. Сваіх хапае, ды шчэ кукуру́зніка прывіла, а каб табе ліха было (Марозавічы, Б.-Каш.).

КУКУРУ'ЗНІШЧА *н., тое, што* кіяша́нішча. Кукуру́знішча пераворваюць ды й сеюць бульбу ці буракі (Баравікі, Светл.). *Парайн.* кукурузя́нішча.

КУКУРУЗЯ'НІШЧА *н., тое, што* кіяша́нішча. Ідзі карову прыгані на кукурузя́нішча (Літвінавічы, Чач.). *Парайн.* кукуру́знішча.

КУКУ'ША *ж., тое, што* куку́ля. Што ета куку́ша цэлы дзень куе? (Стаўбун, Ветк.). *Парайн.* куку́шка *ў 1 знач.*

КУКУ'ШКА *ж.* 1. *тое, што* куку́ля. Куку́шка баравая, пракукуй мне, рабая, колькі мне на свеце жыць (Ст. Дуброва, Акц.); Куку́шка кукуе да палавіны лета, пасля ее ўсе пцічкі б'юць (Углы, Браг.); 2. *тое, што* куку́лка. Куку́шкі на зелле рвалі (Халочча, Чач.). *Парайн.* куку́ша.

КУЛА'ГА *ж., кулін.* кулеш. Сёння кула́га ўдалася (Ломыш, Хойн.); На прыпячку стаіць варэйка кула́гі (Капань, Рэч.); Боўтаюць кула́гу з грэцкай мукі, тады яна кісьне, тады ў печ і вараць (Неглюбка, Ветк.); З жыта кула́гу дзелалі і елі (Азяраны, Раг.+Грушаўка, Нар.; Замосце, Калінк.; Заходы, Лельч.; Камаровічы, Петр.; Кароткавічы, Жлоб.; Насовічы, Добр.).

КУЛА'ЧЧА *н., зборн.* кулакі. Як стаў кула̀ччам мясіць (Быч, Карм.).

КУЛДЫКА'ЦЦА *незак.* перакульвацца. Хопіць табе ўжо кулдыка̀цца, галава забаліць (Грушаўка, Добр.).

КУЛЁ'К I *м., тое, што* ку́бар *у 1 знач.* Дак купі ты ему еты кулёк канфет (Холмеч, Рэч.).

КУЛЁК II *м., памянш. да* куль *(саломы, лёну)*. Кулёк саломы меней за куля (Баравікі, Светл.); Я сёдні ні аднаго кулька́ не намяла. Сёння намяла пяць ці тры кулькі, а ў кульку́ двенаццаць жмень (Хізы, Ветк.).

КУЛІ'ДА *ж.* булка хлеба. Купі мне две куліды хлеба (Заходы, Рэч.). *Параўн.* кулідка.

КУЛІ'ДАЧКА *ж., памянш. да* куліда. Купі і мне кулідачкі дзве хлеба (М. Аўцюкі, Калінк.).

КУЛІ'ДКА *ж., памянш. да* куліда. У цёткі я пазычыла кулідку хлеба для сняданку. Купі пяць кулідак хлеба і на маю долю (Крушнікі, Маз.+Багуцічы, Ельск.; Заспа, Рэч.; Ломыш, Хойн.; Навасёлкі, Петр.).

КУ'ЛІК *м., заал.* кулік. Ку́лік больш ходзя, чым лётая (Патапаўка, Б.-Каш.); Ку́лік ляціць па-над вадой і спявае «ку-лік, ку-лік» (Ліпляны, Лельч.); Ку́лікі кладуць яйцы ў купельцы на балоце (Піркі, Браг.+Аравічы, Хойн.; Лядцы, Светл.; М. Аўцюкі, Калінк.; Насовічы, Добр.; Ямпаль, Рэч.).

КУЛО'Ч'Е *н., зборн.* атрэп'е. Няма ніякага толку з куло́ч'я. Спрадзеш і ніткі рвуцца (Дуброва, Лельч.).

КУЛЬДЗЮ'М *м., тое, што* кааператыў *(капераціў)*. Каля кульдзю́ма людзей многа сабралася (Саўгасная, Б.-Каш.); Пайду ў кульдзю́м хлеба куплю (Шылавічы, Б.-Каш.).

КУ'ЛЬМАН *м.* світка. Калісь ткалі ку́льманы з башлыкамі (Чырвоная Буда, Добр.).

КУЛЬНУ'ЦЦА *зак.* упасці. Вунь кульну́ўся і ногі ўгору задраў (Піркі, Браг.).

КУЛЮ'КА *ж., тое, што* кавеня́. Дзе наша кулю́ка падзелася? (Зарэчча, Жлоб.). *Параўн.* кавяня́, каменя́, камяня́, кацу́ба.

КУМА'Р *м.* камар. Улетку няма спасу ад кумаро́ў, вельмі ж назойлівыя насякомуе (Антонаў, Ельск.).

КУМА'ЦЬ *незак.* знікаць. Глянь, ужэ месяц кума́е (Піркі, Браг.).

КУМЕ'КАЦЬ *незак.* разумець. Такая ўжо дзеўка, нічога не куме́кае (Баравікі, Светл.).

КУ'МКАЦЬ *незак.* квакаць. Жабы на дож, мусіць, ку́мкаюць (Дзвіжкі, Ельск.+Баравікі, Светл.; Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* курча́ць.

КУ'МЛЯ *ж., рыб., тое, што* ко́мля. Ужэ настало лето, то ку́млі не скіне з плеч, будзе кажды дзень цегціса на ту канаву (Замошша, Лельч.+Верасніца, Жытк.).

КУ'МСА *ж., тое, што* кýкса. Астаўся мой мужык з кýмсай (Піркі, Браг.).

КУНІ'ЦЫН *прым.* кунічы. Куніцын мех вельмі дарагі (М. Аўцюхі, Калінк.).

КУНТА'С *м., тое, што* кудáс. Кунтáсы ўсегда дзелалі яркія і красівыя (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.).

КУНЯ'ЎКАЦЬ *незак.* мяўкаць. Дай кату чаго, досыць яму ўжо куняўкаць (Піркі, Браг.).

КУНЯ'ЦЬ *незак.* спаць. Ты не есі, а куняеш над міскай (Грушаўка, Нар.).

КУПА'ВА *ж., бат.* гарлачык. У купàве етай ат трахомы, ат залатухі купаюць (Хізы, Ветк.). *Параўн.* кýрачка II.

КУПА'ЎКА *ж., бат.* купáлка. Купáўкі на кут ставім (Гарывада, Рэч.+Баравое, Лельч.; Ломыш, Хойн.).

КУПЕ'Ц *м.* пакупнік. Мой дзед гаворыць не пакупацель, а купéц (Баравікі, Светл.+Марозавічы, Б.-Каш.; Ручаёўка, Лоеўск.).

КУ'ПНІК *м., тое, што* качкàрнік. Чаго яны па етом кýпніку пайшлі (Бабовічы, Гом.).

КУПО'ВАНЫ *прым.* куплены. Выцірайся купóваным рушніком (Ліпляны, Лельч.).

КУПТЫРЫ' *толькі мн., бат.* трава *(балотная).* Яна лецейка з балота куптыры́ насіла (Быч, Карм.).

КУ'РА' I *ж.* курыца. Ну і курá ў мяне, кожны дзень зімой нясецца (Ямпаль, Рэч.); Дзе наша рабенькая курá, ужэ трэйці дзень яе ні бачу (Каравацічы, Рэч.); Кýра некуды сышла (Халочча, Чач.).

КУ'РА II *ж.* грыб. Чаго ты не бярэш курэ́й? Іх жа ядуць (Халочча, Чач.+Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* кýрачка I.

КУ'РАВА *н.* пыл. Праехала машына да нарабіла кýраву (Бярэзнікі, Жытк.). *Параўн.* куро́та.

КУРАДА'Ў *м., заал.* ястраб. Курадàў унёс тры курыцы, дзве здохла, так і паравялісь (Каранёўка, Гом.).

КУРА'К I *аг.* курыца *(гермафрадыт).* Ета ж не кура, а курáк нейкі (Грушаўка, Добр.). *Параўн.* курáч I.

КУРА'К II *м.* трэска *(гнілая).* Як нема дымара, то пудкурваюць пчол куракáмі (Заходы, Лельч.). *Параўн.* курáшка.

КУРАНЁНАК *м., памянш. да* кураня. Ужо прапаў адзін куранёнак (Залессе, Чач.); З дзесяці толькі тры куранёнкі асталася (Баравікі, Светл.).

КУ'РА'НКА *ж.* хата *(курная)*. У нас раней була ку́ранка (Холмеч, Рэч.); Як тая Нюра жыве ў той кура́нцы (Шылавічы, Б.-Каш.). *Параўн.* курніца, куры́нка.

КУ'РАНЬ *м.* хата. Ідзі ў ку́рань, чаго мерзнеш на вуліцы (Саўгасная, Б.-Каш.).

КУРАНЯ'ТНІЦА *ж., тое, што* кваку́ха. Такая клапатлівая ў мяне кураня́тніца ў етым годзе (Карчовае, Хойн.); Унадзілася кураня́тніца з куранятамі ў грады. Падралі там усё на свеці (Залессе, Чач.; Бабовічы, Гом.; Грушаўка, Добр.). *Параўн.* ква́тарка, кво́ктушка, кво́чка, кура́тніца.

КУРА'ПА *ж.* жаба. Кура́па ледзь карабкаецца (Кароткавічы, Жлоб.).

КУРА'ТНІЦА I *ж.* птушніца. Кура́тніца яшчэ не прыйшла, а трэба курэй карміць (Халочча, Чач.); Я была першай кура́тніцай у саўхозе (Баравікі, Светл.+Багданавічы, Карм.; Забалацце, Раг.; Завайць, Нар.; Кароткавічы, Жлоб.; М. Аўцюкі, Калінк.; Марозавічы, Б.-Каш.; Піркі, Браг.).

КУРА'ТНІЦА II *ж., тое, што* кваку́ха. Кура́тніца як якая. Адна доўга водзіць, а адна яшчэ малых пакідае (Хізы, Ветк.). *Параўн.* ква́тарка, кво́ктушка, кво́чка, кураня́тніца.

КУРА'Ч I *м., тое, што* кура́к. Гэта ж у вас кура́ч, не голосіць і не несецца (Грушаўка, Нар.).

КУРА'Ч II *м.* ануча *(для падпальвання)*. Звярні-ка кура́ч (Бабовічы, Гом.).

КУ'РАЧКА I *ж., тое, што* ку́ра II. Мне не наравяцца ку́рачкі закатаныя (Майскае, Жлоб.); Нада ку́рачкі добра перамыць, а то вельмі пясчаныя (Пабеда, Хойн.); Ку́рачак на зіму намарынавала (Каранёўка, Гом.+Баравікі, Светл.; Забалацце, Б.-Каш.; Ліпнякі, Лоеўск.; Неглюбка, Ветк.; Халочча, Чач.).

КУ'РАЧКА II *ж., тое, што* купа́ва. Ку́рачкі зацвітаюць летам (Марозавічы, Б.-Каш.).

КУ'РАЧКА III *ж.* курапатка. Ку́рачка ўвесь час гаворыць: «Воць ідзёць, кароўку вядзёць, хлява нет, негдзе дзець» (Ліпляны, Лельч.).

КУРА'ЧЫНА *ж.* курацiна. Дзеці шчось не хочуць кура́чыны. Сказалі ў бальніцы есці толькі кура́чыну, а сала і ў рот хоць не бяры (Перароў, Жытк.+Клясаў, Петр.).

КУРА'ШКА I *ж. тое, што* кура́к II. Як пойдзеш на

гарод, ня забудзь узяць кура́шку ці хоць сіта (Быч, Карм.).

КУРА́ШКА II *ж., бат.* губа. Кура́шкі не вытрымліваюць сільнага марозу (Асінаўка, Чач.).

КУРДО́ПА *ж.* бульба. Начысці курдо́пы, наварым соланкі (Башыца, Б.-Каш.).

КУРДУ́ПЕЛЬ *аг.* чалавек *(малога росту)*. У цібе ні дачка, а курду́пель нейкі (Барталамееўка, Ветк.).

КУРДУ́ПЛЕНЬКІ *прым.* маленькі. Быў курду́пленькі, дак маленькае і сала з кабанка было (Быч, Карм.).

КУР'Ё́МЧАНЫ *прым.* мяты. Куды ты етае кур'ёмчанае плацце адзяеш (Неглюбка, Ветк.).

КУ́РКА I *ж., заал.* птушка *(вадзяная)*. Вадзяная ку́рка вельмі маленькая (Навінкі, Калінк.); Ку́рка вадзяная нясе дваццаць чатыры яечкі (Лядцы, Светл.+Кароткавічы, Жлоб.; Карчовае, Хойн.; Ліпляны, Лельч.++М. Аўцюкі, Калінк.).

КУ́РКА II *ж., памянш. да* ку́ра II. Сусед прынёс цэлую карзіну ку́рак (Пабеда, Ветк.).

КУРКО́ЎКА *ж.* стрэльба *(з куркамі)*. Цяпер жэ бальшынство курко́ўкі (Ручаёўка, Лоеўск.).

КУРКУ́ЛЬ *м.* 1. чалавек *(стары)*. Курку́ль сядзіць на прызбе і грэецца на сонцы. Яму ніколі няма работы (Антонаў, Ельск.); 2. чалавек *(заможны)*. У гэтых куркуле́й заўсёды ўсё ёсцяка (Хальч, Гом.).

КУРМЫ́Ш *м.* гульня *(у кошкі-мышкі)*. Хадземце гуляць у курмыша́ (Баравікі, Светл.).

КУРНІ́ЦА *ж., тое, што* ку́ра́нка. Раней хаты былі курніцы (Быч, Карм.). *Параўн.* куры́нка.

КУРНУ́ЦЬ *зак.* прапаліць *(у печы)*. Печ трохі курне́ і пайшла на работу (В. Нямкі, Ветк.).

КУРНЯ́ЎКАЦЬ *незак.* мяўкаць. Нешта кошка курня́ўкае, мо есці хоча (Навінкі, Калінк.+Зарэчча, Жлоб.; Піркі, Браг.).

КУРО́ВАЛАТ *м.* вароты *(у канцы вёскі)*. Днём зачыняецца куро́валат, каб скаціна не нарабіла шкоды ў полі (Барталамееўка, Ветк.).

КУРО́САДНЯ *ж.* седала. Зрабі новую куро́садню, а то старая абвалілася (Халочча, Чач.); Дождж ідзе, а яны не ідуць у куро́садню (Хізы, Ветк.+Азяраны, Раг.; Апанасаўка, Гом.; Дзям'янкі, Добр.; Саўгасная, Б.-Каш.). *Параўн.* куро́санне.

КУРО́САННЕ *н., тое, што* куро́садня. Накарміла ку-

рэй і загнала на куро́санне (Шохаўка, Чач.+Літвінавічы, Карм.; Неглюбка, Ветк.).

КУРО'ТА *ж., тое, што* ку́рава. Летась была така пілота, така куро́та (Грушаўка, Нар.).

КУ'РЦІК I *м.* куртка *(суконная)*. З аднаго сукна шылі ку́рцікі (Быч, Карм.).

КУ'РЦІК II *м., заал.* зімародак. Ку́рцік вельмі красівы, але ж і пужлівы (Баравікі, Светл.).

КУРЧАНЯ' *н.* кураня. Намоклі мае курчаня́ты, трэбо ўзяць у хату (Грушаўка, Нар.). *Параўн.* курчо́нак.

КУРЧА'ЦЬ *незак., тое, што* ку́мкаць. Рапуха курчы́ць на балоце (Баравікі, Светл.+Кароткавічы, Жлоб.; Ямпаль, Рэч.).

КУРЧО'НАК *м., тое, што* курчаня́. Аднаго курчо́нка німа (В. Нямкі, Ветк.).

КУРЫ'ДЛА *н.* курэнне. Я ўжо хачу кінуць куры́дла, але не магу (Ямпаль, Рэч.).

КУРЫ'НКА *ж., тое, што* кура́нка. Хаты раней былі без вокан, куры́нкі (Палессе, Чач.). *Параўн.* курніца.

КУСА'КІ *толькі мн.* кавалкі *(кішак)*. Пeратапі куса̀кі (Неглюбка, Ветк.).

КУСА'НІК *м.* агрызак *(хлеба)*. Скот ё, дык куса́нік не прападзе (Хізы, Ветк.); Не кідай куса́нік на зямлю, а то рукі пераб'ю (Бабовічы, Гом.+Быч. Карм.; Дзям'янкі, Добр.).

КУСА'ЧЫ *прым.* куслівы *(пра муху)*. Куса́чыя мухі як агнём пякуць (Неглюбка, Ветк.).

КУСО'ЧНІЦА *ж.* жанчына-папрашайка. Ганна ета такая кусо́чніца, як старчыха (Шырокае, Б.-Каш.).

КУ'СТА *ж.* хуста. У магазіне і сёдні ёсць яшчэ невялікія ку́сты (Кароткавічы, Жлоб.).

КУСЮ'ЛЬ-КУСЮ'ЛЬ *выкл.* кось-кось. Жарабят завуць: кусю́ль-кусю́ль (Халочча, Чач.).

КУСЮ'ЛЬКА *аг., тое, што* ксюлька. Вон які маленькі кусю́лька (Зялёныя Лукі, Гом.); Кусю́лька пабегла за кабілай (Дубраўка, Добр.); А мы на кабылі с кусю́лькам сеялі бульбу (Патапаўка, Б.-Каш.).

КУ'ТАЦЬ *незак.* гарадзіць *(плот)*. Ку́таў плот тры дні з жардзей (Забалацце, Раг.).

КУ'ТНІК I *м., тое, што* карнявік. У её ку́тнік да баліць (Холмеч, Рэч.); Мне ку́тнік вырвалі (Бабовічы, Гом.); У дзіцёнка ўжо і ку́тнікі паказаліся (Халочча, Чач.); Ад ку́тнікаў адны карэнні паасталіся (Рафалаў,

Браг.); У бабулі вырвалі бальныя кýтнікі (Ваевода, Гом.+Баравікі, Светл.; Забалацце, Раг.; Марозавічы, Б.-Каш.; Хізы. Ветк.).

КУ'ТНІК II *м*. 1. покуць. Любіў я на кýтніку сядзець і расказаваць (Асавец, Маз.); 2. парог. Падрубі, Іван, кýтнік, а то вельмі высокі (Махнавічы, Маз.). Стукнулася ў бані аб кýтнік нагой, то шчэ чутна (Маньчыцы, Маз.+М. Аўцюкі, Калінк.).

КУ'ТНЫ *прым*. карэнны *(зуб)*. Кýтныя то ж крэпкія, гарныя такія зубы (Піркі, Браг.).

КУТО'Х *м*. фіранка. Да свята гаспадыні старанна пяруць кутóхі, каб чыстыя павесіць на вокны (Антонаў, Ельск.).

КУ'ФРЫК *м*. кубак. На стале вунь кýфрык стаіць (Дуброва, Лельч.). *Парайн*. кýхлік *у 1 знач.,* кýхнік.

КУ'ХАЛЬ *м*. збан. Збяры ў большым кýхалі сліўкі (Марозавічы, Б.-Каш.).

КУ'ХАРКІ на кýхарках. На кукішках. Ногі баляць сядзець на кýхарках (Ручаёўка, Лоеўск.).

КУ'ХЛІК *м*. 1. *тое, што* кýфрык. Выпі з кýхліка малака (Сяўкі, Лоеўск.); Набяры вады ў кýхлік ды падай напіцца (Запясочнае, Маз.); На стале хлеб і малако ў кýхліку (Багуцічы, Ельск.); У лаўцы кýхлікі ёсць (Камаровічы, Петр.); 2. спарыш. Беленькі горшочак е з адлае ручкаю, е з двумя і зовуць кýхлікам (М. Аўцюкі, Калінк.); У кýхліку вушка адбілася (Навасёлкі, Петр.); *Парайн*. кýхнік.

КУХМІ'СТРЫЦЬ *незак*. даглядаць. Як яна старанна вінаград кухмíстрыла (Баравікі, Светл.).

КУ'ХНІК *м., тое, што* кýфрык. Падай кýхнік вады (Камаровічы, Петр.). *Парайн*. кýхлік *у 1 знач.*

КУХО'Р *м*. куфар. Кухóр для молодой трэба зрабіць (Мілевічы, Жытк.).

КУХТА'ЛЬ даць кухталя́. Стукнуць кулаком. Як дам у плечы кухталя́, то забудзешся, як цебе і завуць (Хобнае, Хойн.); Я надавала хлопцам кухталёў за тое, што яны ў сад улезлі (Марозавічы, Б.-Каш.).

КУХТАЛЬНУ'ЦЬ *зак*. стукнуць. Ідзі, абшурпанец, ато кухтальнý добра (Лукі, Жлоб.+Халочча, Чач.; Быч, Карм.; Баравікі, Светл.).

КУЦАХВО'СТЫ *прым*. куртаты. У міне е трохі насення куцахвóстай морквы (Забалацце, Раг.).

КУЦЕРМА́ *ж.* шум. У іх у хаці всегда такая куцермá (Забалацце, Раг.).

КУЦО́БКА *ж., тое, што* кавéнька. Дзе мая куцóбка падзелася? (Дубраўка, Добр.).

КУЦЭ́ЎКА *ж., тое, што* кýкса *ў 1 знач.* У яго замест рукі толькі адна куцэ́ўка (Казацкія Балсуны, Ветк.).

КУ́ЧКА *ж.* падпечак. На ноч забером курэй у кýчку, бо памерзнуць на хлеве (Углы, Нар.); Трэ б было паставіць пастку ў кýчку, а то богато мышэй (Грушаўка, Нар.); Лучына ў кýчцы, вазьмі і падлажы на агонь (Багуцічы, Ельск.). Там у кýчцы дастань дроў пален дзве, а то ўжэ патухло ў печы (Замошша, Лельч.+Аравічы, Хойн.; Піркі, Браг.).

КУЧЭ́РКА *ж.* хата *(малая).* Ужо сёмы год, як мы з старой кучэ́ркі перабраліся (Баравікі, Светл.).

КУШАМЕ́РКА *ж.* кашмірка. Купіла сабе кушамéрку без цвятоў з махорчыкамі (Давыдаўка, Гом.).

КУШЫ́Н *м.* збан. Старая карова давала мала малака, у другі раз увечары ні надоіш і кушынá малака (Ларышчава, Добр.); Пейце малако, што ў кушынé (Баравікі, Светл.); Два кушынá сметаны сабрала (Заспа, Рэч.+Багданавічы, Карм.; Калінічы, Нар.; Камаровічы, Петр.; Кароткавічы, Жлоб.).

КУШЫ́НКА *ж., памянш. да* кушы́н. Смятану злівалі ў макацёр, былі і кушы́нкі (Перасвятое, Рэч.).

КШЫ́КАЦЬ *незак.* крычаць *(пра бакаса).* Бекас кшы́кае дзесь у балоце (Карынёўка, Гом.).

К'Я́Х *м., тое, што* кія́х. Пайду здзяру трохі к'яхóў (Пучын, Браг.).

# СКАРАЧЭННІ І ЎМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ

## 1. Назвы раёнаў Гомельшчыны

Акц.— Акцябрскі; Б.-Каш.— Буда-Кашалёўскі; Браг.— Брагінскі; Ветк.— Веткаўскі; Гом.— Гомельскі; Добр.— Добрушскі; Ельск.— Ельскі; Жлоб.— Жлобінскі; Жытк.— Жыткавіцкі; Калінк.— Калінкавіцкі; Карм.— Кармянскі; Лельч.— Лельчыцкі; Лоеўск.— Лоеўскі; Маз.— Мазырскі; Нар.— Нараўлянскі; Петр.— Петрыкаўскі; Раг.— Рагачоўскі; Рэч.— Рэчыцкі; Светл.— Светлагорскі; Хойн.— Хойніцкі; Чач.— Чачэрскі.

## 2. Граматычныя і стылістычныя паметы

абрад.— абрадавае; абразл.— абразлівае; аг.— агульны род; анат.— анатамічнае; арх.— архітэктурнае; астр.— астранамічнае; бат.— батанічнае; буд.— будаўнічае; вет.— ветэрынарнае; ветл.— ветлівае; выкл.— выклічнік; геагр.— геаграфічнае; гіст.— гістарычнае; груб.— грубае; дап. дз.— дапаможны дзеяслоў; дзіц.— дзіцячае; дзеепрым.— дзеепрыметнік; ж.— жаночы род; заал.— заалагічнае; займ.— займеннік; зак.— закончанае трыванне; зборн.— зборнае; зневаж.— зневажлівае; злуч.— злучнік; іран. — іранічнае; крав.— кравецкае; кулін.— кулінарнае; ласк.— ласкальнае; лаянк.— лаянкавае; м.— мужчынскі род; мад.— мадальнае; мед.— медыцынскае; міф.— міфалагічнае; н.— ніякі род; незак.— незакончанае трыванне; павел.— павелічальнае; памянш.— памяншальнае; пар. ст.— параўнальная ступень; параўн.— параўнайце; перан.— пераноснае; праст.— прастамоўнае; прым.— прыметнік; прыназ.— прыназоўнік; прысл.— прыслоўе; пчал.— пчалярскае; рыб.— рыбалоўнае; сад.— садовае; спец.— спецыяльнае; с/г — сельскагаспадарчае; стал.— сталярскае; субст.— субстантываванае; толькі адз.— толькі адзіночны; толькі мн.— толькі множны; ткац.— ткацкае; тэкст.— тэкстыльнае; устар.— устарэлае; цясл.— цяслярскае; шавецк.— шавецкае; экспр.— экспрэсіўнае.

## ЗМЕСТ

*I. Лексікалогія і словаўтварэнне*

БЕЛОРУССКИЙ ЯЗЫК И ЯЗЫКОЗНАНИЕ

Межвузовский сборник

Выпуск IV

На белорусском языке

Рэдактар А. І. Гутарава
Мастацкі рэдактар У. Х. Беленькая
Мастак В. Ц. Лапіцкі
Тэхнічны рэдактар Г. М. Раманчук
Карэктары В. А. Ждановіч, В. В. Нікіціна

АТ 12686. Здадзена ў набор 6/I 1976 г. Падпісана да друку 18/VI 1976 г. Фармат 84Х108 $^{1}/_{32}$. Папера друкарская № 3. Ум. друк. арк. 14,49. Ул.-выд. арк. 15,27. Заказ 31. Тыраж 1000 экз. Цана 1 р. 53 к.

Выдавецтва Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Мінск, вул. Кірава, 24.

Друкарня Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна. Мінск, вул. Кірава, 24.